## “Мая задача, мой гонар – спяваць славу майму роднаму народу” – Эмілі Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей

Паўлін Джонсан нарадзілася ў 1861 годзе ў Чыфсвудзе, у сваім радавым доме ў Рэзервацыі Шасьці Індзейскіх Народаў блізу Брантфарда, што ў Антарыё, Канада. Ейны бацька быў вядомым Правадыром народу Магаўк, чыё радавое індзейскае імя Тэкеянўакей узыходзіць да заснаваньня Канфедэрацыі Іракезаў у 15 ст., яшчэ да таго часу, як еўрапейцы адкрылі Амерыку.

Паўліна ганарылася сваімі продкамі, заўсёды падпісваючыся “Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей”.

Гэтак жа яна ганарылася і сваёй маці, Эмілі Гоўэлс, якая была сваячкай англіканскага місіянера ды стрыечнай сястрой вядомага амерыканскага пісьменьніка Ўільяма Гоўэлса. Паўлін захаплялася смеласьцю сваёй маці выйсьці замуж за магаўка ды выхоўваць сваіх дзяцей у “індзейскім духу ды патрыятызме”, – паводле Паўлініных словаў.

Свае вершы ды апавяданьні яна пачала друкаваць ды чытаць на публіцы ў 1886 г. і ў наступныя дваццаць гадоў, выступаючы ў Канадзе, пасля ў Злучаных Штатах ды Англіі, зрабілася самай славутай канадыйскай пісьменніцай. У эпоху, папярэднюю радыё ды тэлебачанню, у залаты век публічных літаратурных выкананняў яна была сапраўднай зоркай.

У 1909 г., адышоўшы ад сцэны, яна пераехала ў Ванкувер, дзе аднавіла сяброўства са сваім “цілікам-скукам” (вялікім сябрам) Джозэфам Капілана, правадыром племені Сквамішаў, што жылі на Ціхаакіянскім Узьбярэжжы. Падчас доўгіх гасьцяваньняў ды вандровак на каноэ ён апавядаў ёй паданьні свайго народа, якія яна літаратурна аформіла ў знакамітыя “Легенды Ванкувера”.

Натхнёныя сумоўем паміж паэткай з племені магаўк ды апавядальнікам-сквамішам, пададзеныя аўтаркай спачатку як вынік сяброўства, “Легенды Ванкувера” зрабіліся класікай, сапраўднай перлінай канадыйскай індзейскай і дзіцячай літаратуры.

## “Што як гэта вашая зямля, дзе ж вашыя легенды пра яе?”

“Гэта здарылася ў Брытанскай Калюмбіі падчас сустрэчы індзейскай грамады з прадстаўнікамі ўраду белых каланістаў. Нагодай для сустрэчы сталася спрэчка за землі. Урад белых заявіў пра свае правы на гэтую зямлю. Карэнныя жыхары былі вельмі абураныя такой заявай. Яны ніяк не маглі зразумець, пра што гэтыя новапрыбышы тут вядуць. Урэшце адзін са старэйшын здолеў укласьці ўсё іхнае неразуменьне ў адно-адзінае пытаньне. “Што як гэта вашая зямля, – запытаўся ён, – дзе ж вашыя легенды пра яе?” Ён сказаў гэта па-ангельску, але потым перайшоў на гітксан – мясцовую гаворку свайго племені цімшыян – ды пачаў расказваць легенду.
І тады ўсе зразумелі... хаця ні ўрадавыя чыноўнікі, ні нават некаторыя супляменьнікі ня ведалі ні слова на гітксане. Але тое, што яны зразумелі, было больш важным: як легенды надаюць сэнс ды каштоўнасьць мейсцу, якое мы ўважаем за свой дом; як яны, уводзячы нас у сьвет словаў, прывязваюць нас да тае зямлі, на якой жывем; як яны яднаюць нас, разам з тым робячы нас адметнымі”.

Тэд Чэмбэрлін (Ted Chamberlin)

“Легенды Ванкувера” Паўлін Джонсан заслугоўваюць асаблівай увагі. Яны спалучаюць жывы сённяшні дзень з незабыўным мінулым. Паэтцы ўдалося захутаць у адну грацыёзную апавядальную мантыю як нашыя шэрыя горныя вяршыні, нашыя прашытыя сьцяжынамі лясы, нашыя нястомныя сваімі прылівамі воды, гэтак жа й вуліцы ды хмарачосы нашага імклівага гораду. Ванкувер набывае новы выгляд, калі мы глядзім на яго ейнымі вачыма. Сіла мастацкага дару, што яна ўклала ў гэтыя напалову гістарычныя паданьні, плаўнае цячэньне ейнае рытмічнае прозы, выяўляюць яе тым літаратарам, якім мы цалкам можам ганарыцца, – яна зрабіла самы значны ўнёсак у тое, што мы называем сапраўднай канадыйскай літаратурай”.

Бернард Мак-Івой (Bernard McEvoy)

“Гісторыі, сабраныя ў гэтай кнізе, цесна зьвязаныя і з Ванкуверам, і з лясамі, гарамі й водамі, што вакол яго. Але пры гэтым падаюцца ўніверсальнымі, гэтак жа як і ўсе выдатныя мастацкія творы робяцца ўніверсальнымі, калі ў іх гаворыцца, як і ў гэтых гісторыях, пра святасьць каханьня, ці пра захапляльную вернасць, ці пра агідную хцівасьць, ці пра высакародную мужнасьць, адвагу і дабрыню, ці пра адданы клопат бацькоў за чыстую будучыню сваіх дзяцей”.

Маркус Ван Стэн (Marcus Van Steen)




*<u>Лічбамі пазначаныя мясьціны, якія ўдзельнічаюць у легендах:</u>*

**1** – **Парк Стэнлі** (Stanly Park) -- *“Панада, што ў Парку Стэнлі”, “Легенда Сіваш-скалы”, “Страчаныя ловы”*

**2** – **Сіваш-скала** (Siwash Rock) – *“Легенда Сіваш-скалы”*

**3** – **Страчаная Лагуна** (Lost Lagoon) – *“Выспа Мёртвых”*

**4** – **Выспа Мёртвых** (Deadman’s Island) – *“Выспа Мёртвых”*

**5** – **Мыс Броктан** (Brokton Point) – *“Марскі Зьмей”*

**6** – **Мыс Грэй** (Point Grey) – *“Аленевае возера”, “Мыс Грэй”*

**7** – **Рака Капілана** (Capilano River) – *“Пустэльнік”*

**8** – **Фолс-Крык** (False Creek) – *“Аленевае возера”, “Згубленая выспа”*

**9** – **Гара Бурклівая** (Grouse Mountain) – *“Згубленая выспа”*

**ЗЬМЕСТ**



## Тлумачэньні

1 Цілікам — сябар
2 Сагалі Тайі — у перакладзе з індзейскай — Вярхоўны Правадыр. Так яны называюць найвышэйшага Бога.
3 Гром-птушка — міфічная істота ў паданнях усіх паўночна-амерыканскіх індзейцаў, увасабленне духу навальніцы.
4 Сальман — рыба сямейства ласосевых.
5 Клучмэн (інд.) — кабета.
6 Місія — мясцовая суполка, дзе жылі індзейцы, што прынялі хрысціянства.
7 Гайіў чыкімін (інд.) — вялікія грошы.
8 Гайіў мак-а-мак (інд.) — шмат ежы.
9 Тайі — правадыр.
10 Скукам там-там — вялікае сэрца
11 Гайква — грошы з ракавін.
12 Мак-а-мак — прысмакі.
13 Чынукі — індзейскае племя, што жыве на Ціхаакіянскім Узбярэжжы.
14 Чынуцкае, ад чынукі — індзейскае племя.
15 Сквамішы — індзейскае племя, што жыве на заходнім узбярэжжы Канады.
16 Карыбу — паўночны алень.
17 Скваміскі — ад «сквамішы» — племя індзейцаў, што жыве на заходнім узбярэжжы Канады.
18 Кану́ — індзейская лодка.
19 Першы слупок верша «Песня, што спявае маё вясло» (The Song My Paddle Sings).
20 Першы слупок верша «Аджысту» (Ojistoh).
21 Верш «Марнатраўе» (A Prodigal).
22 З верша «Канакрад» (The Cattle Thief).

*Гэтыя легенды распавёў мне сам Джо Капілана, апошні Правадыр з Ванкувера, мой пачэсны сябар, з якім я мела гонар пазнаёміцца ў Лёндане ў 1906 г., падчас ягонага візыту ў Англію, калі ён быў прыняты ў Букінгемскім палацы Ягонай Вялікасьцю Каралём Эдвардам VII ды Каралевай Аляксандрай.*

*Той акалічнасьці, што я змагла павітаць Правадыра Капілана на мове Чынук у той час, як мы абое знаходзіліся за шмат тысячаў кіляметраў ад дому, я забавязана нашым сяброўствам і тым даверам, якім ён так шчыра адарыў мяне, калі пазьней я пасялілася на ягоным родным Ціхаакіянскім Узьбярэжжы. Гэтыя легенды ён расказваў мне час па часе, па настроі, і часта падкрэсьліваў, што ніводзін англамоўны чалавек іх яшчэ ніколі ня чуў, акрамя мяне.*

*Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей*

E. Pauline Johnson







*Від з гары Бурклівай (Grouse Mountain) цяпер*

# ЗГУБЛЕНАЯ ВЫСПА



-- Так, -- сказаў мой стары цілікам[1], -- мы, індзейцы, шмат чаго згубілі. Мы згубілі нашыя землі й лясы, нашую дзічыну й рыбу; мы страцілі нашую старажытную веру, нашую старую добрую вопратку; цяпер моладзь забывае нават матчыну мову, а зь ёю легенды й традыцыі нашых дзядоў.

Ня можам мы паклікаць свае даўніны -- ня вернецца яна да нас. Хадзі-не хадзі па старых горных сьцежках, шукай-не шукай яе там у цішы. Няма яе там болей. Вяслуй хоць месяц па моры – але ня знойдуць нашыя чоўны таго рэчышча, што прывялі б у індзейскую даўніну. Яна страчана назаўжды. Вось, як тая Выспа, што ў Паўночнай Затоцы. Дык іх шмат было там, але ніводнае больш не знайсьці.

-- Там жа шмат выспаў, у Паўночнай Затоцы, -- запярэчыла я.

-- Але той, што індзейцы шукаюць вось ужо шмат дзясяткаў летаў, – гэнай там няма, -- адказаў ён журботна.

-- Дык а хіба была яна там калісь?

-- Так, яна была! Мае дзяды й прадзеды бачылі яе. ...Але тое было даўным-даўно, -- уздыхнуў цілікам. – Бацька мой яе ўжо ня бачыў. Хаця ён і патраціў багата дзён ды гадоў у пошуках яе. Цэлы час шукаў. ...Вось і я ўжо стары, але так і не пабачыў яе, хаця ад часу майго маленства ...таксама ...шукаў яе. ...Ат, колькі я правёў начэй, вяслуючы ў цішы свой човен у пошуках тае Выспы.

І тады, сьцішыўшы свой голас:

-- Ведаеш, аж я два разы быў пабачыў ейны цень: камяністыя берагі, высокія, як вяршыні дрэваў. А сосны й яліны ўгары – бы каралеўская карона. Аднойчы ўначы, даўно ўжо, як я веславаў па Затоцы, цень тых стромаў з соснамі лёг на човен, мне на твар ды побач на ваду ля чоўна. Я ўрапт азірнуўся паглядзець. Ніякае выспы там не было, нічога. Адно вада ды вада наўсьцяж, ды поўня проста наверсе. І не кажы мне, што гэта бераг Вялікае Зямлі кінуў цень на мяне, -- апярэдзіў ён маю думку. – Поўня ж была проста нада мной, нават ад чоўна ніякага ценю не было на чысьцюткай вадзе. Не, гэта быў ня бераг.

-- Навошта ж ты шукаеш яе? – усклікнула я, але тут узгадала свае даўнія мары, якія так і ня зьдейсьніліся.

-- Там, на той Высьпе, ёсьць нешта такое, што мне патрэбна. І я буду шукаць яе да сьмерці, бо яна там недзе ёсьць.

І тады ён змоўк.

Мы сядзелі, ахутаныя доўгім урачыстым маўчаньнем. Я ўжо навучылася насалоджвацца ім, бо вяло яно заўсёды да расповеду.

Па часе ён пачаў...

---

-- Было гэта больш за сто год таму. Гэны вялізны горад Ванкувер быў тады адно ў задумках Сагалі Тайі[2]. Нават белым людзям ён быў яшчэ не ў галаве. І толькі адзін індзейскі шаман ведаў, што некалі паміж Зманлівым Ручаём (Фолс-Крык) і Затокай зьявіцца вялізнае паселішча бледнатварых.

Гэта быў адзін сон, што цэлы час дакучаў яму. Ён бачыў яго і ўдзень, і ўноч. Калі быў сярод людзей, і калі на фэстах, і скакаў там, і сьмяяўся. Калі быў самотны ў лесе ды сьпяваў свае дзіўныя закляцьці, грукаючы ў бубен ці трасучы драўляным посахам, каб здабыць больш моцы лячыць хворых свайго племені.

Гэтая мроя не давала яму спакою праз гады. Ён састарэў, зрабіўся зусім старым, але і тады чуў галасы, моцныя й гучныя, як у юнацтве, калі ён пачуў іх упершыню. Яны казалі:

-- Між двух вузкіх пасаў салёнае вады паселяцца белыя людзі. Шмат сотняў людзей, шмат тысячаў. І індзейцы перабяруць іхныя шляхі, іхны лад жыцьця, зробяцца такімі ж, як яны. Ня будуць яны болей скакаць у танцах вайны, ня будуць біцца зь іншымі моцнымі плямёнамі. Гэта будзе так, быццам індзейцы згубяць усю сваю адвагу й мужнасьць, усю сваю моц.

Ён ненавідзеў тыя галасы. Ён пакутаваў ад тае мроі. Але ні сваёй моцай, ані знахарствам ня мог пазбавіцца іх. Аж ён быў самым магутным шаманам на цэлым Ціхаакіянскім Узьбярэжжы. Ён быў моцным і высокім, цяглiцы ў яго былі, як у Лілу – ляснога ваўка, як той гатовы кінуцца на здабычу.

Ён мог вандраваць шмат дзён бязь ежы, мог перамагчы самага вялікага горнага ільва, мог зваліць лютага мядзьведзя-грызлі. Ён мог веславаць супраць вельшага, шалёнага ветру ды ўтрымацца на самых высокіх хвалях. Калі сутыкаўся з ворагамі, мог сам пазабіваць цэлае племя. У сваёй моцы, мужнасьці й непахіснасьці ён быў роўным з волатамі. Ён ня ведаў страху. Ён быў вялікім, сапраўды вялікім. Нішто ні на зямлі, ані ў небе не магло супрацьстаяць яму.

І вось адно ня мог пазбавіцца гэтага пакутлівага насланьня аб тым, як прыйдуць белыя людзі і паселяцца тут. Гэта была адзіная зьява ў ягоным жыцьці, якую ён хацеў перамагчы, і ня змог.

Яна гнала яго прэч. Ён болей не бываў на фэстах і танцах. Не сядзеў разам з суродзічамі, ня слухаў, як апавядалі казачнікі ля вогнішча. Тады сышоў зусім ад свайго ўтульнага жытла, што ля краю вады, дзе тоўпіліся сальманы[4] й куды прыходзіў алень піць з чыстага горнага струменя.

Ён пакінуў вёску, пайшоў, пеючы дарогай свае ўтрапёныя сьпевы. Увысь, праз глухія пушчы караскаўся ён, празь дзікія густыя мхі ды разлогі – на самую вяршыню таго, што белыя людзі называюць цяпер Бурклівай Гарой. І пасяліўся там на доўгі час. Ён нічога ня еў, ня піў, адно сядзеў ды сьпяваў свае шаманскія закляцьці праз дні й ночы. Перад ім – далёка ўнізе пад нагамі – пралягаў той вузкі пас зямлі сярод салёнае вады.

І тады Сагалі Тайі надзяліў яго моцай, каб пабачыць далёкую будучыню. Тымчасам, як ён угледаўся ў Затоку, ягоная празарлівасьць сягнула праз сотню гадоў – і ён убачыў вялізныя вігвамы, збудаваныя шчыльна адзін ля аднаго. Сотні, тысячы вігвамаў з каменьня й дрэва, а між іх даўгія, шырокія сьцяжыны.

Убачыў ён, як на тых сьцежках тоўпіліся бледнатварыя; пачуў гул ад вёслаў белых людзей – бо індзейцы ж вяслуюць бясшумна; убачыў рыбныя сеці, рынкі белых людзей, пачуў іхную гаворку... Тады відовішча паступова растаяла, як і зьявілася. Вузкі пас зямлі зноў стаўся ўсё тым жа ягоным родным лесам.

-- Я – стары! – у роспачы й страху за свой народ закрычаў шаман. – Я – стары, о Сагалі Тайі! Я хутка памру ды выпраўлюся ў Край Шчасьлівага Паляваньня маіх дзядоў. Але ня дай маёй моцы зьгінуць разам са мной! Зьберажы назаўжды маю мужнасьць і непахіснасьць. Няхай застануцца яны для майго народу, каб яму хапіла сілы выстаяць пад націскам белых! Захавай маю моц жывой для яго, схавай іх так, каб бледнатварыя не змаглі ані знайсьці іх, ані ўбачыць!

І тады ён сышоў зь вяршыні Бурклівае Гары, стары шаман.

Усё гэтак жа прыгаворваючы свае шаманскія сьпевы, ён сеў у човен і павеславаў па чырвані суклоннага сонца далёка ў Паўночную Затоку.

Надышла ноч, а ён усё пхаў свой човен, аж пакуль перад ім выплыла з туману шэрымі камянямі выспа з высокімі стромамі, на якіх, бы каралеўская карона, станулі сосны й яліны. Як ён наблізіўся да выспы, раптам адчуў, як уся ягоная моц, ягоныя мужнасьць і непахіснасьць пакідаюць яго. Ён нават убачыў, як яны замяцьцю праплылі ад яго да выспы й засталіся там. Яны былі падобныя да тых аблокаў, што ляжаць на вяршынях гор, гэткія ж празрыста-шызыя й павольныя.

Саслабелы, што тая кабета, ён прывеславаў дадому, да сваёй індзейскай вёскі. Ён сказаў суродзічам, каб яны пайшлі ды знайшлі тую Выспу, бо іх там чакае ўся ягоная моц, і мужнасьць, і непахіснасьць, што будуць жыць і жыць празь вякі.

А тады ён заснуў, і ў раніцу больш не прачнуўся.

Але ад таго часу і маладыя, і старыя ўсё шукаюць тае Выспы. Яна ж недзе ёсьцека там, у нейкай далёкай затоцы, але мы ніяк ня можам яе знайсьці.

Але як толькі мы знойдзем запаветную Выспу – уся мужнасьць і адвага, што былі ў нас, пакуль прыйшлі белыя, вернуцца да нас. Бо гэтак сказаў вялікі шаман – моц і адвага ніколі ня зьгінуць, бо яны жывуць для ўсіх індзейцаў, для іхных дзяцей і ўнукаў.

______________________

Стары правадыр сьціх. Мы сядзелі моўчкі, і сэрца мне сьціснула ягоная туга па згубленай Высьпе. Я падумала аб той веляпышнай мужнасьці, якой, я ведала, валодаў мой сябар, і спыталася:

-- Аж ты казаў, што аднойчы цень тае Выспы лёг на цябе, хіба не, цалкам?

-- Так, -- прамовіў ён сумна. – Але адно цень.








Сіваш-скала



# ЛЕГЕНДА СІВАШ-СКАЛЫ



Незвычайны, адрозны ад іншых, быццам створаны рукамі чалавека, а не прыхамацьцю Прыроды, сіметрычны слуп суцэльнага шэрага каменю, ён вытыркаецца ля ўваходу ў Затоку. Нічога падобнага па форме тут як кінуць вокам больш няма, і нават далей як веславаць днямі ўверх ці ўніз па ўзьбярэжжы. Сярод усіх цудаў, прыроднага хараства, што акаляе Ванкувер – горных дзівосаў формай палюючага ільва ці пільнага бабра, прадонных каньёнаў, чароўных елак ды кедраў – Сіваш-скала ёсьць адасобленай ды адметнай, быццам закінутая зь іншага сусьвету.

Упершыню я ўбачыла яе ў суклонным сьвятле чырвонага жнівеньскага сонца – купка зялёнага хмызьняку, што ўвенчвае ейную вяршыню, была чорнай на фоне барвовага мора й неба, а груваасткае падножжа з шэрага каменю бліскала полымем, бы адпаліраваны граніт.

Мой стары цілікам[1] узьняў лопасьць вясла, кіўнуў на яе:

-- Ведаеш тую гісторыю?

Я пахітала галавой (досьвед нашага сумоўя навучыў мяне ягонай любові да нямых адказаў, да гэтага легенда-апавядальнага настрою). Нейкі час ён паціху веславаў, пакуль скала аддзялілася ад прыбярэжнага лесу, на фоне якога была бачнай, і цяпер яна стаяла проста, як вартаўнік, – трывалы, падцягнуты, непахісны.

-- Хіба не падобна яна да страмкога чалавека? – запытаўся ён.

-- Але. Да нейкага шляхетнага, годнага воя.

-- Гэта і ёсьць чалавек. І ёсьць вой. Які змагаўся за тое, што ёсьць шляхетным ды годным.

-- Што ты ўважаеш за шляхетнае й годнае, Правадыр? – зацікавілася я.

І я не забуду ягоны адказ, гэта былі ўсяго два словы, яны зьдзівілі ды ўразілі. Ён адказаў проста:

-- Чыстае бацькоўства.

У маёй галаве пранесьліся мітусьлівыя згадкі бясконцых артыкулаў у незьлічоных часопісах, што вялі пра сучаснае “захапленьне” мацярынствам, але адно з вуснаў індзейскага скваміскага[17] правадыра я пачула трактат аб шляхотнасьці “чыстага бацькоўства”, якога я дагэтуль яшчэ не раскапала. І гэтым трактатам зьявілася пракаветная індзейская легенда, і дзеля таго, каб не забыцца, якімі шматважнымі назаўжды мусяць быць гэтыя два словы, і стаіць Сіваш-скала, узьведзеная там ля Дэйты як помнік таму, хто захаваў сваё жыцьцё чыстым, і тая чысьціня ёсьць спадчынай для ўсіх наступных пакаленьняў.

___________________________

Гэта было “тысячы гадоў таму” (усе індзейскія легенды пачынаюцца ў надзвычайна далёкія часы), як адзін прыгожы маладзенькі правадыр хадзіў сваім чоўнам да Верхняга Ўзбярэжжа па сарамлівую паўночную дзяўчынку, якую ён прывёў у свой дом як жонку.

Хоць і быў зусім хлопчыкам, малады правадыр выявіў сябе бясстрашным воем, выдатным паляўнічым ды годным, адважным мужчынам сярод мужчын. Ягоная племя любіла яго, ворагі паважалі, а нікчэмнікі, ды нягоднікі, ды баязьліўцы яго баяліся.

Звычаі ды традыцыі продкаў былі для яго паважнай рэлігіяй, словы ды парады старых былі для яго законам. Ён строга трымаўся кожнага абраду ды рытуалу свайго роду. Ён змагаўся з ворагамі свайго племя люта, што той дзікун. Ён сьпяваў песьні вайны, скакаў у ваяўнічых танцах, біў ворагаў, але да дзяўчыны з поўначы ён ставіўся з той жа пашанай, што й да сваёй маці, бо хіба яна ня мелася быць маці ягонага сына-воя?

Ішоў сваёй чарадой год, тыдні ўбіраліся ў месяцы, зіма ў вясну, і аднойчы цудоўным летнім сьвітанкам ён прачнуўся на ейны голас, што гукаў яго. Яна стаяла побач ды ўсьміхалася.

-- Гэта адбудзецца сёньня, -- сказала яна з гонарам.

Ён ускочыў са свайго ложка з ваўчынай скуры ды выйшаў да дня, што адно пачынаўся: абяцаньнем таго, што ён прынясе яму, здавалася, дыхаў увесь ягоны лясны сьвет. Ён пяшчотна ўзяў яе за руку ды павёў да краю вады, туды, дзе тое прыгожае месца, якое мы, сучасьнікі, завем Парк Стэнлі, навісае над мысам Прасьпектам.

-- Я мушу скупацца, -- сказаў ён ёй.

-- І я таксама мушу скупацца, -- усьміхнулася яна, зразумешы яго, як могуць разумецца адно вельмі блізкія. Бо для іх абаіх стары індзейскі звычай быў законам – звычай паводле якога бацькі чаканага дзіцяці мусяць купацца да тае пары, пакуль іхная плоць ня будзе такой першародна чыстай, што нават дзікі зьвер ня зможа і зблізу пачуць паху. Калі дзікія лясныя істоты не спалохаюцца іх, тады і толькі тады, яны гатовыя зрабіцца бацькамі.

Вось жа яны абое далі нырца ў ваду Пратокі, калі шэры сьвітанак заслаў з усходу неба, а лес прачынаўся да новага, радаснага дня. Праз нейкі час ён вывеў яе на бераг, і, усьміхаючыся, яна павольна рушыла між вялізных дрэваў дахаты:

-- Я мушу быць сама. Але ты прыходзь, калі ўзыдзе сонца – і тады ты знойдзеш мяне не адну.

Ён таксама ўсьміхнуўся ды зноў кінуўся ў мора. Ён мусіць плаваць, плаваць, плаваць праз увесь гэты час, пакуль не настане ягонае бацькоўства. Гэта закон, што ён павінен быць чыстым, беззаганна чыстым, каб ягонае дзіця, упершыню глянуўшы на белы сьвет, мела шанец пражыць сваё жыцьцё чыстым. Калі ён ня будзе плаваць гадзіну за гадзінай, дзіця прыйдзе да нячыстага бацькі. Ён мусіць даць сваму дзіцяці магчымасьць добрага жыцьця, ён ня можа перашкодзіць яму сваёй нечысьцінёй яшчэ пры нараджэньні. Гэта закон племені – закон заступнай чысьціні.

Калі ён вось гэтак плаваў туды-сюды, у Пратоцы зьявіўся човен з Чатырма Мужамі. Гэтыя мужчыны былі гіганцкага росту, а ўдары іхных вёслаў рабілі такія вялізныя віры, што яны ўскіпалі, што тыя бурлівыя плыні.

-- Прэч з дарогі! – закрычалі яны, што як ягонае гнуткае, меднага колеру цела то паказвалася над вадой, то зноў нырцавала з пышнымі пырскамі. Ён засьмяяўся зь іх, хоць яны былі волатамі, адказаўшы, што ня можа спыніць плаваць дзеля іхнай патрэбы.

-- Але ж ты спынішся! – скамандавалі яны. – Мы людзі Сагалі Тайі[2], і мы загадваем табе – прэч на бераг з нашае дарогі!

Ён спыніўся ды, узьняўшы галаву, крыкнуў насуперак:

-- І не спынюся, і не сыду на бераг!

І тады паплыў на сярэдзіну затоцы.

-- Ты насьмеліўся не паслухацца нас? – закрычалі яны. – Нас, людзей Сагалі Тайі! Мы можам абярнуць цябе ў рыбу, ці ў дрэва, ці ў камень за гэта. Ты наважваешся не падпарадкавацца Сагалі Тайі?

-- Я адважуся на што заўгодна дзеля чысьціні майго дзіця, што цяпер нараджаецца. Я не баюся нават Самога Сагалі Тайі, бо маё дзіця мусіць нарадзіцца для беззаганнага жыцьця.

Вельмі здзівіліся Чатыры Мужы. Яны пагаварылі міжсобку, запалілі піпкі ды селі на раду. Ніколі яшчэ ім, людзям Сагалі Тайі, ніхто не пярэчыў. А тут жа, дзеля маленькага ненароджнага дзіцёнка, ім не падпарадкоўваліся, іх не бралі пад увагу, нават грэбавалі імі. Гнуткае, меднага колеру цела ўсё гэтак жа гарэзіла ў прахалоднай вадзе. Павер’е казала, што варта іхнаму чоўну ці нават вяслу, дакрануцца да чалавека – і яны страцяць сваю цудадзейную сілу. А прыгожы малады правадыр плаваў менавіта ў іх на дарозе. І яны не насьмельваліся чапаць яго, бо яны зробяцца звычайнымі людзьмі.

Пакуль яны ўсё радзіліся, што ж рабіць, зь лесу данёсься нейкі дзіўны, змушаны гук. Яны прыслухаліся, і малады правадыр спыніўся, таксама прыслухоўваючыся. Слабы гук ізноў рушыў на вадой. Гэта быў плач маленькага немаўляткі. Адзін з Чатырох, той, што стырнаваў човен, наймацнейшы, найвышэйшы зь іх усіх, падняўся ды, стоячы ўрост, працягнуў рукі да ўзыходзячага сонца ды прапяяў – не, не праклён на непаслухмянага маладога правадыра – але заклён на несканчоныя дні ды свабоду ад сьмерці.

-- Таму, што ты запярэчыў усяму, што паўстала на тваім шляху, мы наракаем гэта табе. Ты адхіліў усё, што магло б перашкодзіць чыстаму жыцьцю твайго дзіцяці, ты пагрэбаваў намі, калі мы спынялі тваё купаньне ды замінялі будучыні твайго дзіцяці. Ты паставіў жыцьцё твайго дзіцяці вышэй за ўсё, і за гэтае Сагалі Тайі загадвае нам зрабіць цябе навек узорам для твайго племені. Ты ніколі не памрэш, але будзеш стаяць праз тысячагодзьдзі там, дзе кожнае вока можа цябе ўбачыць. Ты будзеш жыць, жыць і жыць непарушным помнікам Чыстаму Бацькоўству.

Чатыры Мужы ўзьнялі свае вёслы, а прыгожы малады правадыр паплыў да берагу. І як ягоныя ногі даткнуліся рысы, дзе сутыкаюцца мора ды зямля, ён тут жа ператварыўся ў камень.

Тады Чатыры Мужы сказалі:

-- Няхай ягоныя жонка ды дзіця будуць побач зь ім, не памруць, але жывуць таксама.

І яны таксама ператварыліся ў камень. Калі ты ўвойдзеш у лясную лагчыну за Сіваш-скалой, знойдзеш там вялікі камень і побач зь ім меншы. Гэта яны – сарамлівая маленькая маладзіца-жонка з поўначы са сваім аднагадзінным немаўляткам.

З самых далёкіх куткоў сьвету штодня прыходзяць вадаплавы, кіруючыся ўверх па Затоцы. З аддаленых транс-ціхаакіянскіх портаў, са зьледзянелай Поўначы, зь земляў вялізнага Поўдня – яны праплываюць туды-назад міма жывой скалы, што была тут задоўга

да таго, як іхныя карпусы былі адбудаваныя, і будзе тут тады, калі іхныя імёны забудуцца, калі іхныя экіпажы ды капітаны закончаць свае апошнія вандраваньні, калі іхныя тавары згніюць, а іхных гаспадароў ніхто і не ўзгадае. Але высокі абеліск з шэрага каменю ўсё яшчэ будзе стаяць тут – помнікам мужчынскай адданасьці яшчэ не народжанаму пакаленьню – і будзе трываць вякі ды вякі.










*Рака Капілана*

# ПУСТЭЛЬНІК



Вандруючы ўверх уздож плыні ракі Капілана, недзе каля мілі ад грэблі ў кірунку да горада, вы мінеце пакінуты будан лесаруба. Ад гэтага месца сыходзьце са сьцяжыны ды кіруйце налева праз зарасьнікі колькі сотняў ярдаў, і вы апынецеся на камяністым беразе самай чыстай, самай няўрымсьлівай ракі ва ўсёй Канадзе. У ейнай плыні знайшлі прытулак паданьні, яна папросту кішыць легендамі, што спаборнічаюць міжсобку сваёй грандыёзнасьцю й замілавальнасьцю, і якімі ейныя воды безупынна перашэптваюцца.

Але гэтую легенду я пазнала ад таго, чый голас быў такім жа павабным, як ейныя бурлівыя парогі, але ў вадрозьненьне ад іх той голас сёньня суцішаны, тымчасам як рака ўсё яшчэ сьпявае, сьпявае...

Яна сьпявала на ўсе лады цягам доўгага жнівенькага дня два леты таму, калі мы: правадыр, ягоная жыцьцярадасная жонка, іхная цудоўная дачушка ды я – усе разам бавіліся сярод валуноў ды назіралі за лянівымі аблокамі, што высока над намі пераплывалі зь вяршыні на вяршыню. Гэта быў адзін зь ягоных натхнёных дзён; легенды тоўпіліся на ягоных вуснах, як жартаўлівыя посьвісты ў роце шчасьлівага хлапчука; ягоныя вочы былі цьмянымі ад мараў ды той дзіўнай жалобнасьці, што заўжды апаноўвалі іх, калі ён гаварыў аб старадаўніх гісторыях.

Не было ні дрэва, ні валуна, ні прасьцягу парогаў, на якія падаў ягоны пагляд, які б ён ня мог зьвязаць зь нейкім паэтычным старажытным паданьнем. Тады раптам пасярод свайго слоўнага заглыбленьня ў мары ён завярнуўся ды спытаўся мяне, ці ёсьць я забабоннай. Вядома, я адказала, што ёсьць.

-- Ці думала ты, што некаторыя падзеі могуць прынесьці бяду пазьней – прадказаць бяду? – запытаўся ён.

Я зладзіла нейкі ўніклівы адказ, які тымчасам, здаецца, яго задаволіў, бо ён пусьціўся ў дзіўнае апавяданьне аб пустырніку ў каньёнах з большай бадзёрасьцю, чым простая летуценнасьць. Але спачатку ён спытаўся мяне:

-- А як у тваіх плямёнах, тых што на ўсход ад вялікіх гор, ставяцца да блізьнятаў?

Я пахітала галавой.

-- Гэтага досыць, -- сказаў ён, перш, чым я змагла нешта адказаць. – Я бачу, у вашым народзе іх ня любяць.

-- Дзеці-блізьняты нам амаль не вядомыя, -- прысьпешыла я. – Яны ў нас рэдкія, вельмі рэдкія. Але праўда, мы ім не радыя.

-- А чаму? – раптам спытаўся ён.

Я была не зусім упэўнена, што яму сказаць. Калі скажу нешта ня тое, надыходзячая легенда можа зьгінуць на ягоных вуснах, перш чым народзіцца да расповеду, але мы разумелі адзін аднаго настолькі, што ўрэшце я наважылася на праўду:

-- У нас, Іракезаў, кажуць, што дзеці-блізьняты – як трусы. У народзе заўсёды абзываюць бацькоў “Таў-ўан-да-на-га”. Гэта на мове Магаўк -- “трус”.

-- І гэта ўсё? – пацікавіўся ён.

-- Усё. Што, гэтага недастаткова, каб зрабіць блізьнят непажаданымі?

Ён крыху падумаў, тады, зь відавочным жаданьнем дазнацца, як розныя расы ставяцца да гэтакага зьяўленьня, сказаў:

-- Ты ж шмат пражыла сярод бледнатварых. Што яны гавораць аб блізьнятах?

-- О, бледнатварыя іх любяць. Яны... яны... о! так... Яны кажуць, што вельмі ганарацца, калі ў іх блізьняты.

Я запнулася, бо зноў не была ўпэўненая ў тым, што кажу.

Выглядала, ён не зусім паверыў, і мне было дазволена пацікавіцца, што ж ягоны народ, Сквамішы, мае дадаць да абмеркаванай тут праблемы.

-- Для нас гэта не гонар, -- сказаў ён катэгарычна. – Але і не зьнявага трусоў. Для нас гэта нешта, што страшыць, – гэта знак бяды, што здарыцца з бацькамі, ці яшчэ горш – надыходзячага ліха для ўсяго племені.

І тады я зразумела, што ў сваім сэрцы ён трымае нейкі дзіўны выпадак, што спарадзіў падставу для такіх забабонаў.

-- Ты не распавядзеш мне? – папрасіла я.

Ён крыху пасунуўся, прыхіліўся да вялізнага валуна, паляпваючы сваімі тонкімі брунатнымі далонямі па каленях. Ягоныя вочы паблукалі па таропкай рацэ, тады пацягнуліся ўздоўж спеўнай плыні водаў туды, дзе яны тоўпілся, абмінаючы раптоўны паварот, і напрацягу ўсяго расповеду гэтай дзіўнай легенды так і не пакінулі таго месца, дзе струмень зьнікаў на сваім бегу да акіяна. Без уступу ён пачаў.

___________________________________

Гэта было шэрым ранкам, калі яму сказалі пра тую бяду, што звалілася на яго. Ён быў вялікім правадыром і кіраваў многімі плямёнамі на Ціхаакіянскім Узьбярэжжы. Але чым ёсьць цяпер ягоная вялікасьць? Ягоная маладая жонка нарадзіла яму блізьнят, і выплаквала зараз сваю трывогу ў буданчыку зь яловае кары на беразе мора.

На двары сабралася шмат старых мужчын і жанчых – старых векам, мудрасьцю, ведамі ў сваім народзе. Некаторыя ўсхліпвалі, некаторыя галасілі па сваіх страчаных надзеях ды радасьцях, што больш ніколі ня вернуцца праз гэтае няшчасьце, іншыя прыглушанамі галасамі абмяркоўвалі гэты жах, і гадзінамі іхная паважная рада перапынялася адно плачам двух немаўлят у яловым будане, безнадзейнымі ўсхліпамі маладой маці, пакутнымі стогнамі прыбітага горам правадыра – іхнага бацькі.

-- Нешта страшнае здарыцца з племем, -- сказаў адзін са старых на радзе.

– Нешта страшнае здарыцца зь ім, з маім мужам, -- плакала прыгнечаная маладая маці.

Тады падняўся старавечны шаман, падняў рукі з адкрытымі далонямі, каб суцішыць лямантуючы натоўп. Ягоны голас дрыжэў вагой незьлічоных зім, але вочы ўсё яшчэ былі праніклівымі ды адлюстроўвалі чысты розум і думкі, што былі за імі, як нерухомыя фарэлевыя стаўкі ў Капілана адлюстроўваюць вяршыні гор. Ягоныя словы былі ўладнымі, жэсты загаднымі, плечы страмкімі ды прыязнымі. Ён быў той постацю й натхненьнем, якога ніхто не насьмельваўся аспрэчваць, і тымчасам як цяклі павольна словы, ягоны суд уважалі за наканаваньне.

-- Закон Сквамішаў[15] гаворыць, што дзеля таго, каб гора не напаткала племя, спараджальнік блізьнятаў мусіць сысьці сам далёка, у нетры гор, і там сваёй адчужанасьцю ды самотай давесьці самому сабе, што ён ёсьць мацнейшым за ліха, і гэткім чынам перамагчы ягоны цень, іначай ён будзе перасьледаваць яго й ягоны народ. Таму я назаву працяг часу, які ён мусіць правесьці сам, змагаючыся са сваім нябачным ворагам. ... Ён даведаецца аб гадзіне, калі ліха будзе пераможана па знаку, пададзеным Прыродай, аб той гадзіне, калі ягоны народ будзе ў бясьпецы. Ён павінен сысьці да захаду сонца, узяўшы з сабой толькі свой наймацнейшы лук, найшпарчэйшыя стрэлы, ды, дабраўшыся да дзікіх гор, правесьці там дзесяць дзён – сам, у адзіноце.

Уладны голас спыніўся, племя завыла ў згодзе, бацька маўкліва ўзняўся, ягоны твар выяўляў моцную пакуту з нагоды гэтага відавочна кароткага выгнаньня. Ён узяў дазвол у сваёй жонкі, у дзьвюх маленечкіх душаў, што былі ягонымі сынамі, забраў свой улюбёны лук і стрэлы, ды, як воін, накіраваўся ў лес.

Але калі прайшлі дзесяць дзён, ён не вярнуўся. Не было яго ні праз дзесяць тыдняў, ні праз дзесяць месяцаў.

-- Ён загінуў, -- плакала маці ў вушкі сваім двум сынкам. – Ён ня змог перамагчы тое ліха, што нам пагражала. Яно было мацнешым за яго – яго, такога моцнага, такога мужнага, такога сьмелага.

-- Ён загінуў, -- рэхам паўталі супляменьнікі. – Наш моцны, сьмелы правадыр, ён загінуў.

І вось яны аплаквалі яго цэлы доўгі год, але іхныя сьпевы, іхныя сьлёзы адно вярталі ім смутак – ён не вярнуўся да іх.

А ў міжчассе, далёка ўверх па Капілана-рацэ, выгнаны правадыр пабудаваў сабе самотны дом. Хто ж можа сказаць, які фатальны падман гуку, ці выкрут паветра, ці, можа, якая запінка ў голасе шамана, падманула пільнае індзейскае вуха? Але паводле нейкага няшчаснага наканаваньня ён зразумеў, што ягонае адзіноцтва мусіць быць цягам дзесяці год, а не дзесяці дзён, і ўспрыняў наказ з гераічнай трываласьцю. Бо гэткай была ягоная вера, што калі ён адмовіцца зрабіць гэта, нават калі бяда абыдзе яго самога, ліха можа напаткаць усё племя. Так што можна дабавіць яшчэ адну самазабыўную душу, чыім перакананьнем ёсьць: “Годным ёсьць, калі адзін пакутуе дзеля ўсяго народа”. Гэта стары як сьвет гераізм заступнай ахвяры.

Зьдзіраючы паляўнічым нажом кару зь елак ды кедраў, выгнаны скваміскі правадыр збудаваў сабе жытло ля Капілана-ракі, дзе скачуць фарэль ды сальманы, якіх можна спрытна насадзіць на кончак стралы, ёмка прымацаванай да даўгога тронка. Падчас сальманавага гону ён вэндзіў ды сушыў рыбу з майстэрствам дамашняй гаспадыні. Горныя авечкі ды козы, нават чорныя ды бурыя мядзьведзі падалі пад ягонымі непамыльнымі стрэламі; хутканогія алені ніколі не вярталіся да сваіх прытулкаў, да вечаровых вадапояў на беразе струменя – іхныя дзікія сэрцы, жвавыя целы нерухомелі, калі ён браў іх за цэль.

Вэнджаныя кумпякі ды шынкі віселі шэрагамі ад цэнтральнага слупа ягонага будана, а вялізныя скуры ўсьцілалі падлогу ды канапу, і сам ён быў апрануты ў скуры. Ён вырабляў аленевую замшу, майстраваў нагавіцы, макасіны, кашулі, сшываючы іх разам аленевымі сухажыльлямі, як, ён некалі бачыў, рабіла ягоная маці. Ён зьбіраў сакавітыя ягады, што былі добрай, здаровай заменай мясу й рыбе. Месяц за месяцам, год за годам

ён сядзеў ля самотнага вогнішча, чакаючы сканчэньня тэрміну свайго доўгага адзіноцтва. Адным ён цешыўся – думкай, што ён трываў бяду, перамагаючы ліха, якога зможа пазьбегнуць ягонае племя, і ягоны народ будзе ўратаваны ад няшчасьця. Марудна, у працы, надышоў дзясяты год, і дзень за днём пацягнуў ён свае даўгія тыдні праз ягонае няцярплівае сэрца, бо Прырода так і не дала яшчэ знаку, што ягонае доўгае выпрабаваньне скончылася.

Тады адным летнім днём, нарабіўшы трэскату ў гарах, прыляцела да яго Гром-птушка[3]. З поўначы, з пратокаў Ціхага акіяну набліжалася навальнічная хмара, і дзябёлая Гром-птушка зь зіхоткімі вачыма, гойдаючы вялізнымі крыламі, грукала імі аб скалы ды каньёны.

Вышэй па плыні ракі ўзносіўся высокі, нібы каменная ігла, гранітны слуп. Яго называлі “Гром-скала”, мудрыя людзі з народу бледнатварых кажуць, што ў ім шмат руды – медзі, срэбра й золата. Скваміскі правадыр сядзеў ля падножжа слупа, калі навальнічная хмара паласнула, ды ўзьняўся шторм, а на ягонай вяршыні ўладкавалася Гром-птушка – і ад узмахаў ейных вялізных крылаў гуло паветра, наводзячы жах, бы грукат вялізнага кедра, што абрынуўся недзе ў гарах.

Але калі біцьцё ейных чорных крылаў спынілася, а рэха грымотных хваляў сунялося ў глыбінях каньёна, скваміскі правадыр стаў на ногі новым чалавекам. Ягоны дух узьняўся, страх бяды быў пераможаны. Ён адчуў, што ў ягонай галаве, у крыві, у венах ды цяглцах больш не жыла атрута журбы. Ён выкупіў сваю віну за нараджэньне блізьнятаў, ён выканаў тое, што патрабаваў закон ягонага племені.

Калі ён пачуў, як недзе сярод скалаў павольна суцішваліся апошнія вохлапкі крылаў Гром-птушкі, яны чэзлі, чэзлі... – ён зразумеў, што птушка таксама памірала, бо ейны дух пакідаў гэтае пачварнае чорнае цела, і ўрэшце той дух зьявіўся ў небе. Ён змог убачыць, як ён успалынуў угару, перш чым накіравацца ў доўгі шлях да Краіны Шчасьлівага Паляваньня, бо дух Гром-птушкі ўчыніўся спалошным колам дзівосных колераў, што паснаваў ваўчком ад вяршыні да вяршыні. Правадыр узьняў галаву, бо цяпер ён ведаў, што гэта быў знак, аб якім гаварыў старавечны шаман, якога ён мусіў быў дачакацца – знак таго, што ягонае доўгае выгнаньне скончылася.

А цягам усіх гэтых гадоў, на поўдні, у прыморскіх землях, двох брунатнатварых блізьнятаў усё дапытваліся па-дзцячаму:

-- А дзе наш тата? Чаму ў нас няма бацькі, як у іншых хлопчыкаў?

І заўсёды чулі адзін і той жа адказ:

-- Вашага таты больш няма. Ваш бацька, вялікі правадыр, загінуў.

Але нейкае дзіўнае сыновае пачуцьцё падказвала хлопчыкам, што іхны бацька аднойчы вернецца. Часам яны выказвалі гэнае пачуцьцё сваёй маці, але яна адно плакала ды казала, што нават чарадзейства вялікага шамана ня зможа вярнуць ім яго. Але калі ім споўнілася дзесяць год, яны, трымаючыся за рукі, падышлі да маці. Яны былі ўзброеныя сваімі маленькімі паляўнічымі нажамі, рыбнымі дзідамі, сваімі маленькімі лукамі са стрэламі.

-- Мы ідзем шукаць нашага бацьку, -- сказалі яны.

-- О, бескарысныя пошукі, -- заплакала маці.

-- О, бескарысныя пошукі, -- рэхам паўтарылі супляменьнікі.

Але вялікі шаман сказаў:

-- Сэрца дзіцяці мае нябачныя вочы. Магчыма, дзіцячыя вочы бачаць яго. Сэрца дзіцяці мае нябачныя вушы. Магчыма, дзіцячыя вушы чуюць, як ён кліча. Няхай ідуць.

І вось яны выправіліся ў лес. Іхныя маладзенькія ножкі ляцелі, бы на крылах, а юныя сэрцы кіраваліся на поўнач, бы компас бледнатварых. Дзень за днём яны трымалі шлях уверх па рацэ, аж пакуль, абагнуўшы раптоўны паварот, не апынуліся перад буданам з кары, са страхі якога віўся блакітны дымок.

-- Гэта жытло нашага бацькі! -- сказалі яны адзін аднаму, бо покліч крыві не мог падмануць дзіцячыя сэрцы. Рука ў руцэ, яны наблізіліся ды, уваходзячы ў дом, сказалі разам адзінае слова:

-- Хадзем.

Вялікі скваміскі правадыр працягнуў да іх рукі. Потым – да бурлівай ракі, тады – да гор.

-- Вітаю, сынкі мае! І бывайце, мае горы, мае браты, мае скалы ды каньёны!

Ды, узяўшы кожнага за руку, ён накіраваўся назад, у прыморскую краіну.

---

Легенда скончылася.

Доўгі час ён сядзеў моўчкі. Тады адарваў пагляд ад берагу ракі, адкуль прыйшлі двох хлопчыкаў і дзе ўсьцешыліся вочы пустэльніка, пабачыўшы іх пасьля дзесяці гадоў самоты.

Правадыр ізноў загаварыў:

-- Гэта было тут. На тым месцы, дзе мы цяпер сядзім, ён пабудаваў сваё жытло, тут ён і пражыў дзесяць год адзін, адзін...

Я моўчкі кіўнула. Легенда была занадта прыгожая, каб псаваць яе заўвагамі, і, калі лягло сутоньне, мы проста накіраваліся праз зарасьнікі міма пакінутага лесарубавага будана.








*Індзейскія татэмы ў Парку Стэнлі*



Pauline paddling her canoe "Wildcat" (*Brant County Museum*)

*Паўлін Джонсан у сваёй лодцы "Дзікая котка"*

## СТРАЧАНЫЯ ЛОВЫ



Добрыя сёлета былі ловы. Пара́ ружовага сальмана[4] ўжо заканчвалася, і я дзівілася, чаму мая старая сяброўка, індыянка-клучмэн[5], так ні разу й не вывела на рыбалку свой човен. Заўзятая рыбачка, яна не саступала свайму мужу ў майстэрстве, і цягам цэлага году ні аб чым больш не гаварыла, як аб надыходзячых ловах. Але сёлета не было яе бачна сярод такіх жа ахвотнікаў. Ні сярод рыбакоў на чоўнах, ні сярод абіральнікаў на беразе нічога ня ведалі аб ёй, а калі я спыталася ейных супляменьнікаў, яны адказалі без тлумачэньняў:

-- Яна сёлета ня быць тут.

Але адным іржавым верасьнёўскім палуднем я знайшла яе. Гуляючы па сьцяжыне ад лебядзінага возера, што ў парку Стэнлі, да ляснога ўзьбярэжжа Затокі, я заўважыла, як ейны зграбны, з высокім носам човен кіраваў да пясчанага берагу, дзе звычайна прычальвалі ўсе цілікамы зь Місіі[6].

Човен зьявіўся нібы зь цянётаў, бо вада была зусім ціхай, і ўсюды далікатным цюлем навісала блакітная смуга, бо на выспе Лулу цэлымі днямі цьмеў торф, і ягоны пікантны водар ды шэра-блакітны дым ператваралі мора, берагі ды неба ў чароўную казку.

Я пасьпяшала на бераг, аклікаючы яе на мове Чынук, і, пачуўшы мяне, яна па-індзейску павіталася са мной, узьняўшы вясло над галавой.

Калі яна прычаліла, я горача павітала яе, прагна выцягнуўшы рукі, каб дапамагчы сысьці на бераг – клучмэн старэе, дарма што можа веславаць супраць прыліву, што той юны падлетак.

-- Не, -- сказала яна, калі я прапанавала ёй выйсьці з лодкі. – Я не чакаць. Я тут забраць Маарду. Яна ў горадзе, зараз прыйдзе, хутка.

Але тут жа забыўшыся на сваю “дзелавітасьць”, яна села, як школьніца, падкурчыўшы ногі, на носе лодкі, склаўшы рукі на вясло, якое яна паклала ўпоперак бартоў.

-- Я так сумавала па табе, клучмэн. Ты не заходзіш да мяне ў госьці ўжо тры поўні, не прыехала на рыбныя ловы, -- заўважыла я.

-- Не. Я ўдома гэты год.

Тады, нахіліўшыся да мяне, зь вялікай паважнасьцю ў голасе, у вачах яна дадала:

-- У мяне ўнук. Нарадзіўся ў ліпені, у першы тыдзень. Таму я сядзець дома.

Вось чаму яе не было! Вядома, я выказала ўсе свае віншаваньні з такой нагоды, ды распытала ўсе падрабязнасьці такой важнай справы, бо гэта быў ейны першы ўнук, і зьяўленьне маленькага чалавечка – гэта такая радасьць!

-- І ты хочаш зрабіць яго рыбаком? – спыталася я.

-- Не, не. Не хлопчык. Гэта дзяўчынка, -- адказала яна з такой гарэзьлівай інтанацыяй, па якой я зразумела, як яна задаволена гэтым.

-- Ты рада, што гэта дзяўчынка? – зьдзівілася я.

-- Вельмі рада, -- падкрэсьліла яна. – Гэта шчасьце – мець дзяўчынку першай унучкай. Наша племя не як вашае. Мы хочам першай дзяўчынку. Не заўсёды хочам мець хлопчыка – адно для бітваў. Ваш народ, вы адно на шляху вайны. А наш народ міралюбны. Вельмі добры знак, калі першы ўнук – дзяўчынка. Я скажу табе, чаму. Дзяўчынка некалі будзе маткай сама. Быць маткай – вялікая справа.

Здаецца, я зразумела схаваны сэнс ейных словаў. Яна радавалася таму, што ейная ўнучка некалі будзе адной з матак ейнага народу.

Мы яшчэ пагаварылі пра гэтае, і яна з нагоды падзялілася са мной некалькімі жартаўлівымі кпінамі аб маім народзе, маўляў, з чаго гэта ён заклапочаны ня столькі мяцярынствам, як ейны, а ўсё больш войнамі ды бойнямі. Тады размова перайшла да ружовага сальмана ды да “гайіў чыкіміна”[7], якога індзейцы могуць атрымаць за свой улоў.

-- Але, гайіў чыкімін, -- паўтарыла яна задаволена. – Заўсёды. І яшчэ гайіў мак-а-мак[8], калі ідзе вялікі сальман. Хай больш ня будзе кепскага году, як таго, калі рыба была не прыйшла.

-- Калі гэта было?

-- Яшчэ да таго, як ты нарадзілася. Ці я. Ці... – махнуўшы ў бок лесу, за якім хаваўся горад Ванкувер, што дыхаў багацьцем ды прыгажосьцю пад верасьнёўскім небам, – ...да таго, як зьявіўся гэны. Да таго, як сюды прыйшоў белы чалавек. О, шмат да таго.

Даражэнькая мая, старая клучмэн! Я бачу па тваіх сумных вачах, што ты вяртаесься ў сваю Краіну Легендаў і што мая скарбонка індзейскіх гісторый хутка папоўніцца.

Яна сядзела, усё гэтак жа абапершыся на вясло; прыжмураныя вочы замёрлі, гледзячы ўдалячынь, дзе за роўнядзьдзю засмужанай затокі шэралі абрысы выспаў.

Мне мо й ня варта далей паўтараць ейную ламаную ангельскую, бо яна ёсьць адно ценем ейнага аповеду, але й бяз гэтай самавітасьці легенда будзе кветкай без колеру й паху.

Яна назвала гэта “Легендай аб страчаных ловах”.

______________________________

Жонка Вялікага Тайі[9] была яшчэ зусім маладзенькай, але, ... дык увесь сьвет тады быў яшчэ маладым, нават рака Фрэзар была маладой, не такой магутнай, як цяпер; але ружовы сальман тоўпіўся на нераст у ейным вусьці гэтак жа, як і ў нашыя дні, а цілікамы лавілі іх ды салілі й вэндзілі, гэтак жа, як і сёньня, гэтак жа, як будуць рабіць надалей.

А была яшчэ зіма, дык ішлі дажджы, стаялі туманы, гэта калі жонка Вялікага Тайі падышла да яго ды сказала:

-- Перш чым пойдзе сальман, я прынясу табе вялікі падарунак. Скажы, як ты больш ушануеш мяне, калі я падару табе хлопчыка ці дзяўчынку?

Вялікі Тайі любіў сваю жонку. Ён быў суворы са сваім народам, цьвёрды з супляменьнікамі, на нарадных вогнішчах панавала ягоная каменная воля. Ягоны шаман казаў, што ў ягоным целе не было чалавечага сэрца; ягоныя воі казалі, што ў ягоных венах не было чалавечай крыві. Але гэтым разам ён далікатна ўзяў жончыны рукі ў свае, і ягоныя вочы, ягоныя вусны, голас былі такімі ж пяшчотнымі, як і ейныя:

-- Падары мне дзяўчынку! Маленькую дзяўчынку – каб яна магла вырасьці такой жа, як ты, і ў сваю чаргу, падарыць дзяцей свайму мужу.

Але калі супляменьнікі пачулі ягоны выбар, як яны ўзлаваліся! Абураныя, яны атачылі яго натоўпам.

-- Ты -- раб гэтай жанчыны! – заявілі яны. – А зараз хочаш яшчэ зрабіцца рабом дзяўчынкі! Мы жадаем нашчадка! Хлопца, які вырасьце нашым Вялікім Тайі! Калі ты састарэеш ды ня зможаш кіраваць, калі будзеш адно сядзець, захутаны ў цёплую коўдру на летняй спёцы, бо твая кроў зробіцца старой ды вадкай – што яна, гэтая дзяўчынка, зробіць для цябе ці для нас? Хто тады будзе нашым Вялікім Тайі?

Ён стаяў у цэнтры разьюшанага кола спакойна, з падабранымі на грудзях рукамі, узьнятай галавой, вачамі цьвёрдымі, што крэмень. Цьвёрдым, як камень, голасам ён адказаў:

-- Магчыма, мая жонка і падорыць вам гэткага хлопца, і калі гэтак адбудзецца – дзіця вашае. Ён будзе вашым, не маім. Ён будзе належаць народу. Але калі народзіцца дзяўчынка – яна будзе належаць мне – яна будзе маёй. Вы не аднімеце яе ў мяне, як аднялі мяне ад маці ды прымусілі мяне забыць майго старога бацьку дзеля служэньня нашаму племені. Яна будзе належыць мне, яна зробіцца маткай майго ўнука, а ейны муж будзе мне сынам.

-- Ты не думаеш аб усім племені! Адно аб сабе думаеш, робіш, што хочаш! – пратэставалі яны. – А калі сальманаў прыйдзе мала, ловы будуць бедныя, у нас ня будзе ежы; а калі ня будзе хлопца – у нас ня будзе Вялікага Тайі, каб павесьці нас здабыць ежу ад іншых плямёнаў -- і мы што, згаладаем?

-- У вашых чорных сэрцах няма крыві! – раўкнуў Вялікі Тайі, разьюшана завярнуўшыся да іх. – І вашыя вочы сасьлеплі! Вы хочаце, каб племя забылася на тое, якім важным ёсьць дзіця, што анойчы зробіцца маткай ды падорыць вашым дзецям ды ўнукам Вялікага Тайі? Хіба будзе народ жыць, квітнець, расьці, мацнець, калі ня будзе жанчын-матак, што народзяць новых сыноў ды дачок? Вы згубілі розум, з глузду зьехалі! Але ж нават нягледзячы на вашую цямноту вы – мой народ, і я мушу клапаціцца аб вас ды лічыцца з вашымі жаданьнямі. Я склікаю ўсіх шаманаў, чарадзеяў, знахараў. Няхай яны вырашаць, якога закона мы мусім слухацца. Што скажаце вы, о, магутныя мужы?

Ва ўсе бакі па ўзьбярэжжы, па рацэ Фрэзар, па горных далінах да ўсіх кланаў, паселішчаў былі разасланыя вестуны, што заклікалі ўсіх шаманаў, якіх маглі знайсьці. Ніколі яшчэ не зьбіралася на нараду столькі шаманаў. Яны парасклалі вогнішчы ды шмат дзён скакалі ды пялі вакол іх. Яны размаўлялі з багамі гор, з багамі мора, і тады да іх прыйшла мудрасьць рашэньня. Яны расьселіся перад людзьмі племені, і найстарэйшы шаман ва ўсім узьбярэжным краі падняўся ды сказаў ім сваё слова:

-- Людзям племені не дазволена мець усё адразу. Яны хочуць хлопчыка. І добрых рыбных ловаў яны таксама хочуць. Яны ня могуць мець і тое, і другое. Сагалі Тайі[2], найвялікшы з чарадзеяў, адкрыў нам, што займеўшы і тое, і другое, людзі зробяцца пыхлівымі ды сябелюбнымі. Яны мусяць выбраць нешта адно.

-- Ну, выбірайце, вы, цёмныя людзі! – скамандаваў Вялікі Тайі. – Наймудрэшыя нашага краю сказалі, што дзяўчынка, якая аднойчы народзіць сваіх дзяцей, прынясе яшчэ і ўдосыць сальмана сваім нараджэньнем. А хлопчык прынясе вам аднаго сябе.

-- А ну іх, сальманаў! – закрычалі людзі. – Дай нам будучыню, Вялікі Тайі! Дай нам хлопчыка!

І калі дзіця нарадзілася, гэта быў хлопчык.

-- Ой, гора будзе, гора! – узвыў Вялікі Тайі. – Вы прынізілі жанчыну-маці! Будзе вам бяда ды голад, разор ды галеча, ох, вы, дурні! А чаму ж вы не дадумаліся, якім паважным ёсьць нараджэньне дзяўчынкі!

Надышло лета, і людзі з усіх паселішчаў сабраліся да ракі Фрэзар да гону сальмана. Многія прыйшлі здалёк: з гор, з дальніх азёраў, нават з прэрыяў. Але ніводнай рыбіны не ўвайшло ў рэкі, што выходзяць да Ціхага акіяну.

Людзі ж былі зрабілі свой выбар. Яны забыліся, якую пашану мусілі былі аддаць маладой маці, што збіралася адарыць іх, за гэта й былі пазбаўленыя ежы. І давялося ім спазнаць галечу. Усю наступную зіму яны галадалі, перабіваючыся з прогаладзі ў посьніцу. Ад таго часу ў нашым народзе заўсёды рады нараджэньню дзяўчынкі – мы баімся страціць наш улоў.

---

Прамаўляючы апошнія словы, клучмэн узьняла рукі ад вясла. Яна адвяла пагляд ад засмужаных абрысаў далёкіх гор ды вярнулася ў цяперашні дабраславён괕 год – ейная Краіна Легендаў растала ў тумане.

-- Ну, -- дадала яна, -- цяпер ты бадай зразумела, чаму я рада, што ў мяне нарадзілася ўнучка: гэта азначае добрыя сальманавыя ловы налета.

-- Якая прыгожая гісторыя, клучмэн! Але я адчуваю нейкае ўтрапёнае задавальненьне з таго, што вашыя ведуны гэтак пакаралі людзей за іхны няслушны выбар.

-- Гэта таму, што ты сама -- дзяўчынка! – засьмяялася яна.

Ззаду пачуўся слабы шоргат крокаў. Я завярнулася ды ўбачыла Маарду рыхтык ля свайго пляча. Надыходзячы прыліў падняў зь берагу човен, і, калі Маарда зайшла ў яго, пасунуўшы клучмэн да кармы, ён выправіўся ў дарогу.

-- Кла-хаў-я! Бывай! – кіўнула клучмэн, апускаючы сваё вясло ў ваду зь бязгучнай дасканаласьцю.

-- Кла-хаў-я! – усьміхнулася Маарда.

-- Кла-хаў-я, цілікамы! – адказала я, і доўга яшчэ глядзела ім наўздагон, пакуль іхны човен ня зьнік у дымнай далячыні.



VIEW OF VICTORIA. VANCOUVER ISLAND.






*Від на гару Бэкер цяпер*



*Возера Прыгожае (Б'ютыфул)*

# ПАТОП



Далёка леваруч як вашая лодка пакіне Затоку, прабіраючыся прыгожымі воднымі шляхамі, што вядуць да выспы Ванкувер, вы ўбачыце ўбраную ў сваю адвечную белую смугу вяршыню гары Бэкер, што ўвесь час адлюстроўвае цудоўнае сьвятло то ўзыходзячага сонца, то залатога палудня, то ліловага ці бурштынавага суклоньня.

Гэта “гара Арарат” народаў Ціхаакіянскага Ўзьбярэжжа.

Тыя чытачы, знаёмыя са звычаямі, сьветапоглядам ды верай першабытных народаў, пагодзяцца, што цяжка адшукаць ва ўсім сьвеце народ, які ня мае якой-кольвечы гісторыі аб Патопе, запісанай у летапіс ды прыставанай да разуменьня й стану таго народу, што захоўваецца ва ўмовах свайго непасрэднага сьвету.

Што да народаў чырвонай расы Амерыкі, я сумняюся, ці існуюць хаця б два племені, што маюць аднолькавыя ўяўленьні аб Патопе. Паданьні некаторых надзвычай гратэскныя, у іншых – уражвальныя, у тых – нават мудрыя. Але сярод гісторый аб Патопе, якія я змагла сабраць, няма ніводнай, якая магла б параўнацца прыгажосьцю спасьціжэньня і тымчасам адзіна прэтэндаваць на магчымую сапраўднасьць – як гэтая легенда Сквамішаў.

Я зараз працытую легенду “майго роднага народу”, Іракезкіх плямёнаў з Антарыё, аб Патопе. Я раблю гэта, каб кінуць кантрастныя колеры ў багацьце адценьняў, бо мушу прызнаць, што мы, тыя, хто ганарацца сваёй старажытныай мудрасьцю, маем, аднак, дзіцячую казку аб Патопе ў параўньні з рупліва захаваным аналагам Сквамішаў, які больш мае прысмак гісторыі, чым паданьня.

Для “майго роднага народу” жывёлы граюць больш паважную ролю, яны надзеленыя дасканалейшым розумам, чым людзі. Я не магу адшукаць сярод сваіх запісаў ніводнага паданьня Іракезаў, дзе б не фігуравалі жывёлы, і нашая гісторыя Патопу палягаецца выключна на розуме марскіх ды рачных істот. У нас жывёлы ў старыя часы былі важнейшымі, чым чалавек. Але ва ўзьбярэжных індзейцаў усё па-іншаму, за выключэньнем рэдкіх выпадкаў.

Калі ўзьбярэжны індзеец мае распавесьці табе легенду, ён нязьменна пачынае з “Гэта адбылося да таго, як прыйшлі белыя”.

Тады натуральным для цябе будзе запытацца: “А хто тут быў тады?”

Ён адкажа: “Індзейцы. Ды яшчэ дрэвы, жывёлы, ды рыбы, ды птушкі”.

Такім чынам, ты гатовы прыняць жывёльны сьвет як разумнага су-жыхара Ціхаакіянскага берагу, але ён не дась табе адчуць, што ставіцца да іх як да роўні, яны для яго ніжэйшыя.

Што да “майго роднага народу” – яны ставяць розум дзікіх зьвяроў значна вышэй за чалавечы, хаця б з аднае тае прычыны, што жывёла, калі яна захварэе, сама знаходзіць адпаведнае лячэньне; яна ведае, якую траўку-зёлку зьесьці, а якой пазьбегчы, тымчасам хворы чалавек кліча знахара, чые веды ёсьць ня толькі вынікам гадоў навучаньня, але й проста перадаюцца ў спадчыну. Такім чынам, адна прыродная падзея, такая як Патоп, значна больш тычыцца лясных ды рачных істотаў.

Іракезкія паданьні кажуць, што тады, як зямля цалкам зьнікла пад вадой, цягам усяго гэтага часу, што доўжыўся шмат дзён, плавала па водных абшарах маленькая мітусьлівая выдра-хахоля, усё шукаючы цьвёрды кавалачак зямлі, дзе б пабудаваць сабе хатку.

У сваіх пошуках яна зьнянацку сутыкнулася з чарапахай, што таксама плавала туды-сюды. Яны пагаманілі разам, і хахоля паскардзілася, што як яна стамілася: ня можа, бач, знайсьці лапіка зямлі, змарылася ўжо плаваць і плаваць, затужылася за глебай, такой, якой цешыліся даўней ейныя продкі. Чарапаха параіла хахолі намагчыся нырнуць паглыбей ды пашукаць зямлі на дне мора. Паслухаўшы чарапахі, хахоля спікіравала ўніз і тады вынырнула, трымаючы ў лапках крыху зямлі, што знайшла пад вадой.

-- Пакладзі гэную мне на панцыр ды ныра́й дастань яшчэ, -- загадала чарапаха.

Хахоля зрабіла гэтак, і, як яна вянырнула зь зямлёй у лапках, то ўбачыла, што тая купка зямлі, якую яна паклала чарапасе на панцыр, павялічылася ўдвая. Калі ж яна вярнулася трэцім разам, то зноў знайшла ладунак на спіне чарапахі павялічаным удвая. Такім чынам, будова ўсё падвойвалася, і зь яе хуткім часам вырабіліся выспы, кантыненты, і суцэльны сьвет разлёгся на панцыры чарапахі.

Калі ты спытаесься іракеза: “І што, ніхто зь людзей не ўратаваўся ад Патопу?” -- ён адкажа: “А чаго б ім уратавацца? Жывелы разумнейшыя за іх – няхай разумнейшы і выжывае”.

Як жа тады на зямлі зноў зьявіліся людзі?

Іракез распавядзе табе, што тая выдра была шаманкай; што плаваючы ды ныраючы туды-сюды, яна знайшла целы мужчын ды жанчын; яна прасьпявала свае шаманскія спевы, і яны ажылі, а выдра насіла ім рыбу для ежы, пакуль яны не падужэлі, каб магчы забясьпечваць сябе. І тады напрыканцы іракез зробіць выснову: “Ну, ты ж ведаеш, што ў выдры больш мудрасьці, чым у чалавека”.

Вось гэтак да “майго роднага народу”, і з такой глыбокай павагай да вышэйшага розуму братоў нашых меншых.

---

У племені Скваміша́ў зусім іншы пагляд.

Гэта было адным лютаўскім днём, калі я ўпершыню пачула гэтую прыгожую, чалавечую гісторыю Патопу. Мой стары, высокага роду цілікам[1] прыйшоў да мяне ў госьці праз дождж ды золкі туман, што бываюць тут позьнім зімкам. Дзьверы майго вігвама заўсёды адчыненыя – шырока адчыненыя – для такога госьця, але гэтым днём ён зьявіўся пад самым праліўным дажджом гэтай пары.

Па-жаноцку я запратэставала з тысячай супярэчнасьцяў у голасе, што яму ня варта было выпраўляцца ў такі дзень, адно пабачыцца са мной. Гэта было так:

-- О, Правадыр, я так рада бачыць вас!

І вось гэтак:

-- О, Правадыр, ну чаго вам ня сядзіцца ўдома ў такі макрушчы дзень – вы ж застудзіце сабе горла!

Але ў хуткім часе ў мяне ўжо было гатова хоць каўшом бяры гарачай гарбаты для яго; і вялізны кубак, якім заўсёды карыстаўся мой бацька, быў ягоным – на стольki часу, наколькі Сагалі Тайі дазволіць ягоным нагам крочыць да майго парогу. Гэты вялікі кубак цяпер зноў стаіць пусты й бязьдзейны, ужо за другім разам...

Дапамагаючы яму зьняць плашч, я балбатала аб гэтым суцэльным патопе, што нарабіў дождж, а ён заўважыў, што гэны не такі ўжо й цяжкі, што як можна пад ім хадзіць.

-- На шчасьце, так, -- сказала я. – Бо я ня ўмею плаваць.

Ён засмяяўся:

-- Ну, гэта ня так ўжо й страшна, як тады, калі Вялікая Вада затапіла ўвесь Сьвет.

Адразу ж я адчула, што легенда на падыходзе, таму пракралася ў аднаслоўную схованку:

-- Хіба?

-- А як жа. Бо аднойчы тут такое было! Ні лапінкі зямлі, нічога – адно вада, вада вакол.

-- Не магу паверыць, -- заўважыла я зьедліва.

Ён засьмяяўся зноў – тым сваім прывабным, хаця й бязгучным сьмехам, што заўсёды вымагаў ад суразмоўцаў усьмешкі ў вадказ. І адразу занурыўся ў паданьне без усялякага ўступу адно за выняткам шырока раскінутых рук на маім вакне, па якім лупіў несупынны халодны дождж.

---

-- Гэта было пасьля доўгага, доўгага дажджу – такога, як цяпер. Горныя струмені набрынялі, рэкі запрудзіліся, а мора пачало ўздымацца – а дождж усё ішоў; тыдні й тыдні -- усё дождж.

Ён змоўк, цені мінулага ахутвалі ягоныя вочы. Ахутатаныя засмужаным мінулым казаньні заўсёды натхнялі яго.

-- Але... Дык вось, дождж цягнуўся тыдні й тыдні, аж пакуль горныя патокі цалкам абрынуліся ўніз, а мора ўзьнялося ўверх. Даліны былі першымі, што затанулі пад марскімі водамі. Наступнымі спаўзлі ў мора ўзгоркі. Увесь сьвет павольна затапляла. Індзейскія плямёны сьпешна сабраліся разам на высокім месцы, куды вада яшчэ не дайшла.

Гэтым месцам быў бераг Прыгожага возера, што на самым версе Паўночнага Рукава. Яны сабраліся на Вялікую Раду, дзе адразу вырашылі, што рабіць. Пастанавілі зрабіць вялізны човен, прыдумаць, якім сродкам замацаваць яго, што як вада падымецца вышэй за горы. Мужчыны прыняліся за човен, а жанчыны – за якар.

Павалілі велізарнае дрэва, ды ўдзень і ўночы мужчыны цяжка працавалі над ім, каб зрабіць найвелізарнейшы човен, якога яшчэ сьвет ня бачыў. Работа кіпела не гадзіну, не дзень; працавалі, пакуль сілы ставала, тымчасам як іншыя, змораныя, спалі, адно каб, прачнуўшыся, падмяніць першых.

А жанкі шчыравалі над мотузам – найвялікшым, найдаўжэйшым, наймацнейшым, які індзейскія рукі ды зубы адно як маглі зрабіць. Адныя выраблялі кедравае валакно, другія ссуквалі яго, змотвалі ды сушылі, іншыя яго паражоўвалі цалю за цаляй, каб зрабіць яго гнуткім, тыя вымочвалі ў тлушчы ды мялі, вымочвалі ды мялі, каб зрабіць устойлівым да марской вады.

А мора ўсё напаўзала, напаўзала й напаўзала. І вось надышоў апошні дзень; надзея жыцьця для ўсяго племені, зямлі для ўсяго сьвету абрынулася. Моцныя рукі, самаахвярныя рукі замацавалі мотуз, які вырабілі жанкі, -- адзін канец да вялізнай скалы, непахіснага валуна, моцнага, як падмурак сьвету, -- а што як човен са сваім бясцэнным ладункам аднясе паводкай далёка ў мора, і калі вада спадзе, што як гэты карабель ашчады апынецца мілі ды мілі за даляглядам на плынях Ціхага акіяну, адкуль ня ўбачыць зямлі?

І тады, з самымі мужнымі сэрцамі, што калісь біліся ў грудзях, высакародныя рукі ўсадзілі ўсіх дзяцей племені ў човен, не прамінулі ніводнага дзіцёнка.

Човен заладавалі харчамі ды сьвежай вадой, і нарэшце старэйшыны абралі для іх апекуноў – самага сьмелага, самага дужага, самага прыгожага хлопца ды маладзіцу – маці самага маленькага дзіцяці; ёй было ўсяго шаснаццаць, а дзіцёнку два тыдні – але яна таксама была і сьмелая, і прыгожая. Яны таксама занялі мейсцы ў чоўне – яна на носе, каб пільнаваць, а ён на карме, каб кіраваць, а ўсе малыя дзеткі – між імі.

А мора ўсё напаўзала, напаўзала й напаўзала.

На грэбні скалаў вакол Прыгожага возера сабраліся наканаваныя на загін плямёны. Ніводзін чалавек не спрабаваў нават трапіць у човен. Не было ні галашэнняў, ні плачу, ні енкаў аб ратаваньні.

-- Дзеткі нашыя, жывіце! – адзінае, што пачулі на разьвітаньне, тыя, хто захаваўся ў чоўне, калі вада дасягнула самае вяршыні, і – човен паплыў. Апошняе, што яны бачылі, была макаўка самага высокага дрэва, а тады – увесь сьвет стаўся спрэс вадой.

Праходзіў дзень за днём, зямля ўсё не паказвалася – адно рушэньне віруючага, гыркаючага акіяну. Але човен бясьпечна захоўваўся на якары; мотуз, зроблены рукамі незлічоных загінулых адданых жанчын, служыў надзейна, як тыя сэрцы, што біліся ў іхных грудзях надзеяй падчас тае руплівае, цяжкое працы.

Але аднойчы на сьвітанку далёка на поўдні зьявілася адна крапінка на паверхні вады. Да палудня яна крыху павялічылася, да вечара зрабілася яшчэ большай. А калі ўзьнялася поўня, у ейным чароўным сьвятле юнак за стырном заўважыў, што гэта была пляміна зямлі. Усю ноч ён назіраў, як яна расла, а калі разьвіднела, ягоныя шчасьлівыя вочы ўжо глядзелі на вяршыню гары Бэкер.

Ён адсек мотуз, узяў у свае моцныя рукі вясло ды накіраваў човен на поўдзень. Калі яны дабраліся да вяршыні, вада ўжо сышла да паловы гары, і яны змаглі знайсьці мейсца, дзе прыстаць чоўну. Высадзіўшы дзяцей на бераг, малады дужы вой ды юная прыгажуня-маці завярнуліся адзін да аднаго, узяліся за рукі, зазірнулі адно аднаму ў вочы – і ўрэшце заўсьміхаліся.

І тады недзе ў вялізнай даліне, што распасьціраецца між гарой Бэкер ды ракой Фрэзер, яны зладзілі паселішча, пабудавалі новае жытло, дзе вырасьлі ды пасталелі ўратаваныя дзеці. І яны там і жылі, і кахаліся, і па зямлі ізноў рассяліліся людзі.

Сквамішы кажуць, што высока ў гарах, у вадной вузкай цясьніне на грэбні гары Бэкер і цяпер можна пабачыць рэшткі велізарнага чоўна. Але я сам ня бачыў іх ніколі.

---

Ён скончыў гаворку, як звычайна напрыканцы легенды сьцішыўшы голас, і доўгі час мы абое сядзелі ў цішы, слухаючы дождж, што ўсё яшчэ біўся ў вакно.



# МАРСКІ ЗЬМЕЙ



Ёсьць адна загана, цалкам невядомая чырвонаскураму; ён нараджаецца безь яе, і сярод усяго ганебнага, чаго ён навучыўся ў белай расы, гэнага, прынамсі, не пераняў. Гэта – загана сквапнасьці. Тое, што індзеец глядзіць на прагу нажывы, хцівасьць, скнарасьць ды на багацьце, набытае праз галовы сваіх бедных суседзяў, як на найніжэйшую дэградацыю, да якой ён можна заняпасьці, найбольш адпаведна адлюстравана ў фразе, якую я магу працытаваць для тлумачэньня ягона жаху, таго, што ён называе “ліха белага чалавека”.

У маім багатым ды разнастайным досьведзе з многімі плямёнамі я мушу яшчэ пашукаць хаця б адзін прыклад сквапнасьці, і такі знаходжу, але адзін-адзіны выпадак “скупога індзейца”, і гэты чалавек быў настолькі паплямлены сярод сваіх суродзічаў, што пры ўзгадваньні ягонага імя супляменьнікі адно кпілі ды адзначалі пагардліва, што ён быў, як белы чалавек – не хацеў дзяліцца сваім дабром ды грашыма.

Усе з чырвонай расы нараджаюцца сацыялістамі, і бальшыня плямёнаў ажыццяўляе свае камунскія ідэі дакладна. Сярод Іракезаў лічыцца за ганебнае мець ежу, калі ў тваіх суседзяў яе няма. Каб быць слаўным сынам свайго народу, ты мусіш дзяліцца сваім дабром зь менш удалымі супляменнікамі. Я бачу тое самае і сярод узьбярэжных індзейцаў, хаця яны не такія заўзятыя ў сваёй непрыхільнасьці да скрайняй супярэчнасьці багацьця й нястачы, чым усходнія плямёны.

І ўсё ж, той факт, што яны захавалі гэтую легенду, дзе яны ўвасобілі сквапнасьць у глеістага марскога зьмея, паказвае кірунак іхных ідэй; паказвае таксама, што індзеец ёсьць індзеец, нязалежна якога племені; паказвае, што ён ня можа, ня будзе назапашваць грошы; паказвае, што ягоная прыроджаная мараль патрабуе, каб дух сквапнасьці быў прыглушаны за любую цану.

Мы з Правадыром засядзеліся пасьля нашага палудня. Ён расказваў аб сваёй вандроўцы ў Англію ды ўсякіх дзіўных рэчах, што пабачыў там. Урэшце ён зь імпэтам выбухнуў:

-- Усяго я пабачыў у тым “сьвеце ўсяго”, акрамя, хіба, марскога зьмея.

-- Марскіх зьмеяў не бывае, -- засьмяялася я. – Значыцца, ты пабачыў усё, што можа быць на сьвеце.

Ягоны твар спахмурнеў, хвілінку ён сядзеў моўчкі, тады, глянуўшы проста на мяне, сказаў:

-- Цяпер, можа, і – не, але даўней тут быў адзін – у Затоцы.

-- Калі даўней?

-- Калі ўпершыню зьявіліся белыя золаташукальнікі. Са сваёй хцівасьцю, прагнымі вачамі, сквапнымі сэрцамі – пстрыкалі тут пальцамі. Гэтыя белыя біліся, мардавалі адзін аднаго, галададалі, шалелі ад золата там, на рацэ Фрэзэр. Прыяцелі былі ня больш, чым прыяцелі, браты – супрацiўнікамі, бацькі ды сыны – ворагамі. Прага да золата была іхным пракляцьцем.

-- Тады ўбачылі марскога зьмея? – спыталася я, зьбянтэжаная спробай зьвязаць золаташукальнікаў з гэткім монстрам.

-- Так, тады, але... – ён павагаўся, тады раптам запэўніў, -- Але ж ты не паверыш у тую гісторыю, калі будзеш думаць, што марскіх зьмеяў не бывае.

-- Я паверу ва ўсё, што ты мне тут распавядзеш, Правадыр. Я ўжо гатовая верыць. Ты ведаеш, я ж таксама з забабоннай расы, і ўсе мае дачыненьні з бледнатварымі так і не пазбавілі мяне майго прыроджнага права верыць у дзівосныя здарэньні.

-- Ты заўсёды разумееш, -- сказаў ён, памаўчаўшы.

-- Гэта сэрца маё разумее, -- заўважыла я ціха.

Ён кінуў на мяне позірк, пасьміхнуўся адной са сваіх прамяністых усьмешак ды засьмяяўся:

-- О так, скукам там-там[10]!

Тады без усялякіх ваганьняў ён распавёў мне гісторыю, якая, хаця й адбылася не ў старажытнасьці, але зь вялікай пашанай захоўваецца ў ягоным племені. Падчас свайго аповеду ён сядзеў, абапершыся на стол складзенымі рукамі, прагна нахіліўшыся да мяне, бо я была на другім баку. Гэта было толькі адзін раз, што ён размаўляў са мной без імпэтных жэстыкуляцыяў, так і не ўзьняўшы рук. Адно ягоныя вочы выяўлялі тое, што ён называў “Легендай пра Олака-Салёнага Карка” (марскога зьмея).

______________________________

-- Так, гэта было падчас першае “залатое ліхаманкі”, і шмат нашых хлопцаў пайшлі да белых праваднікамі, хадзілі аж да ракі Фрэзер. Вярнуліся яны зь гісторыямі аб прагнасьці, забойствах, і нашыя старыя ды жанчыны, хітаючы галовамі, казалі: ой жа, будзе з гэтага гора.

Але ўсе нашыя хлопцы вярнуліся гэткімі ж, як і адыходзілі, – дзелячыся ўсім, што здыбылі, са сваімі, хто з беднымі, хто з галоднымі. Але адзін, звалі яго Шак-шак (Коршак), вярнуўся з прыпасамі залатых самародкаў, камянёў, усякага такога. Ён быў багаты, як белыя, і, як яны, бярог іх. Ён пералічваў свае каменьчыкі, свае бразготкі, трос іх у далонях, паглынаючы вачыма. Клаў пад галаву, калі спаў, і цэлымі днямі цацкаўся зь імі. Ён любіў іх больш за ежу, больш за сваіх сяброў, больш за жыцьцё.

Усё племя загуло. Казалі, што Шак-шак захварэў на прагнасьць, што для таго, каб вылекаваць яе, ён мусіць наладзіць вялікую бяседу, падзяліць сваё багацьце між бедных, адарыць старых, хворых, бяздольных. Але ён адно пасьміхаўся ды кпіў, гаворачы: “Не!” – ды далей любаваўся й паглынаў вачыма сваё золата.

І тады зь неба загаварыў Сагалі Тайі[2] ды сказаў:

-- Шак-шак, ты здабыўся на вялікае даброцьце, але ты ня чуеш плачу галодных, поклікаў старых ды хворых, ты ня дзелішся сваім дабром, ты парушаеш законы дзядоў – ты сам зрабіў зь сябе вырадка свайго племені. І цяпер ты зробісься істотай, пагарджанай ды ненавіснай людзьмі, хоць чырвонымі, хоць белымі. У цябе будуць дзьве галавы, за тваю хцівасьць у цябе будзе два раты, каб кусацца. Адзін будзе кусаць няшчасных, а другі

– тваё собскае ліхое сэрца. А іклы ў роце будуць атрутныя – той атрутай, што забівае хцівасьць, атрутай, што забівае тваю мужчынскасьць. Тваё ліхое сэрца будзе біцца ў самай сярэдзіне твайго скарэлага цела, і той, хто праткне яго, назаўжды заб’е хваробу сквапнасьці для ўсяго свайго племені.

Наступным ранкам, калі над Паўночным Рукавом узышло сонца, людзі ўбачылі вялізнага марскога зьмея, што вытаркоўваўся над паверхняй Вод. Адна ягоная страшэнная галава ляжала на стромах мыса Броктан, другая – на грудзе камянёў, што ніжэй Місіі, на заходнім краі Паўночнага Ванкувера. Калі захочаш, зьезьдзім туды, я пакажу табе яміну ў вадным вялізным камені, дзе ляжала ягоная галава.

Людзі аслупянелі ад жаху. Агідная, жудасная, ненавісная пачвара. Дзень у дзень ляжыць там, ейныя галовы высоўваюцца з вады, цела даўжынёй зь мілю перакрывае ўсе выхады з Затокі, усе вытокі з Паўночнага Рукава.

Правадыры ра́дзіліся, шаманы скакалі ды пялі, але Олак-Салёны Карак так і не зварухнуўся. Ён ня мог рухацца наагул, бо ён сам быў ненавісным татэмам таго, што цяпер пануе ў сьвеце белых – сквапнасьць ды прага да залатых бразготак. Ніхто так і ня можа зрушыць прагу да золата з сэрца белага чалавека, ніхто ня можа прымусіць яго падзяліцца ўсім зь беднымі.

Але пасьля таго як правадыры ды шаманы ўжылі ўсю сваю сілу, а Олак-Салёны Карак усё так і ляжаў у Водах, да іх падышоў прыгожы шаснаццацігадовы юнак ды нагадаў словы Сагалі Тайі: “Той, хто праткне сэрца пачвары, заб’е хваробу сквапнасьці для ўсяго свайго племені”.

-- Дазвольце мне знайсьці гэтае ліхое сэрца, о шаноўныя майго племені! -- усклікнуў ён. – Дазвольце мне зваяваць гэтую пачвару, паспрабаваць пазбавіць нашых людзей гэтае заразы!

Хлопец быў сьмелы й вельмі прыгожы. Ягоныя суродзічы любілі яго й клікалі Тэнас Тайі (Малы Правадыр). Усёй сваёй ладнай здабычай рыбы ды футра, дзічыны ды гайква[11] ён дзяліўся з тымі, хто ня меў нічога; ён паляваў старым ежу, вырабляў скуры й футра тым, у каго слабелі ногі, бляклі вочы, маруднела кроў ад іхнага веку.

-- Няхай ідзе! – закрычалі людзі. – Нячыстую сілу можна пераадолець адно чысьцінёй, гэтую хцівую пачвару можна перамагчы адно велікадушнасьцю. Няхай ідзе!

Правадыры й шаманы паслухалі ды пагадзіліся.

-- Ідзі, -- загадалі яны, -- і зваюй гэтую істоту сваёй наймацнейшай зброяй – чысьцінёй і велікадушнасьцю!

Тэнас Тайі завярнуўся да сваёй маці:

-- Мяне ня будзе чатыры дні. І я буду плаваць увесь гэты час. Я ўсё жыцьцё намагаўся быць велікадушным, але людзі кажуць, што я мушу быць яшчэ й чыстым, каб пераадолець тую нячыстую сілу. Пакуль мяне ня будзе, штодня замяняй свежае футра мне на ложку, нават калі я ня буду на ім ляжаць. Калі я буду ведаць, што мая пасьцель, маё цела і маё сэрца чыстыя – я перамагу зьмея.

-- Свежае футра будзе штораніцы на тваім ложку, -- проста адказала маці.

Тэнас Тайі тады распрануўся ды без адзежы, адно засунуўшы за пояс з аленевай скуры, якому ён давяраў, свой паляўнічы нож, нырнуў у мора.

Але калі прайшлі чатыры дні, ён не вярнуўся. Часам людзі бачылі, як ён плаваў далёка ў Затоцы, намагаючыся знайсьці дакладна сярэдзіну зьмея, там, дзе знаходзіцца ягонае ліхое, сябелюбнае сэрца. Але на пятую раніцу ўбачылі, як ён, выйшаўшы з мора, забраўся на вяршыню мыса Броктан ды ўзьнятымі рукамі вітаў узыходзячае сонца.

Прайшлі тыдні ды месяцы, а Тэнас Тайі ўсё плаваў і плаваў у пошуках таго сэрца прагнасьці. І штораніцы зіхацеў золак на ягоным страмкім, брунатным целе, як ён стаяў з узьнятымі рукамі на кончыку мысу, вітаючы надыходзячы дзень, і тады ныраў зь вяршыні ў мора.

А ўдома на паўночным беразе штодня маці сьцяліла яму пасцелю свежым футрам.

Праходзіў час; зіма зьмяняла лета, а лета – зіму. Але мінула чатыры гады, пакуль Тэнас Тайі знайшоў сярэдзіну Олака-Салёнага Карка ды ўсадзіў свой паляўнічы нож у ягонае ліхое сэрца. У сваёй агоніі той скурчыўся ў Затоцы, пакідаючы след чарноцьця на вадзе.

Ягонае вялізнае цела пачало зьбягацца, карабіцца; яно зрабілася карлікавым ды зусім змарнела, пакуль ад яго не засталіся адныя хрыбетныя косткі, што, выбеленыя морам, безжыцьцёва затанулі на дно акіяна за мілі ад краю зямлі. Але калі Тэнас Тайі плыў дадому і ягонае чыстае цела перасекла чорную пляму, пакінутую пачварай, вада зрабілася чыстай ды блакітнай ды бліскучай. Ён перамог нават сьлед ад зьмея.

Калі ўрэшце ён паўстаў у дзьвярах сваго дома, сказаў:

-- Мама, я б ня змог забіць пачвару прагнасьці, каб ты не дапамагла мне, дзеля майго вяртаньня захоўваючы маё мейсца чыстым ды сьвежым.

Яна паглядзела на яго, як могуць глядзець адно маці:

-- Штодня, усе чатыры гады, адно чыстае футра я сьцяліла на твой ложак. Цяпер кладзіся ды адпачывай, ах, ты мой Тэнас Тайі.

---

Правадыр выпрастаў рукі і, з зусім іншым тонам у голасе, сказаў:

-- Ну, як ты назавеш гэтую гісторыю – легендай?

-- Белыя назвалі б яе алегорыяй.

Ён хітнуў галавой:

-- Ня ўцяміў.

Я патлумачыла яму як мага прасьцей, і ён са сваёй прыроджанай кемлівасьцю тут жа зразумеў:

-- Гэта тое, што мы, Сквамішы, маем на ўвазе – што прагавітасьць ёсьць ліхам ды нечыстотай, бы той Олак-Салёны Карак. Яна мусіць быць выкарчавана ў нашым народзе, забітая чысьцінёй ды велікадушнасьцю. Хлопец, што перамог зьмея, меў і тое, і другое.

-- А што зь ім сталася, з тым хлопцам?

-- Тэнас Тайі? О! Некаторыя нашыя старыя часам бачаць яго, як ён стаіць на мысе Броктан, з голымі распасьцёртымі рукамі вітаючы ўзыходзячае сонца.

-- А ты яго бачыў, Правадыр?

-- Не, -- адказаў ён проста.

Але ніколі я ня чула такога пранізьлівага шкадаваньня, як тады, калі ягоны цудоўны голас сьцяўся ў тое адзінае слова.



# МЫС ГРЭЙ



-- А вакол Мыса Грэй ты калі-небудзь хадзіла? – запытаўся мяне мой малады скваміскі цілікам[1], што часьцяком заходзіць да мяне, каб разьдзяліць са мной кубачак гарбаты ды мак-мак**, бо йнакш мне даводзілася б вячэраць у вадзіноце.

-- Не, -- прызналася я, -- ніколі ня мела тае прыемнасьці.

Я нават добра ня ведала тых водаў, што ў Ангельскай Бухце, каб вандраваць так сьмела ў сваім кволым чоўніку.

-- Некалі ... бадай, наступным летам, я вазьму цябе з сабой на ветразьнік ды пакажу адну вялізную скалу на паўднёвым захадзе Мыса. Гэта такая цікавая скала; мы, індзейцы, завем яе Гомальсам.

-- Якая дзіўная назва! Хіба гэта скваміскае слова? Мне здаецца, не.

-- Ня цалкам скваміскае, палова з мовы, што з ракі Фрэзар. Мыс быў некалі парубежнай мяжой між землямі й водамі двух плямёнаў, таму яны пагадзіліся стварыць назоў "Гомальсам" з дзьвюх моваў.

Я прапанавала яшчэ гарбаты; і пакрыху адпіваючы з кубка, ён распавёў мне легенду, якую мала хто з маладых індзейцаў ведае. Няма пытаньня, ці верыць ён сам у гісторыю, бо не раз ужо меў магчымасьць выпрабаваць вартасьці скалы, і тая іспытаў пэўна не праваліла.

Усе людзі, што маюць справы з вадаплавам, ёсьць забабоннымі наконт некаторых рэчаў, і я цалкам пацьвярджаю, што немаведама колькі разоў "высьвіствала" вецер, калі пагражаў мярцвяцкі штыль; ці, уторкнуўшы сцізорык у мачту, зь вялікім задавальненьнем назірала, як абвіслы ветразь напінваўся, і човен скранаўся зь месца лёгкім брызам.

Дык вось, я, напэўна, перадузятая ў ласцы да гэтае легенды аб скале Гомальсам, бо яна торгае за вельмі чуйныя струны той частцы майго сэрца, што заўсёды б'ецца дзеля мора.

---

-- Ведаеш, -- пачаў мой юны цілікам, -- што адно воды, не сапсаваныя чалавечай рукой, могуць быць карыснымі. Нельга здабыць моцы, плаваючы ў вадзе, нагрэтай ці кіпячонай на агні, зробленым чалавекам. Каб зрабіцца моцным ды мудрым, трэба плаваць у прыроднай вадзе: у рэках, горных патоках, моры – такімі, якімі іх стварыў Сагалі Тайі[2].

Ейная вартасьць зьнікае, калі чалавек спрабуе палепшыць яе, награваючы ці ачышчаючы, ці нават дабаўляючы гарбату ў яе. Дык вось, што робіць скалу Гомальсам такой багатай на "цудадзейную сілу" – гэта тое, што воды, якія абмываюць яе, ёсьць проста з акіяну, зробленага рукамі Вялікага Тайі, ды ня сапсаваныя рукамі чалавека.

Яна не заўсёды там была. Вялікая скала, што чэрпае моц ды цудадзейную сілу з мораў, сама некалі й была Вялікім Тайі[9] – тым, што валодаў магутнымі шляхамі вады. Ён быў богам усіх водаў, што абмываюць Узьбярэжжа, водаў заток Джорджыя, Пуджыта, праліву Хуан дэ Фука, нават водаў, што б'юцца аб заходні бераг выспы Ванкувер, і яшчэ ўсіх затокаў паміж выспаў Шарлот.

Ён быў Уладаром Заходняга Ветру, і ягоныя буры ды навальніцы былі такімі магутнымі, што сам Сагалі Тайі ня мог прытнуць тых разбурэньняў, што яны выраблялі. Ён барукаўся з усімі рыбацкімі вадаплавамі, ламаў чоўны ды адпраўляў людзей у марскую бездань. Ён выдзіраў з каранямі лес дрэваў ды шпурляў на бераг прыбой, абцяжараны гэтым ламаччам ды забітай і праненай рыбай.

Усё гэта ён вырабляў, каб пахваліцца сваёй моцай, бо ён быў жорсткі й зларадны, ён пасьміхаўся ды кідаў выклік Сагалі Тайі, ды, звяртаючыся да неба, усклікваў:

-- Паглядзі, які я магутны! Я моцны, я дужы! Я такі ж вялікі, як ты!

А здарылася тое, калі Сагалі Тайі ў вабліччы Чатырох Мужоў падымаўся ў вялізным чоўне на поўнач уздоўж узьбярэжжа Ціхага акіяну, у тую эпоху тысячу гадоў таму, калі яны ператваралі ліха ў камяні, а дабро ў дрэвы.

-- Ну, -- сказаў Уладар Заходняга Ветру, -- зараз я пакажу, які я вялікі. Я надзьму такую буру, што гэтыя мужыкі ня змогуць прычаліць да майго берагу. Ня будуць яны хадзіць прывольна па маіх марах, затоках ды пралівах. Як кульну іх зараз – адправяцца яны ў бездань, і буду я Сагалі Тайі замест іх ды ўладаром усяго сьвету.

І вось пачаў дзьмуць Уладар Заходняга Ветру, узьнімаючы вялізную буру. Хвалі падняліся вышэй за горы, мора загуло, захвастала па берагах. Было чутна, як грукат гэткага магутнага подыху выдзіраў кавалкі зь вялізных дрэваў у лесе, гойсаў са сьвістам па каньёнах, прыносячы ўсюды сьмерць ды разбурэньні на цэльныя мілі ды мілі па Ўзьбярэжжы.

Але човен з Чатырма Мужамі ўпэўнена рушыў праз усе хвалі й прорвы бурлівага акіяну. Ні вялізныя грэбні хваляў, ні чорная бездань пад імі не змаглі пашкодзіць чароўнаму чоўну, бо сэрцы, каторыя ён нёс на сабе, былі поўныя дабрынёй да ўсяго людзкога роду, а дабро ня можа загінуць.

І была скала, пакрытая густым лесам, бязлюдная, адно дзікія зьвяры ды марскія птушкі знаходзілі там паратунак ад пагромаў Заходняга Ветру. Але той выгнаў іх у страшэнным гневе, каб на тым лапіку сушы ўмацавацца дзеля апошняй атакі на Чатырох Мужоў. Бледнатварыя называюць гэтае месца Шэрым мысам, але індзейцы ўсё яшчэ кажуць аб ім як аб "Цытадэлі Заходняга Ветру".

Тут ён сабраў усю сваю моц і кінуў яе на човен, што йшоў гэтым курсам. Ён абрынуў ураганы з камняпадамі з высокіх стромаў, ён загадаў мору закруціцца бурлівымі вірамі па вузкіх быстрынях між скал, але човен усё набліжаўся, неадольны, што тыя скалы, мацнейшы за сьмерць.

Як човен даткнуўся зямлі, Чатыры Мужы ўзьняліся ды загадалі Заходняму Ветру спыніць свой баявы покліч, і вось які б магутны ён ні быў, але голас ягоны задрыжэў, усхліпнуў, сьцішэў да лёгкага ветрыку, тады да шэпту, ды ўрэшцэ сьціх у лагодным маўчаньні.

-- Эх ты, зладзюга з чорным сэрцам! -- крыкнулі Чатыры Мужы, -- Ты быў такім вялікім богам, што нават Сагалі Тайі ня мог зладзіць з табой! Што ж, ты будзеш жыць, але будзеш жыць адно, каб служыць, а ня шкодзіць, людзям. Тыператворысься ў скалу проста тут, дзе стаіш, а ветрам будзеш адно тады, калі гэта будзе патрэбна чалавеку. Ад гэтага часу тваё жыцьцё будзе людзям на карысьць – як што рыбацкі ветразь абвісьне далёка ад роднага берагу, ты напоўніш яго ды пагоніш човен туды, куды пажадае рыбак. І будзеш стаяць тут, дзе стаіш, праз тысячы й яшчэ тысячы гадоў, і той, хто даткнецца да цябе лопасьцю свайго вясла – будзе мець жаданы ветрык, што прынясе яго дадому.

---

Мой малады цілікам скончыў свой аповед ды паглядзеў на мяне сваімі вялікімі сумнымі вачыма.

-- Я б хацеў, каб ты пабачыла скалу Гомальсам. Бо гэта ён і ёсьць – той, хто аднойчы быў Уладаром Заходняга Ветру.

-- А ты сам трапляў у штыль ля Шэрага мыса? – спыталася я недарэчы.

-- Часцяком. Але веславаў да скалы, датыкаўся да яе кончыкам вясла, і, не зважаючы, куды ляжаў мой шлях, узьнімаўся спадарожны вецер, адно варта пачакаць крыху.

-- Мяркую, усе вашыя робяць гэтак?

-- Усе. Мы робім гэтак ужо стагодзьдзі. Ведаеш, ейная вартасьць усё такая ж моцная, як адпачатку, бо яна штодня чэрпае сілу зь несапсаванага мора, створанага Сагалі Тайі.




*Від на мыс Грэй сёньня*



## СЬЦЕЖКА ТУЛАМІНА



Ці даводзілася вам калі-небудзь вандраваць праз даліны Сухога Пасу? Марнавацца дзень у дзень у калясцы, калі за лейцамі чацьвёркі коней сядзіць якісь “Курчавы” ці “Нікала́ Нэд” ды ліха запраўляе і сваімі спрактыкаванымі “маляўкамі”, і павозкай, якая арэліць ды матляецца ўніз ды ўверх па гэтых страхотных горных сьцяжынах, што пятляюць, раскіданыя бы тыя шматкі рудога павуціньня па верхатурах ды стромах Аканагана, па землях Нікала́ ды Сімілкаміна? Калі так, то вы пэўна чулі покліч Скукама-Квахтуна, як Чынукі[13] завуць свае бурклівыя, камяністыя ручаі, што пяюць на сваім шляху праз каньёны музыку, такую пяшчотную й такую напорыстую, што праз многія месяцы ейнае рэха яшчэ гучыць у вас у вушах, і вы будзеце праз усе наступныя гады чуць, як галасы тых горных рэк клічуць вас вярнуцца туды.

Але самай чароўнай з усіх мэлёдыяў ёсьць журклівы сьмех Туламіна; ягоная далікатная нота накроць мацнейшая, бо лунае куды далей, чым гартанны грукат Ніягары. Вось чаму індзейцы зямлі Нікала́ да гэтае пары захоўваюць у памяці старадаўнюю гісторыю аб тым, што Туламін нясе ў сабе душу дзяўчыны, спавітую зь дзівосамі свайго пакручастага рэчышча; душу, якая ніколі ня зможа вызваліцца з гэтых каньёнаў, узьняцца над вершалінамі ды памкнуцца за такімі ж, як яна, у Край Шчасьлівага Палянаваньня, але будзе адно задавальняцца ўпляценьнем свайго сьмеху й сваёй тугі, самотнага шэпту і яшчэ больш самотнага покліча сяброўства ў дзікую музыку водаў, што пяюць сваю адвечную песню пад зоркамі Захаду.

Вашыя коні караскаюцца ўсё вышэй і вышэй па амаль вертыкальнай сьцежцы, што вядзе з даліны Нікала́ да вяршыні, туды, дзе проста ад тваіх ног распасьціраецца райская прыгажосьць; колеры ейныя немагчыма апісаць словамі, подых ейны зачароўвае. І вяртаецца маладосьць, і зноў пульсуе шалёная кроў, аж пакуль бліжэй да вершаліны ты раптам робішся надзіва спакойным сярод гэтай нямой цішыні – цішыні настолькі сьвяшчэннай, што здаецца, увесь сьвет вакол цябе ўзмахвае сваім кадзілам перад алтаром у нейкім далёкім цьмяным саборы! Даносяцца галасы з хораў далёкага Туламіна, а вершаліны Нікала́ падобныя да маўклівых малельнікаў, што трымаюць людзкія душы ў чаканьні першага ўзнёслага акорду зь нябеснага аргана.

На гэтых першых мілях і мілях доўгага ўзыходжаньня суцішваецца нават стаката пасьцёбваньняў чорнай зьмяі кіроўцы. Ён дазваляе конікам самім выбіраць надзейны шлях, але, штоляк ўсьцягнуўшыся наверх, ён зараз жа падбірае лейцы ў свае сталёвыя пальцы, прысьвістае, кончак даўжэзнае пугі зьвіваецца на вушах карэннага, і вы даяце нырца ў стромыя нетры гор. Кожны фут такога спаду праносіцца ўгалоп. Каляска трасецца ды матляецца, цудам унікаючы ў пратораную сярод лесу сьцежку; часам ускосы такія

крутыя, што ты ня бачыш вядучых коней, як тыя ўхісаюцца за шэрыя стромы, шваркаючы па іх левымі калёсамі, тымразам правымі выпісваючы ў радыюсе пары футаў дугу па краі прадоннага зеўра. І адно рытмічны пошчак капытаў ды ляскат бізуна з посьвістам, а часам грукат каменьня, што ссыпаецца долу з-пад шалёных калёс, перарываюць сьвяшчэнную цішыню.

Але па-за гэтымі блізкімі гукамі, здаецца, ёсьць яшчэ нейкае нявызначанае шапаценьне, і чым бліжэй вы да падножжа гары, тым больш яно робіцца мілейшым, больш музычным, уздымаючыся над усімі грубымі нотамі. Гэта – голас Туламіна, што, сьмеючыся, танцуе праз скалістае жэрла каньёна, тры сотні футаў ніжэй. Тады за песьняй зьяўляюцца праблiскі самой ракі – белыя покрывы з пырскаў ды вясёлак на ейных незьлічоных парогах ды вадаспадах. Любавацца ім гэтак жа павабна, як і слухаць, – і вось ён ужо тут, і сьцяжына бяжыць уздоўж і над ім праз мілі, таму індзейцы і кажуць, што душа дзяўчыны, якую ён злавіў, да гэтае пары пераплеценая зь ягоным зачараваньнем.

Гэта было падчас адной з тых жахлівых войнаў, што бушавала паміж двума плямёнамі ў даліне, яшчэ задоўга, як сьляды белага чалавека былі заўважаны сярод сьцяжын. Ніхто ўжо ня скажа цяпер, што спрычыніла тую вайну, але можна меркаваць, што была яна проста за племяннное верхавенства – той першабытны інстынкт, што апаноўвае дзікуноў, хай то чалавек ці жывёла, што прыводзіць да крывавае бойкі, як правадыроў зьвярынага статку, гэтак і задзірлівых з чалавечае пароды. Гэта – прага ўлады, той барбарскі інстынкт, якога цывілізацыя так і ня можа выкараніць сярод варагуючых народаў. Тая вайна між плямён у даліне цягнулася ўжо гадамі; мужчыны біліся, жанчыны іх аплаквалі, дзеці гаравалі – як гэта было спрадвеку.

Гэтая вайна падавалася няроўнай, бо на адным баку быў стары, дасьведчаны, загартаваны ў баях правадыр са сваімі двума зухаватымі сынамі, а на другім – адзін малады ваяр Туламін. Абодва бакі мелі сваіх прыхільнікаў, абодва былі неадольнымі, не саступаючы ні ў мужнасьці, ні ў сьмеласьці, абодва былі непахіснымі ды амбітнымі, абодва былі ўдалымі ваярамі.

Але на баку старога былі спрактыкаванасьць ды яшчэ два пільныя, стратэгічныя розумы на дапамогу, тымчасам як за юнаком былі перавага адчайнай маладосьці ды непераможнага ўпарства. І з кожнай гарачай бойкі, з кожнай сутычкі маладзён даставаў болей і болей, а стары страчваў крок за крокам. Дасьведчаная сталасьць паступова, але няўхільна саступала моцнаму маладому запалу. І тады аднойчы яны сустрэліся сам-насам – стары, увесь у шнарах, правадыр і малады імпэтны ваяр. Гэта быў няроўны бой. І ў выніку кароткага, але жорсткага двубою маладзён паставіў старога на калені.

Стоячы над ім з узьнятым кінжалам, ваяр Туламін зьедліва засьмяяўся ды кажа:

-- Хацеў бы ты, мой вораг, мець гэтую перамогу за сваю? Калі так – я аддам яе табе. Але за гэта я патрабую ад цябе адплату – тваю дачку.

Стары зрапту глянуў на свайго пераможцу са здзіўленьнем; ён заўсёды думаў аб сваёй дачцэ як аб дзіцяці, што адно гулялася па лясных сьцежках ды сядзела паслухмяна побач з маці ўдома, вышываючы свае макасінкі ці сплятаючы кошычкі.

-- Ты што! – рыкнуў ён. – Маю дачку – якая адно ледзь ад калыскі – аддаць табе, чые рукі па локці ў крыві маіх суродзічаў?! Ты насьмельваесься прасіць...

-- А я не прашу! – адказаў малады вой. – Я патрабую! Я бачыў дзяўчыну, і яна будзе маёй.

Стары правадыр ускочыў на ногі й выплюнуў свой адказ:

-- Перамога – твая. А маё дзіця – маё! -- хаця ён добра ведаў, што рабіў выклік ня толькі ворагу, але й самой сьмерці.

Тулямін адно засьмяяўся.

-- Я ня буду забіваць вытворніка сваёй жонкі, -- чмыхнуў ён. – Будзе яшчэ адзін паядынак – і твая дачка сама прыйдзе да мяне.

І ён пайшоў сваім пераможным шляхам да сябе ў горы, а стары правадыр паплёўся дахаты ў каньён.

Наступнай раніцай дачка правадыра гуляла ў гарах, слухала, як сьпявае рака, часам перагінаючыся праз край стромы, углядалася ў ейныя курлівыя віры й вадаспады. Раптам яна пачула лёгкі шоргат, быццам птушынае крыло шуганула ў паветры. Тады ля ейных ног упала тонкая пругкая страла. Дзіця лесу, яна зразумела, што страла была спушчана не ў яе, а для яе. Яна агледзелася, як зьвярок. Тады ейнае пільнае вока злавіла абрысы прывабнай, страмкой постаці на вяршыні за ракой. Яна ня ведала, што ён – вораг ейнага бацькі. Яна адно бачыла маладога, дужага прыгажуна. І ў ёй прачнуўся дух прыроднай дзявоцкай гарэзьлівасьці. Хуценька яна прыклала сваю далікатную стралу да лука; і калі тая, праляцеўшы з посьвістам праз вузкі каньён, упала ля ягоных ног, ён ведаў, што яна страляла не ў яго, а для яго.

Наступнай раніцай яна бясшумна, па-жаночы, прабралася на край стромы. Ці пабачыць яна яго зноў, таго прыгожага воя? Ці пашле ён яшчэ адну стралу да яе? Не пасьпела яна вызірнуць з зарасьніка, як пачула слабы шоргат паветра, і страла лягла ля ейных ног. Да перыстага кончака быў прывязаны кутасік з хваста гарнастая. Яна зьняла з запясьця вязку ракавінкавых пацерак, замацавала іх на адну з сваіх далікатных стрэл і адправіла яе праз каньён, як і ўчора.

Наступнай раніцай, перш чым пакінуць жытло, яна прычапіла кутасік з гарнастая да сваіх чорных валасоў. Ці заўважыць ён яго?

Але страла не прыляцела да ейных ног у гэты дзень. На беразе стромы яе чакала павабнейшае пасланьне. Ён сам быў там. Ён – той, што не выходзіў зь ейных думак ад таго часу, як першая страла зь ягонага лука лягла ля ейных ног. Ягоныя вочы загарэліся цёплым агнём, калі яна падышла, але ягоныя вусны прамовілі проста:

-- Я перайшоў праз Тулямін-раку.

Яны стаялі разам, плячо да пляча, і глядзелі ў дол абрыву перад імі, моўчкі назіраючы за бурлівым патокам, што перакочваўся па валунах і скалах.

-- Там – мая краіна, -- сказаў ён, гледзячы праз раку. – А гэта – краіна твайго бацькі й тваіх братоў; а яны – мае ворагі. Я вяртаюся да свайго берага ўвечары. Пойдзеш са мной?

Яна падняла вочы й глянула ў ягоны прыгожы твар. Значыць, гэта быў бацькавы вораг – той жахлівы Тулямін!

-- Пойдзеш? – паўтарыў ён.

-- Пайду, – прашаптала яна.

Праз ветлую ноч пры сьвятле месяца ён павёў яе далёка па камяністых берагах да вузкага пасу ціхае вады, дзе яны перайшлі раку ў ягоную краіну.

Прайшоў тыдзень, і месяц, прайшло доўгае залатое лета, але абражаны стары правадыр са сваімі разьюшанымі сынамі так і не здолелі знайсьці яе.

Аднойчы, раніцою, калі закаханыя ішлі разам па верхалінах над стромамі ракі, нават заўсёды пільныя вочы Туламіна не заўважылі затоенага ворага. На другім беразе вузкага каньёна вокраччу паўзлі, прысядалі два хітрыя браты ягонай дзяўчыны-жонкі. Іхныя стрэлы ўжо былі на нацягнутых цецівах, іхныя сэрцы гарэлі нянавісьцю ды помстай. Як дзьве прагныя драпежныя птушкі, паляцелі тыя стрэлы праз бурклівую раку, але перш, чым яны знайшлі сваю цэль на грудзях пераможнага Туламіна, дзяўчына несьвядома заступіла перад ім. Хапіўшы ротам паветра, яна асела ў ягоныя рукі, з братавымі стрэламі, што ўпіліся ў ейную мяккую, брунатную плоць.

Прайшло шмат месяцаў, пакуль ягоная помстая рука пасекла і старога правадыра, і ягоных ненавісных сыноў. Але калі ўрэшце ўсё было скончана, малады прыгажун Туламін пакінуў сваіх людзей, сваё племя, краіну ды сышоў далёка на поўнач.

-- Таму што, -- сказаў ён, спяваючы сваю разьвітальную баявую песьню, -- маё сэрца ляжыць мёртвым ў Туламін-рацэ.

__________________________

Але душа ягонае жонкі-дзяўчыны ўсё яшчэ сьпявае сярод каньёнаў, ейная песьня злучаная з музыкай тае ракі, чый голас ёсьць найсаладзейшым сярод далін Сухога Пасу. Вось чаму і гэты сьмех, і гэтае журклівае шапаценьне прыгажуна Туламіна ніколі не пакідае вушэй тых, хто хоць аднойчы пачуў ягоную песьню.







LEGENDS
of
VANCOUVER
by E·PAULINE JOHNSON
(Tekahionwake)
New Edition Illustrated
WITH DECORATIONS BY J·E·H·MACDONALD
McCLELLAND ◇ AND ◇ STEWART
PUBLISHERS TORONTO

# ШЭРАЯ АРКА



Наш параплаў, бы вялізны чаўнок, снаваў туды-сюды сярод незьлічоных выспачак, за ім валачыўся даўгі шалік шэрага дыму, які завісаў потым над берагамі, адкідваючы на бліскучыя воды Ціхага акіяну невыразныя цені, што калыхаліся ад скалы да скалы сярод гэтай невымоўнай прыгажосьці.

Пасьля вячэры я прагульвалася па карме, песьцячы адвечную надзею вандроўніка пабачыць звычайную красу паўночнага суклоньня, і па шчасьлівай нагодзе паставіла сваё крэсла побач з адным старым, што стаяў, абапершыся на парэнчы, з піпкай у тонкіх, выгнутых вуснах. Рукі ягоныя былі бязьдзейна самкнутыя, сумныя вочы ўглядаліся ў далячынь мора, быццам ма́ніліся ўбачыць будучыню – а можа, яны проста бачылі мінулае?

-- Кла-хаў-я, цілікам[1]! – павітался я.

Ён азірнуўся ды пасьміхнуўся краем вуснаў.

-- Кла-хаў-я, цілікам! – адказаў ён з той цёплай прыязьню, якую я заўсёды сустракаю сярод ціхаакіянскіх народаў.

Я падсунула сваё крэсла бліжэй да яго, і ён прывітаў мае дзеяньні яшчэ адной лёгкай усьмешкай, але не зварухнуўся ад свайго ўмацаваньня, бы захоўваючыся за непарушнай крэпасьцю сваёй выключнасьці. Адылі я ведала, што маё чынуцкае[14] прывітаньне можа стацца тым мостам, па якім я мела спадзеў пераадолець той роў, што абкружаў за́мак ягонага маўчаньня.

Па-індзейску ён пацягнуў час, перш чым працягнуць нашае знаёмства. А тады пачаў на амаль выдатнай ангельскай:

-- Вы добра ведаеце гэтыя паўночныя воды?

Я пахітала галавой.

Няспешна, праз каторы час, ён нахіліўся наперад, аглядаючы загібы палубы, каналы ды пратокі, па якіх мы прабіраліся, шырокі пас хвалі, што цягнуўся ад носа параплава. Урэшце ён узьняў руку тым адметным індзейскім рухам, паказваючы ўдалячынь:

-- Бачыш, вунь там? Маленькая выспачка? На самым акрайчыку вады, бы шэрая кагарка?

Маім нязвыклым вачам спатрэбіўся нейкі час, каб заўважыць яе, але тады адразу я распазнала ейныя абрысы, прыхаваныя за смугой адлегласьці – шэрая, дрымотная павуцінка.

-- Так, -- адказала я. – Цяпер бачу. Ты раскажаш мне аб ёй, цілікам?

Ён кінуў хуткім вокам на маю цёмную скуру, тады кіўнуў:

-- Ты адна з нас, -- сказаў ён, відавочна не мяркуючы ніякага супярэчаньня. – І ты зразумееш, або мне не варта і распавядаць. Ты не будзеш пасьміхацца з гэтае гісторыі, бо ты адна з нас.

-- Я адна з вас, і я зразумею, -- адказала я.

Цэльных паў-гадзіны прайшло, пакуль мы наблізіліся да выспы, аднак ніхто з нас не прамовіў і слова за гэты час. Калі "шэрая кагарка" выявілася скалой з дрэвамі ды стромамі, я заўважыла ў самым цэнтры дзівосную крушню камянёў, што ўзьнімалася высока да неба, без расшчэлін ці расколін, але своеасаблівая засмужанасьць вакол падмурка прымусіла мяне прыглядзецца пільна, каб зразумець, што ён мае дакладную форму.

-- Гэта – Шэрая Арка, -- патлумачыў ён проста.

Адно тады я зразумела адметнасьць прыроднага стварэньня, што праплывала перад намі: скала была сапраўднай аркай, праз каторую мы маглі бачыць спакойны Ціхі, што мільгацеў у набрынялых колерах суклоньня.

-- Якая незвычайная прыхамаць Прыроды! – усклікнула я, але ягоная брунатная рука супярэчліва сьціснула мой локаць, зь нецярплівасьцю абарваўшы маю заўвагу.

-- Не-не, гэта не Прырода. Вось чаму я казаў, што ты маеш зразумець – бо ты адна з нас – ты будзеш ведаць, што тое, што я кажу, ёсьць чыстай праўдай. Сагалі Тайі[2] не ствараў гэтай аркі, не; гэта... – тут ён панізіў голас, -- гэта было чарадзейства, шаманства й чары чырвонаскурых... Сьцяміла?

-- Даўным-даўно, -- пачаў ён, запінаючыся, на злёгку ламанай ангельскай мове, дзеля, я думаю, антуражу, -- задоўга, як ты нарадзілася, ці твой бацька, ці дзед, ці нават ягоны бацька, здарылася гэтая дзіўная штука. Гэтая гісторыя для жанчын, каб паслухаць ды запомніць. Жанкі – яны будучыя маткі племені, і мы тут, на Ціхаакіянскім Узьбярэжжы, уважаем гэта за вялікі гонар і аддаем ім вялікую пашану. Жанчыны, што ёсьць маткамі, – о-го! – якія яны паважныя, кажам мы. Воі, змагары, адважныя мужы, бясстрашныя дачкі – усе вінныя маці, ад якіх запазычылі ўсе свае вартасьці, -- гэх, хіба гэта ня так заўсёды?

Я моўчкі кіўнула. Выспа калыхалася ўсё бліжэй да нас, Шэрая Арка ўздымалася амаль над намі, містыка тужэла ўсё бліжэй, ахутвала мяне, абдымала, лашчыла.

-- Дык? – закінула я напамін.

-- Дык... Гэтая "Шэрая Арка" ёсьць гісторыяй аб маці, аб чарах, прываротах, аб малайцах, аб – каханьні.

Індзеец рэдка ўжывае слова "каханьне", але калі робіць гэта, значыць, мае выказаць самую сутнасьць, самую якасьць, самую глыбіню, пачуцьцё ды жарсць, укладзеныя ў гэтыя некалькі літар. Пэўна што мяне чакала надзвычайная гісторыя.

Я нічога не адказала, адно глядзела праз пульсуючыя воды на Шэрую Арку, якую лашчыла напалову затопленае сонца такой мяккай пастэляй, такімі адценьнямі, што ня маюць і назваў, прыгажосьцю, якую й апісаць немагчыма.

-- Хіба ты ня чула пра Яаду? – спытаўся ён.

Тады, шчасьлівым разам, ён пачаў аповед, не чакаючы аказу. Ён цудоўна ведаў, што ня чула я ніколі пра Яаду, чаму ж не распавесьці мне аб ёй без усялякіх падрыхтоўчых перамоваў? – дык вось...

---

Яада была самай прывабнай дачкой роду Гайда. Маладыя хлопцы з усіх выспаў, зь вялікай зямлі, зь верхняга краю Скіна прыходзілі ў надзеі забраць яе ў свае далёкія гаспадаркі, але ўсе вярталіся бяз ніякага якага. Яна была самай жаданай з усіх дзяўчат на высьпе: прыгожая, сьмелая, сьціплая – дачка сваёй маці.

І быў тады адзін вялікі муж, вельмі вялікі – шаман – моцны, удалы, уплывовы, спрактыкаваны, стары, жалюгодна стары, але вельмі, вельмі багаты. І ён сказаў:

-- Яада будзе маёй жонкай.

А быў адзін малады рыбак, прыгожы, лагодны, вясёлы, бедны, о! вельмі бедны, але панадна малады. І ён таксама сказаў:

-- Яада будзе маёй жонкай.

І маці Яады сядзела ўбаку, ды ўсё разважала, ды прыкідвала, як усе маці. Яна казала сама сабе: “У вялікага шамана ёсьць сіла, багацьце ды цудоўныя чары – чаму б не аддаць дачку за яго? Але ў Алкі юнае сэрца, маладзецкая прыгажосьць; ён такі сьмелы, такі дужы. Чаму б не аддаць за яго?”

Але ж у вялікіх Гайда быў свой звычай. Мудрыя тыя казалі: “Аддавай дачку за самага лепшага, аддавай за самага моцнага, самага багатага. Чарадзей мае перавагу”.

Але тут матчына сэрца растала, што той воск на сонцы – і чаго гэныя матчыны сэрцы выраблены з такое халеры, проста дзіву даесься!

-- Аддам яе за таго лепшага, каго яна трымае ў свамі сэрцы! – сказала маці Гайда.

Тады Яада сказала:

-- Я – дачка свайго роду; я буду ацэньваць мужчын па іхных вартасьцях. За таго, хто пакажа сябе больш годным, і выйду замуж. Не багацьце робіць добрым мужам, не прыгажосьць робіць добрым бацькам для дзяцей. Давайце мы ўсім кланам паглядзім, чаго вартыя гэтыя мужчыны, ці змогуць яны давесьці сваю годнасьць. І толькі тады я выберу, хто будзе бацькам маіх дзяцей. Давайце наладзім іспыт для іх, няхай яны пакажуць мне, што ёсьць у іхных сэрцах – дабро ці ліха. Няхай кожны зь іх кіне камень з усёй сілай пачуцьця свайго сэрца. Чый кідок будзе адметнейшым, той назаве мяне сваёй жонкай.

-- Авохці мне! Ай-яй! – узвыла тут мама Гайда. – Гэтыя закіды ня выявяць іхнае годнасьці. Адно пакажуць іхнае ўмельства.

-- Але ж я маліла Сагалі Тайі майго бацькі ды ягонага бацькі, каб Ён дапамог мне выбраць зь іх абаіх менавіта на такі спосаб, -- сказала дзяўчына. – То няхай кідаюць камяні. Толькі гэтак я ўбачу, што ў іхных сэрцах унутры.

Ніколі шаман не выглядаў такім старым, як у гэты момант, настолькі безнадзейна старым, панурым, зьнямелым: ён – ня па́ра для Яады. Алка ніколі яшэ не выглядаў такім богападобным сваёй маладой прыгажосьцю, такім страмкім, такім мужным. Дзяўчына, глянуўшы на яго, ужо была гатовая працягнуць яму руку, але дух дзядоў яе спыніў. Яна сказала сваё слова – і павінна была стрымаць яго.

-- Кідайце!

Дрыготкімі пальцамі вялікі шаман падняў невялікі, круглы камень; пры гэтым ён ня зводзіў зь дзяўчыны прагных вачэй, мармычучы словы закляцьця са сваімі хцівымі думкамі аб ёй.

Моцнымі маладымі пальцамі Алка ўзяў гладкі, роўны камень; з хлапечай сьціпласьцю апусціў свае вочы, у думках абагаўляючы яе.

Вялікі шаман запусьціў свой камень першым; той пранёсься ў паветры, нібы прамень бліскавіцы, ды, ляснуўшы ў вялікую скалу, разваліў яе ўдрузг. Там, дзе камень трапіў у скалу, адкрылася Шэрая Арка, і да гэтае пары стаіць адкрытай.

-- О, цудоўная сіла ды чарадзейства! – закрычаў увесь клан. – Нават камяні яму падпарадкоўваюцца!

Але Яада стаяла разгубленая з роспаччу ў вачах. Алка не валодае такімі чарамі – яна ведала гэта. Але побач зь ёй стаяў Алка – страмкі, высокі, прыгожы. Але як толькі ён

закінуў свой камень, злавешчы голас старога шамана пачаў яшчэ больш ліхое закляцьце. Ён уперыўся ядавітымі вачыма ў маладога суперніка, вачыма, што гарэлі непрыхаванай адмецінай ліхога чарадзейства – чорнай магіі.

Камень пакінуў Алкавы пальцы. Нейкі час ён ляцеў уперад па простай лініі, тады, як злавесны голас старога ўзмацніўся ў сваім заклінаньні, камень раптам завярнуўся. Чары перахапілі моцную руку малайца. На імгненьне камень завіс над галавой Яадзінай маці, а тады абрынуўся з усім цяжарам гор, і тая адышла ў свой апошні вечны сон.

-- Ты забіў маю маці! – ускочыла дзяўчына, накінуўшыся на шамана. – О, цяпер я бачу праз тваю чорную магію, якое ў цябе чорнае сэрца. Добрымі чарамі ты выбіў Вялікую Арку, а на Алку накіраваў чорныя. Я бачыла, якімі злымі вачамі ты глядзеў на яго, чула твае ліхія закляцьці. Я ведаю – у тваім сэрцы ліха. Ты бессардэчна скарыстаў з магіі ў надзеі выйграць мяне – у надзеі зрабіць зь яго вырадка нашага роду. Ты не падумаў, якое гора мне зробіш, як мне жыць далей бяз маткі!

Тады, завярнуўшыся да людзей, яна запыталася:

-- Хто з вас таксама бачыў ліха ў ягоных вачах, калі ён глядзеў на Алку? Хто чуў магічныя закляцьці?

-- Я.

-- І я.

-- І я, -- адзін за адным раздаліся галасы.

-- Мы дыхаем атручаным паветрам, што вакол яго, -- закрычалі людзі. – Юнак не вінаваты, ягоная сэрца чыстае, як сонца. Але ў таго, хто карыстаўся чорнай магіяй, сэрца чорнае ды халоднае, як у часы перад сьвітанкам.

І тады загучаў ды ўзьняўся ў дзіўным, пяшчотным, журботным галашэньні голас Яады:

Ножанькі мае больш ня будуць хадзіць па той высьпе,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.
Заснула мая матачка навек на той высьпе,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.
Разьбілася сэрца маё на той высьпе,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.

Аж жыцьцё маё было ейным жыцьцём на той высьпе,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.
А душа маёй мамкі пакінула тую выспу,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.
Вядуць мяне ножанькі за ёй з тае выспы,
Дзе вялікая, Шэрая Арка.

Як яна плакала ды галасіла, усё бліжэй рухалася да стромы над морам. На самым краі яна спынілася, стала з распасьцёртымі рукамі, што тая пругкая чайка, крыкнула:

-- Алка, мой Алка! У сэрцы тваім няма віны. Гэта ўсё злыя чары твайго супара, што забіў маю матку. Я мушу йсьці да яе, і нават ты ня зможаш затрымаць мяне. Пойдзеш са мной, ці застанешся? Ах, мой Алка!

Хлопец, такі пранізьліва малады, такі страмкі, кінуўся да яе, яны ўхапіліся за рукі, на момант яны замёрлі на краі скалы, прамяністыя, як зоркі – тады разам рынуліся ў мора.

.______________________

Легенда скончылася. Даўно мы мінулі выспу зь ейнай Шэрай Аркай; яна ўжо таяла далёка ў сутоньні. Разважаючы над гэтай дзіўнай гісторыяй даччынай адданасьці, я ўсё ўглядалася ў суклоннае неба ды мора, нібы чакаючы нечага, што магло б даць мне падказку да немінучай развязкі, якую цілікам, як усе зь ягонага народу, бадай прыхоўваў да спрыяльнага моманту.

Нешта бліснула ў цёмнай вадзе, не падобнае да выкідаў параплава. Я нахілілася, намагаючыся разгледзець. Дзьве серабрыстыя рыбкі плёскаліся ля паверхні вады, ловячы апошнія промні суклоньня, мігцелі, як каштоўныя камяні. Я хутка азірнулася на цілікама. Ён глядзеў на мяне – суцэльны сьвет запытальнага смутку ў ягоных вачах.

-- Гэныя дзьве серабрыстыя рыбкі..? – запыталася я.

Ён усьміхнуўся з палёгкай.

-- Я ж казаў. Ты ведаеш, якія мы, бо ты адна з нас. Так, гэтых рыбак можна ўбачыць адно ў гэтых водах. І іх заўсёды няйнакш, як дзьве. Гэта – Яада са сваёй парай, усё шукае дух жанчыны Гайда – сваёй маці.








*Від на Страчаную Лагуну цяпер*

# ВЫСПА МЁРТВЫХ



Доўга мы стаялі моўчкі, абапершыся на заходнія парэнчы моста, назіралі суклоньне за прыгожым стаўком вады, вядомым як Вугальная Прыстань. Мяне заўсёды абурала гэтая лапезная, недарэчная назва; шмат гадоў таму, налягаючы на вясло праз хвалярэз лёгкага чоўна ці проста бавячы час у ім, я называла гэтую затуленую бухтачку Страчанай Лагунай.

Гэта цешыла маю фантазію, бо падчас таго цудоўнага летняга месяца нястомныя адлівы пакідалі гавань зусім без вады ў мой улюбёны час для веславаньня, і маё любімае месца для баўленьня часу гублялася на многія дні – таму ў думках я наракла яе Страчанай Лагунай. Але Правадыр, па-індзейску, умомант прыняў назву, прынамсі, калі гаварыў мне аб гэтым месцы. І цяпер, калі мы наглядалі за сонцам, што садзілася за край елак, ён выказаў жаданьне, каб ягоны човен, які ляжыць на беразе недзе ў дальнік кутку парка, быў цяпер тут.

-- Калі б човен быў тут, мы б з табой правеславалі ўздож берага вакол тваёй Страчанай Лагуны, прайшлі б палову круга ды вярнуліся б па цэнтру. Тады – пад мост у пратоку між Выспай Мёртвых ды лесам. Потым пабылі б, дзе гармата б’е час а дзявятай гадзіне. І тады перасяклі Рукаў да індзейскага боку Затокі.

Я завярнулася на ўсход прасачыць за курсам, які ён абрысаваў. Вада была ціхай, нерухомай, як сьлед надыходзячага сутоньня, і, адпачываючы на ейнай пурпуровай роўнядзі, плавала Выспа Мёртвых, бы вялікі пук васковага моху.

-- Ты калі-небудзь была там? – спытаўся ён, злавіўшы мой пагляд, нацэлены на няроўныя абрысы соснаў на ёй.

-- Я абкружляла яе ўздож і ўпоперак. Забралася на кожную скалу на тых берагах, блукала ў кожным зарасьніку, дасьледавала кожную сьцежку і ня раз амаль была згубіўшыся ў еных нетрах.

-- А то, -- пасьміхнуўся ён. – Яна ж зусім дзікая, нічога там добрага.

-- А мне здавалася, яна чымсьці вартая. Людзі судзяцца за яе, нават зараз нехта б’ецца.

-- О, гэта заўсёды было, -- сказаў ён, бы аб нечым звычайным. – Вечна б’юцца за гэтае месца. А вось сотні гадоў таму біліся на ёй. Індзейцы. І кажуць, сотні год яшчэ будуць біцца – так і ня вызначыўшы, чым гэтае месца ёсьць, каму яно належыць, хто мае на яго права. Не, ня вызначацца. Выспа Мёртвых заўсёды будзе бойкай для некага.

-- Што, індзейцы біліся міжсобку за яе? – заўважыла я знарок бясхітрасна, хаця мае вушы ўжо трымцелі прадчуваньнем надыходзячай, я ведала, легенды.

-- Біліся, як рысі, твар у твар. Біліся, забіваліся, аж пакуль выспа не набрыняла крывавай чырваньню, большай за гэтае суклоньне, а вада ў моры вакол яе заплямілася

колерам полымя – і тады, кажуць у нас, уздож берагу і вырасьлі тыя пунсовыя агонь-кветкі... Прыгожы колер у агонь-кветак. Яны маюць быць дасканалага колеру, бо нарадзіліся й расьлі з сэрцаў дасканалых людзей – высакародных супляменьнікаў, -- падкрэсьліў ён.

Мы перайшлі да ўсходніх парэнчаў моста ды стаялі, назіраючы, як ціхія, глыбокія цені павольна зьбіраліся на высьпе. Я мала калі бачыла што, больш міратворнае.

Правадыр уздыхнуў:

-- Цяпер няма ў нас такіх людзей, такіх змагароў, як былі тыя. Няма такіх сэрцаў, такой мужнасьці, як тады. Вось я распавяду табе гісторыю, тады ты зразумееш. Цяпер тут так ціха, сёньня тут усе добрыя цілікамы[1], нават дýшы памерлых болей не змагаюцца, хаця доўга яшчэ пасьля тых падзей яны ўсё біліся.

-- Ну, дык легенда? – адважылася я.

-- О, так... – ён быццам вярнуўся ў цяперашняе з далёкае краіны ў спратах часу. – Індзейцы, яны называюць яе “Легендай Выспы Мёртвых”.

Вайна была ўсьцяж. Шалёныя плямёны з паўночнага ўзьбярэжжа, дзікія плямёны з поўдня – усе сутыкнуліся тут ды рабілі набегі ды біліся, палілі ды паланілі, каталі ды забівалі ворагаў. Лес насыціўся дымам вогнішчаў, Затока была біткам набітая ваеннымі чоўнамі, і Сагалі Тайі – Той, хто ёсьць чалавекам міру – адвярнуў Свой твар ад Сваіх дзяцей-індзейцаў.

Была вялікая спрэчка ды змаганьне за гэтую выспу. Шаманы з поўначы заяўлялі, што гэта іхная малітоўная зямля. Шаманы з поўдня высоўвалі такія ж дамаганьні што да яе. Усе хацелі валодаць ёю як цытадэльлю дзеля свайго чараўніцтва й магіі.

Вялікія групоўкі гэтых шаманаў сустрэліся ў вадным месцы ды сілай сваіх чараў намагаліся прагнаць сваіх супернікаў. Ведуны з поўначы разьбілі лягер на паўночным краі выспы, тыя ж з поўдня размясьціліся на паўднёвым беразе, тварам да таго, што сёньня ёсьць горадам Ванкуверам. На абаіх баках скакалі вакол вогнішчаў, пялі, палілі свае чарадзейныя парашкі, білі ў чароўныя бубны, але ніхто з супраціўнікаў так і не зьнядужыў, і ніхто не перамог. А вакол іх, на водах, на зямлі, лютавала вайна паміж іхнымі плямёнамі – відавочна Сагалі Тайі забыўся на Сваіх дзяцей-індзейцаў.

Праз шмат месяцаў змаганьня, воі абаіх бакоў зьнясілелі. Яны сказалі, што заклінаньні супéрных шаманаў зачаравалі іх, зрабілі іхныя сэрцы кволымі, бы дзіцячыя, а рукі млявымі, бы жаночыя. Тады сябры ды ворагі пасталі як адзін ды выгналі шаманаў з Выспы, пагналі іх уздоўж Затокі ды загналі ў мора, дзе яны знайшлі паратунак на адной са зьнешніх выспаў. А тады плямёны зноў кінуліся ў бойку супраць адно аднаго.

Ваяўнічая кроў поўначы заўсёды пераможа. Яны мацнейшыя, сьмялейшыя, спрытнейшыя. Сьнег ды лёд іхнае краіны шпарчэй ганяе кроў, чым млявае сонца поўдня. У іх цьвёрдыя цягліцы, целы загартаваныя. Так, паўночныя плямёны заўсёды будуць пераможцамі. Але хітрасьць ды падступства паўдзённых – таксама не абы якая рэч, каб лёгка яе пераадолець.

Пакуль паўночныя перасьледавалі шаманаў далёка ў мора, каб пераканацца ў іхным поўным выгнаньні, паўдзённыя пад покрывам ночы вярнуліся ды вызвалілі сваіх палонных з чужога лягеру, тады захапілі чужых жанчын ды дзяцей ды старых і перапраўілі

іх усіх на Выспу ды трымалі іх там у палоне. Іхныя ваенныя чаўны, абкружыўшы Выспу, пасталі бы ўмацаваньні, праз якія даносіліся галашэньні палонных жанчын, лямант старых, плач малых.

Раз-пораз нападалі паўночныя на тое кола чоўнаў, але зноў і зноў былі адкінутыя. Паветра набрыняла атручанымі стрэламі, вада запляміласся крывёй. Але дзень за днём кола чоўнаў рабілася танчэйшым ды танчэйшым, а стрэлы паўночных усё сьпявалі ды траплялі ў цэль. Паўсюль плавалі чоўны, пустыя, ці яшчэ горай, нерухомыя, экіпаваныя аднымі мерцьвякамі.

Найлепшая частка паўдзённых вояў ужо загінула, калі іхны галоўны Правадыр умацаваў вялікі камень на паўдзённым беразе. Сьмела, не зважаючы на тысячы стрэлаў пацэленых яму ў сэрца, ён узьняў рукі з адкрытымі далонямі – знак нарады. Адразу ж усе паўночныя лукі апусьціліся, і кожнае паўночнае вуха прыслухалася да ягоных словаў.

-- О, людзі верхняга ўзьбярэжжа! – загаварыў ён. – Вас значна большая колькасьць тут, вашае племя шматлікае, вашая загартаванасьць лепшая. Мы згаладалі, мы губляем людзей. Нашых палонных – вашых жанчын, дзяцей ды старых – таксама паменела: запасы харчу заканчваюцца. Калі вы ня прымеце нашыя ўмовы, мы будзем змагацца да скону. Заўтра мы заб'ем усіх палонных у вас на вачах, бо мы болей ня можам іх карміць. Або вы можаце вярнуць сваіх жонак, матак, бацькоў, дзяцей, калі за кожнага зь іх аддасьцё нам па адным вашым найлепшым маладым вою, таму, хто пагодзіцца пайсьці на сьмерць замест іх. Гаварыце! Гэта ваш выбар.

У паўночных чоўнах паўскоквалі на ногі сотні й сотні маладых вояў. Навакольле напоўнілася радаснымі крыкамі з узьнёслымі воклічамі. Быццам увесь сьвет загудзеў галасамі тых маладзёнаў, што крычалі гучна з пачэснай мужнасьцю:

-- Вазьміце мяне, але вярніце майго старога бацьку!

-- Вазьміце мяне, але адпусьціце дадому маю малую сястру!

-- Вазьміце мяне, але выслабаніце маю жонку й сына-немаўлятку!

Гэтак, дамова была зробленая. Дзьве сотні геройскіх, высакародных маладых вояў павеславалі да Выспы, парушыўшы шыхты ўмацаваньня з чоўнаў, ды ступілі на бераг. Як арлы апярэньнем, гэтак і яны выхваляліся сваёй мужнасьцю, бы маладыя багі. Распраўленыя плечы, цьвёрды крок, моцны дух. У свае чоўны яны ўсадзілі дзьве сотні палонных.

Зноў загаласілі жанкі, залямантавалі старыя, заплакалі дзеці, але тыя маладыя брунатнаскурыя багі нават не завагаліся, не пахіснуліся. Іхныя слабыя й нядужыя сваякі былі ўратаваныя. Што значыць для іх такая дробязь, як сьмерць?

Вызваленых палонных адразу ж абкружылі свае людзі, але цьвет іхнага цудоўнага народу знаходзіўся ў руках ворагаў, тая мужная моладзь, якая ня думаючы аб сьмерці, паклала свае жыцьці дабраахвотна, з радасьцю, каб ратаваць сваіх дарагіх і любімых. Сярод іх былі і загартаваныя воі, што перамаглі ў тузінах баёў, і зусім юныя, што толькі падрасьлі для бітваў ды ўпершыню нацягнулі цеціву лука; але іхныя сэрцы, іхная мужнасьць, іхная ахвяра была адна на ўсіх.

Яны стаялі ў адзін шыхт перад паўдзённымі воямі. З узьнятымі тварамі, з выклікам у вачах, з голымі грудзямі. Яны ўсе нахіліліся ды паклалі ля ног сваю зброю, тады сталі проста, з пустымі рукамі ды засьмяяліся ў твар сьмерці. Тысячы стрэлаў працялі паветра, з

дзьвюх сотняў высакародных паўночных глотак вырваўся сьмяротны вокліч, трыюмфальны, як перамога каралёў – і тады дзьве сотні бясстрашных паўночных сэрцаў спынілі сваё біцьцё.

А назаўтра паўдзённікі ўбачылі, што на месцы, дзе ўчора загінулі воі, вырасла мора палымяных агонь-кветак. Страшэнны жах абуяў іх. Яны пакінулі Выспу, і калі ноч зноў ахінула іх, яны ўжо гналі прэч свае чоўны і, бясшумна прасьлізнуўшы праз Затоку, накіраваліся на поўдзень, і на гэтай частцы Ўзьбярэжжа іх болей ня бачылі.

-- Якія высакародныя мужчыны! – паўшэптам сказала я, калі правадыр скончыў гэтую дзіўную легенду.

-- Так, мужчыны! – адазваўся ён рэхам. – Белыя называюць яе Выспай Мёртвых. Гэта па-іхнаму. Але мы, Сквамішы[15], завем яе Выспа Загінулых Мужчын.

Грэбень соснаў ды абрысы Выспы былі ўжо зусім цёмнымі й неразборлівымі. Спакой, спакой ляжаў на водах, пурпур летняга сутоньня распусьціўся ў шэрань, але я ведала, што там, у нетрах Выспы Мёртвых цьвітуць кветкі палымянай прыгажосьці; іхныя колеры хавае надыходзячая ноч, але недзе ў самай сьвятыні іхных пялёсткаў пульсуе кроў з сэрцаў адважных мужчын.




*Выспа Мёртвых, 1910...*





*by Raymond R. Skye*
*З ілюстрацыяў Раймонда Р. Ская*

# ЛЕГЕНДА СКВАМІШАЎ ПРА НАПАЛЕОНА



Важкае месца сярод бальшыні дзівосных гісторый, што з пашанай захоўваюць узьбярэжныя плямёны, займае легенда пра марскога зьмея. Пачвара зьяўляецца зноў і зноў з амаль манатоннай частатой у сувязі зь гісторыяй, традыцыямі, легендамі й павер'ямі. Але бадай самая дзіўная роль, якую яна адыграла, была ў драме, што выконвалася на сцэне Эўропы, і дарэчы, ўсяго сьвету, падчас бурлівае эпохі першага Напалеона.

Па ўсёй Канадзе мне ніколі не бракавала магчымасьці знайсьці зьдзіўляльных ведаў пра Напалеона Банапарта сярод вельмі старых і "нецывілізаваных" індзейцаў. Магчыма яны й ня вельмі знаёмы зь іншымі гістарычнымі пэрсонамі ад часоў Адама, але кожны зь іх раскажа вам, што ён чуў пра "Вялікага Французкага Змагара", як яны называюць выбітнога маленькага карсіканца.

Ці былі гэтыя веды здабытыя праз той факт, што першымі пасяленцамі тут былі французы, ці амаль чароўная змагарная кар'ера Напалеона гэтак захапіла розумы індзейцаў, што яна выціснула іншыя, менш пасьпяховыя, я так яшчэ й ня вырашыла. Але факт застаецца фактам, што індзейцы нашага пакаленьня не настолькі знаёмыя зь імем Банапарта, як іхныя бацькі ды дзяды. Ці то перавага англамоўных пасяленцаў, ці то зьмяншэньне старажытнае ваяўнічае крыві сучаснай цывілізацыяй ды спакойнымі часамі – мусіць быць адзін ці другі чыньнік таго, што маладзейшыя індзейцы ня ведаюць пра імпэратара Францыі.

Расказваючы мне легенду пра Згублены Талісман, мой добры цілікам[1], апошні Правадыр Капілана, пачаў гісторыю з амаль здзіўляльнага пытаньня:

-- А ці чула ты калісь пра Напалеона Банапарта?

Я ледзь зразумела, што ён сказаў, бо ягоная ангельская, заўсёды прыемная й прыгожая, бывае часам крыху абрывістай; але калі ён паўтарыў іншым, тлумачальным чынам: "Ну, ты ж ведаеш. Вялікі змагар, француз. Ангельцы, яны пабілі яго ў вялікай бітве," – я зараз жа зразумела, аб кім ён вядзе.

-- А што ты пра яго ведаеш? – спыталася я.

Сьцішыўшы голас, быццам гэта вялікая тайна, ён прамовіў:

-- Я ведаю, як тое сталася, што ангельцы яго пабілі.

Я прачытала шмат гісторыкаў адносна гэтае падзеі, але пачуць версію ад Сквамшаў[15] было інтрыгуючай навінкай.

-- Няўжо? – сказала я свой звычайны "пароль", які мусіў прынадзіць яго ў рэчышча даўніны.

-- Так! – пацьвердзіў ён.

Тады, гэтак жа паўшэптам, ён паведаміў мне, што ўсё здарылася праз пасярэдніцтва адзінага пазванка з хрыбетніка марскога зьмея.

Расказваючы мне гісторыю аднаго годнага хлопца з мыса Броктан, што забіў пачвару, ён быў крыху затрымаўся на факце, што кожны, хто падыходзіў блізка да гэтае істоты, былі паралізаваныя і фізічна, і розумам – заварожаны насамрэч такім чынам, што

іхныя косьці боўталіся ў суставах, а мазгі не працавалі. Але сёньня ён так моцна зашчыраваўся на гэткіх падрабязнасьцях, што я вымушана была вярнуць яго да хлопца з мыса Броктан і запытацца, як жа хлопец ды ягоны мозг пазьбеглі такога няшчасьця.

-- Дык жа ён быў добры хлопец, ня сквапны. Таму меў загартаванасьць ад усякага ліха.

Я кіўнула з разуменьнем, а ён паведаміў мне, што ўсе пасьпяховыя індзейскія ваяры насілі недзе ў сабе пазванок марскога змея, што шаманы накідвалі на іх “сілу” так, што на іх саміх “чары” не ўплывалі, але як толькі яны набліжаліся да ворага, на таго “чары” пачыналі дзейнічаць разбуральна, і ўладальніку талісмана была забясьпечана перамога.

Быў адзін адметны, асабліва моцны, пазванок, які цанілі й трымалі праз стагодзьдзе воі вялікага племені Сквамішаў. Гэтыя воі перамагалі ўсіх ворагаў, зь якімі ні сутыкаліся, аж да тае пары, пакуль талісман зрабіўся настолькі славутым, што нават быў перароблены татэмны слуп усяго іхнага клана, у якім скрыжаваньне мела выяву таго адзінага зьмяінага пазванка.

Блізу гэтага часу данесьліся праз акіян гісторыі аб першых Напалеонавых вялікіх перамогах. Так, не па зямлі - у гэтым і можа быць схаваным ключ да заходне-ўзьбярэжнае легенды, каторую могуць разгадаць тыя, хто ёсць спрытнейшымі за мяне да росшукаў. Правадыр жа быў больш выразным наконт крыніцы індзейскіх ведаў аб Напалеоне. Калі я зазначыла:

-- Я мяркую, ты пачуў аб ім з Квэбэку, напэўна, ад французкіх сьвятароў, -- ён таропка запярэчыў:

-- Не, не. Не з Усходу. Мы пачулі тое праз Ціхі акіян, з таго месца, што завецца Расея.

Праўда, хто прынёс тыя весткі ды якім шляхам яны дайшлі -- далей прасьвятліць мяне ён ня здолеў. Але тым часам адбылася дзіўная гісторыя з адной скваміскай сям’ёй. Тады была вялікая крывавая бойка, і адзіным жывым зь сям’і застаўся стары вой, герой многіх бітваў, уладальнік талісмана. Ля ягонага сьмяротнага ложа сабраліся тры пакаленьні ягоных жанчын: жонка, сястра, дачка, унучка -- але ніводнага мужчыны, нават хлопчыка ягонае крыві не было побач, каб праводзіць дух воя да краіны спакою й дастатку.

-- Абярэг ня можа захоўвацца ў руках жанчыны, -- прашаптаў ён з амаль апошнім уздыхам. -- Жанчына ня можа ваяваць і біцца зь іншымі народамі й плямёнамі. Жанчына ёсьць адно дзеля спакойнага жытла ды дзеля выхаваньня малых. Яна мусіць трымаць дзіцячыя далонькі, навучаючы дзіця хадзіць. Не, абярэг ня можа быць з вамі, мае жанкі. Няма ў мяне ні брата, ні кузіна, ні сына, ні ўнука, але і абярэг ня можа трапіць да воя меншага за мяне. Ніхто ні з нашага племя, ні з племені на ўсім Узьбярэжжы ніколі не перамагаў мяне. Абярэг павінен адправіцца да такога ж непераможнага, якім быў я. Як я памру, адашліце яго празь вялікую салёную прорву, да пераможнага Француза, завецца ён Напалеон Банапарт, -- і гэта былі ягоныя апошнія словы.

Старэйшыя жанкі хацелі пахаваць талісман разам зь ім, але маладзейшыя, натхнёныя духам свайго пакаленьня, моцна наважваліся адправіць яго праз акіян.

-- У магіле ён будзе мёртвым, -- даводзілі яны. -- Няхай жа ён жыве надалей. Няхай дапамагае іншым змагарам за вялікасьць і перамогу.

Як быццам для пацьверджаня такога рашэньня, наступным днём у іхную затоку зайшоў невялікі рыбацкі вадаплаў. Усе мужчыны на судне гаварылі па-расейску, апрача двух танклявых, рухавых маракоў, што трымаліся адчужана да ўсёй каманды і размаўлялі на іншай мове. Гэныя двох сышлі на бераг і загаварылі па-французку з вандроўным трапёрам з “Гадсон Бэю”, які часьцяком жыў разам са Сквамішамі. Таму жанчыны, якія ўсё яшчэ аплаквалі свайго памерлага воя, даведаліся, што тыя два чужынцы былі з тае краіны, дзе вялікі Француз ваяваў супраць усяго сьвету.

Тут я перапыніла Правадыра:

-- А як французы трапілі на расейскі карабель?

-- Палонныя. Амаль рабы, ненавісныя сваім захопнікам, як бальшыня заўсёды ненавідзіць меншасьць.

Дык вось, жанкі адвялі двох французаў убок і расказалі ім гісторыю тае косткі ад марскога зьмея, спанукаючы іх завезьці яе назад у сваю краіну ды аддаць вялікаму Французу -- таму, хто ёсьць гэткім жа мужным і сьмелым, як іхны памерлы правадыр.

Французы вагаліся, маўляў, талісман можа пашкодзіць ім; можа сапсаваць ім мазгі так, што падчас іхнага шляху да Расеі ім збракуе кемлівасьці спланаваць уцёкі да собскае краіны; можа размацаваць іхныя целы так, што яны зробяцца слабымі, як дзеці. Але жанкі запэўнілі іх, што чары накіроўваюць сваю сілу адно на ворагаў талісманавага ўладальніка, што даўнія шаманы заваражылі яго менавіта такім чынам. То французы такі ўзялі яго й паабяцалі, што калі будзе магчыма, яны перададуць яго Імпэратару.

Калі яны падняліся на борт, жанчыны зь берага бачылі, як многіх матросаў пачало перакручваць; некаторые падалі на палубу, поўзалі, трэсліся ў канвульсіях; каторых скурчыла на момант, тады яны млява паваліліся, быццам без касьцей. Адно два французы стаялі ўрост, моцныя, здаровыя -- скваміскі талісман ужо перамог іхных ворагаў. Калі маленькі рыбацкі вадаплаў рушыў з затокі, кіраваньне на ім узяла каманда з двух французаў -- тых, што ўваходзілі ў яе як палонныя, а пакідалі як заваёўнікі. Спаралізаваныя расейцы былі горш за непрыдатных, і што зь імі сталася, правадыр паведаміць ня змог. Верагодна, іх выкінулі за борт, і ўрэшце капрызам лагоднага лёсу абое фрацузы дасяглі берагоў Францыі.

Легенда настолькі нявызначаная наконт іхнага падарожжа пасьля таго, як яны пакінулі Затоку, што нават адвечна ўзьнёслая ды багатая на фарбы фантазія Сквамішаў так і не забясьпечыла падрабязнасьцямі гэтую па-дзіцячы прыгожую, і тымчасам дзівосную гістарычную казку. Але гукі труб вайны, бой барабанаў па ўсёй Эўропе даносілі да дзікіх лясоў Ціхаакіянскага Ўзьбярэжжа вестку аб тым, што вялікі “Талісман Сквамішаў” нарэшце дабраўся да Напалеона; што ад гэтага часу й надалей ягоная кар’ера была адной вялізнай перамогай, што ён выйграваў адну бітву за другой, заваёўваў краіну за краінай, і калі б ня тое страшэнннае няшчасьце, што можа толькі напаткаць ваяра, то мог бы зрабіцца валадаром усяго сьвету.

-- Якое то няшчасьце, Правадыр? -- спыталася я, захопленая ягонымі ведамі аб вялікім жаўнеру й стратэгу.

Правадыр зноў пацішыў голас да шэпту, твар ягоны быў засяроджана суворы:

-- Ён згубіў талісман Сквамішаў. Згубіў літаральна перад адной вялікай бітвай з ангельцамі.

Я паглядзела на яго сур’ёзна: ён распавёў мне самую дзівосную мешаніну зь гісторыі й забабонаў, кемлівасьці й невуцтва, выкшталцонага абсурду, і тымчасам уражлівую байку, якую я ніколі ня чула з вуснаў індзейцаў.

-- Як называлася тая вялікая бітва, ты чуў калі-небудзь? -- мне цікава было як шмат ён ведае аб падзеях, што адбываліся на іншым баку сьвету стагоддзьдзе таму.

-- Так, -- адказаў ён уважна, задумліва. -- Я часам чую гэтую назву ў Лёндане, калі бываю там. Тамтэйшая чыгуначная станцыя … той жа назвы.

-- Ватэрлу? -- спыталася я.

Ён хутка кіўнуў, без ніякага ваганьня.

-- Яна, -- адказаў ён. -- Вось. Ватэрлу.






*Дрэвы-Катэдры ў Парку Стэнлі, пачатак века*




*Дрэвы-Катэдры, наш час*

# ПАНАДА, ШТО Ў ПАРКУ СТЭНЛІ



Ёсьць у парку Стэнлі сьцяжынка, што вядзе да месца, якое белыя завуць "Сем Сясьцёр", але мне заўсёды падабаецца гаварыць "Дрэвы-Катэдры" аб гэтым гаі з паўтузінам лясных волатаў, чые шаты ў апраметнай вышыні ўтвараюць арку дасканалай формы й прыгажосьці.

Аднак ва ўсім сьвеце ці знойдзецца сабор, чые мармуровыя ці оніксавыя калёны зьвінелі б такой жыцьцёвай моцай, як гэтыя па-сапраўднаму чыстыя, напоўненыя жывым сокам, брунатныя камлі. Тут няма фрэсак, якія б маглі пасупернічаць далікатнасьцю з пляцёнкай зялёных стужак, што зьвісаюць гірляндамі між табой і небам. Няма дахоўкі, кафлі, ці мармуровай мазаікі, настолькі ж павабнай, як гэтая духмяная, засланая простай іглiцай, падлога пад тваімі нагамі.

Яны яўляюць сабой вяршыню архітэктурных твораў Прыроды, падчас будаваньня каторых яна пераўзышла ўсе свае папярэднія задумкі. Ёй ніколі больш не стварыць тагога беззаганнага праекту, ніколі ня ўзьвесьці больш дасканалага гмаху.

Але богатворныя дрэвы ды рукатворныя саборы маюць адну агульную надзвычайную якасьць. Гэта – атмасфэра сьвятасьці. Многія з нас адчуваюць сябя натхнёна, пабачыўшы веляпышны сабор, і ніводзін ня зможа стаяць сярод гэтага велічнага гаю, не выказаўшы сваіх узвышаных думак ці захапленьня такім вытанчаным творам нашай нібыта грубай прыроды.

Магчыма, тыя, хто прачытае гэтую маленькую легенду, больш ня зможа глядзець на гэтыя дрэвы-катэдралы бяз думак аб тых цудоўных душах, што яны ўтрымліваюць у сабе, бо паводле ўзьбярэжных індзейцаў, у іх сапраўды захаваныя чалавечыя душы, і сьвет палепшаў адтаго, што аднойчы яны мелі сэрцы ды мову магутных людзей.

Мой цілікам не карыстаў слова "панада", калі распавядаў мне гэтую легенду. Слова з такім значэньнем няма ў чынуцкай мове, але жэсты ягоных гаваркіх рук так выяўлялі нейкую якасьць паміж прывабнасьцю ды чарамі, што я выбрала слова "панада" для найлепшага тлумачэньня таго, што ён хацеў выказаць.

За некалькі метраў ад Дрэваў-Катэдраў старая зарослая сьцяжынка заварочвае праваруч у дзікія лясныя нетры. Адно індзейскія вочы могуць заўважыць тую сьцяжынку, і індзейцы па сваёй волі ня пойдуць у той лес, што справа ад гэтага гаю.

Нішто ні ў гэтым сьвеце, ні нават у якім іншым, не завабіць узьбярэжнага індзейца ў самы гушчар таго дзікага лесу, бо там, унутры, і ёсьць хітра схаваная "панада", у якую яны вераць.

Няма ніводнага племені ва ўсім краі, якое б ня ведала той дзіўнай легенды. Вы пачуеце яе ад тых, што зьбіраюцца на рыбныя ловы ў Арлінай гавані з ракі Фрэзар, ад Сквамішаў з Затокі, з Місіі, з Інлета, нават ад плямёнаў з Паўночнага Рукава, але ніхто дабрахотам ня пойдзе з вамі праваднiком, бо, аднойчы трапіўшы ў "аўру" той панады, чалавек ня зможа яе пакінуць.

Ты губляеш волю, розум тлуміцца, ногі адмаўляюцца выводзіць цябе простай дарогай, ты блукаеш, блукаеш навек вакол гэтага магніту, і нават калі сьмерць ласкава прыйдзе табе на дапамогу, твая несьмяротная душа будзе хадзіць па бясконцым коле, якое так і не дась табе ўвайсьці ў Краіну Шчасьлівага Паляваньня.

І гэтак жа, як і дрэвы-катэдралы, панада некалі была жывой, чалавечай душой, але гэтым разам сталася душой зганьбаванай, ніж асьвечанай.

У вераваньнях індзейцаў жыве вельмі прыгожы пагляд на вынікі дабра й зла, што жывуць ў чалавечым целе. Сагалі Тайі[2] мае Свой собскі шлях унесьмяроціць кожнага зь іх. Тых людзей, хто ёсьць ліхімі па сваёй волі, у каго няма дабрыні ў сэрцы, крыважэрныя, жорсткія, помсьлівыя, бязлітасныя, Сагалі Тайі ператварае ў цьвёрды камень, на якім нічога не расьце, нават ні мох, ні лішайнік, бо ў такіх камнях няма вільгаці – гэтак жа, як у іхных злых сэрцах не было ні каплі дабрыні.

Вядомым выключэньнем, калі добры чалавек быў ператвораны ў камень, ёсьць гісторыя Сіваш-скалы. І калі індзеец распавядае табе аб ёй, ён, радасна ўсьміхаючыся, засьцяроджвае тваю ўвагу на маленькім дрэўцы, што вяршыніць на гэтым велічным манумэнце. Ён кажа, што дрэўца гэтае было там заўсёды, каб паказаць народу, што дабро ў сэрцы гэтага чалавека расьце нават пасьля таго, як цела ягонае спыніла існаваньне.

Зь іншага боку, Сагалі Тайі ператварае добрых людзей – людзей, спагадлівых, міласэрных, з любоўю ў сэрцы – у дрэвы. Такім чынам, каб і пасьля сьмерці яны маглі рабіць дабро людзям. Яны могуць прыносіць плён, даваць цень і прытулак, прапануючы жывым бясконцыя паслугі будаўнічымі сродкамі ды дровамі.

Іхныя сок ды смала, драўніна ды лісьцё, квецень ды плады ўзбагачаюць, харчуюць ды ўсяк падтрымліваюць людзей. Нічога шкоднага дрэва ніколі ня вырабіць – усё, усё ёсьць карысным, пажыўным, усё на дапамогу дзеля жыцьця. Яны даюць схованку птушкам, музыку вятрам, зь іх вырабляюцца лукі ды стрэлы, чоўны ды вёслы, місы, лыжкі, кошыкі.

Іхная служба на карысьць людзям бясцэнная; індзеец, што будзе расказваць вам гэтую гісторыю, пералічыць усе гэтыя азнакі ды вартасьці дрэваў, ня дзіва, што Сагалі Тайі выбраў іх быць жытлом душаў добрых ды слаўных.

Але панада ў лесе Стэнлі – рэч самая жахлівая, гэта злая душа. Яна ўвасоблена ў голы, белы камень, якога абыходзяць мох ды лішайнік, але па якім рассыпаны незьлічоныя чорна-бліскучыя плямы, што паўядаліся ў паверхню, бы кіслата.

Гэтая праклятая душа жыла некалі ў целе вядзьмаркі, што хадзіла ўсюды па Ўзьбярэжжы, па моры, па дальніх выспах ды, кідаючы сваім чорным вокам на бязвінных людзей, сурочыла вялізныя псоты ды хваробы.

Яна займалася той “чорнай магіяй”, у якую верыць кожны індзеец – магіяй, ад якой слабее зброя воя ў бітве, ад якой усё псуецца, тлуміцца розум ды воля, ад якой робяцца шалёнымі, якая прыносіць чуму ды заразу. Карацей, яна была семем любога ліха, што можа здарыцца зь людзьмі.

Сама ж вядзьмарка мела захову ад сьмерці. Цэлыя пакаленьні нараджаліся, старэлі ды паміралі, вырасталі новыя пакаленьні, а вядзьмарка ўсё гуляла сабе, робячы шкоды суродзічам.

Ейнае сэрца было злым, усё, што яна ні рабіла, прыносіла бяду. Яна разьбівала сэрцы, калечыла целы, мучыла душы; яна радавалася, калі плакалі, цешылася з няшчасьцяў, таму насылала іх усюды, дзе ні зьяўлялася. А ў Сваіх высокіх нябёсах Сагалі Тайі плакаў ад гора за Сваіх пакрыўджаных дзяцей – чалавекаў.

Ён не насьмельваўся даць ёй памерці, бо ейны дух усё адно працягваў бы тварыць благое. Але ўшчэнт раззлаваўшыся, ён загадаў Сваім Чатыром Мужам (якія заўсёды выконваюць ролю Сагалі Тайі) перратварыць гэтую вядзьмарку ў камень ды ўнутр яго ўкаваць ейную душу, каб зьняць ейнае пракляцьце зь няшчаснага народу.

Чатыры Мужы селі ў свой вялізны човен ды паплылі, як звычайна, па Затоцы. Калі яны наблізіліся да таго, што цяпер вядома як мыс Праспэкт, то пачулі зьверху над сабой сьмех і, глянуўшы ўверх, заўважылі на скале вядзьмарку, што зьедліва насьміхалася над імі.

Яны сышлі на бераг, ды паднімаючыся вышэй на скалы, пачалі ганяцца за ёй, бо яна скакала, рагатала, уцякала ад іх, унікаючы, бы сонечны зайчык, ды кпіла зь іх:

-- Беражыцеся, о, мужы Сагалі Тайі! Бо я асляплю вас сваім чорным вокам! Глядзіце сябе ды ня бегайце за мной!

Гэтак яна ўсё скакала па лясным гушчары, а яны ўсё ганяліся за ёй, аж пакуль не дабраліся да самай сярэдзіны той аточанай морам пярэспы, што цяпер вядомая як Парк Стэнлі.

Тады найвышэйшы, наймагутнейшы з Чатырох Мужоў узьняў рукі ды крыкнуў:

-- О, жанчына з каменным сэрцам, будзь камнем назаўжды! Ды за кожнае тваё зладзейства насі на сабе па чорнай пляме!

Як ён гэтак сказаў, вядзьмярка абярнулася камнем, як раз тым, што паводле павер’я знаходзіцца ў гушчары леса Стэнлі.

Вось яна такая, “Легенда аб панадзе”. Ці існуе той камень сапраўды, хто ведае? Адылі, ёсьць у гэтым адна добрая вестка: ніводзін індзеец ніколі не дапаможа вам яе адшукаць.

Тры розныя індзейцы расказалі мне, што пятнаццаць ці васямнаццаць гадоў таму два турысты – жанчына з мужчынам – згубіліся ў лесе Стэнлі. Калі іх знайшлі праз тыдзень, мужчына быў мёртвы, жанчына звар’яцела, і кожны з маіх інфарматараў шчыра верыў, што ў сваім падарожжы яны натрапілі на “камень” ды былі змушаны кружляць вакол яго, апынуўшыся пад уладай ягоных чараў.

Але гэтая дзікая гісторыя мае найпрыгажэйшы канец. Чатыры Мужы, баючыся, што злое сэрца, заточанае ў камні, будзе ўсё ж рабіць ліха, сказалі:

-- На краі сьцяжыны мы мусім паставіць такую добрую, цудоўную рэч, якая будзе больш магутнай, дзейнай, мацнейшай за гэтае ліха.

І тады яны выбралі з народу найдабрэшых, найспагадлівешых мужчын, у чыіх сэрцах жыла любоў да сваіх суродзічаў, ды ператварылі гэтыя міласэрныя душы ў велічных “Дрэваў-Катэдралаў”, цяпер вядомых белым людзям як “Сем Сясцёр”.

Які цудоўны плён на працягу часу мела задумка Сагалі Тайі! Дабро перамагло ліха, гэтак, як Ён і пажадаў, бо хіба камень не схаваны невядома дзе ў лесе, дзе яго ні вочы ня бачаць, ні ногі туды не дойдуць? І хіба тысячы людзей, што прыязджаюць да нас з самых далёкіх куткоў сьвету, не імкнуцца сюды, да гэтага надзвычай прыгожага мейсца, і тады стаяць у зьнямелым захапленьні пад гэтымі амаль сьвяшчэннымі дрэвамі-волатамі?

Як ніякія іншыя легенды аб Ванкуверы, расказаныя мне індзейцамі, гэтая гісторыя выяўляе любоў узьбярэжных плямёнаў да дабрыні ды нянавісьць да жорсткасьці.

Калі гэтыя плямёны і былі некалі такімі ваяўнічымі, не падобна, каб яны ганарыліся сваім мінулым. Пагаварыцье з любым зь іх, і, гаворачы вам аб чалавеку, якога ён

найбольш паважае ці нават захапляецца, -- першай ягонай вартасьцю будзе: “чалавек спагадлівы”. Яны ніколі не скажуць: сьмелы, ці багаты, ці ўдалы, нават моцны – тыя якасьці, што гэтак нібыта цэняць чырвонаскурыя.

Для гэтых узьбярэжных плямёнаў быць “спагадлівым” – гэта ўсё. Амаль усе без выключэньня іхныя легенды распавядаюць аб узнагародах за чуласьць ды дабрадзейнасьць, за чалавечую ды маральную чысьціню.

Называйце іх, калі хочаце, казкамі, але тая памяркоўнасьць, што жыве ў іх, была народжана ў мудрай галаве, ці нават лепей – яны ўсе распавядаюць аб веры індзейцаў у жыцьцёвую моц найлепшых парываў чалавечага сэрца ды канчатковае зьнішчэньне найгоршых.

Размаўляючы са многімі маімі добрымі цілікамамі, я знайшла, што вось гэтую легенду аб вядзьмарцы ведаюць найлепш, вераць у яе найбольш, чым усе іншыя павер’і, якімі яны мяне ўшанавалі, адкрыўшы іх мне.






*by Raymond R. Skye*
*З ілюстрацыяў Раймонда Р. Ская*



*Аленевае возера (Deer Lake)*

# АЛЕНЕВАЕ ВОЗЕРА



Мала хто зь белых людзей наважваўся заглыбляцца ў нетры гэтага краю сто гадоў таму, у часы першых правадыроў Капілана, калі даброцьці магутнай ракі Фрэзар цяклі ў брунатнаскурыя рукі. Але нават і тыя, хто заходзіў далёка, так і не дасягаў самых глухіх ейных куткоў, ня тое, як у нашыя часы, калі золата зь ейных вытокаў, сальманы з ейных рэчышчаў, камлі зь ейных берагаў зрабіліся ўсясьветнавядомымі багацьцямі.

Дзе цяпер уладараць гарады ды заводы, гандаль ды разлік, купля ды продаж, некалі вялі рэй рыбалоўны спрыт ды паляўнічыя хітрасьці. У тыя дні нага, абутая ў макасін, не нараджала нават рэха на лясных сьцяжынах. Простая зброя, начыньне ды рукі індзейца былі адзіным сродкам здабыць ежу. Ягоны дабрабыт залежаў адно ад ягонага майстэрства, веданьня ляснога ды воднага сьвету. І, паколькі перад вамі гісторыя пра дзіду з аленевай косткі, чытач мусіць перш за ўсё паставіцца з разуменьнем да таго факту, што гэтая простая прылада, гэтак умела вырабленая, была бясцэннай каштоўнасьцю для першага Капілана, якому яна дасталася праз тры пакаленьні продкаў, што таксама былі дасьведчанымі паляўнічымі ды спрытнымі рыбаловамі.

Самому ж Капілана ніхто не мог супрацьстаяць у валоданьні дзідай. Ён ведаў усе прыхамаці ракі Фрэзар, звычкі ейных шматлікіх насельнікаў, як ніхто іншы да яго ці пасьля. Ён ведаў усе выспы ды пярэспы, кожны валун на рацэ, кожную мялізну, кожную ціхую затоку, ды норавы ўсіх віроў. Ён ведаў, куды рыба ідзе на нераст, ведаў усе патаемныя струмені, што жывілі вялікія рэкі, сьцёкі з азёраў, што ў каменных чашах гор, усе павароты ды парогі бурклівых патокаў. Ён ведаў усе схованкі птушак, зьвяроў, рыб ды ўсякай дзічыны ды валодаў усімі тымі штукамі, якімі карыстаюцца, каб перахітрыць павадкі неўтаймаваных стварэньняў дзікай прыроды.

Толькі аднойчы ягонае ўмельства падманула яго, адзін толькі раз Прырода паставіла яго ў тупік чароўнай загадкай сваіх водных і лясных прынад. Гэта было, калі аднойчы ён выйшаў да вусьця невядомай ракі, што хавалася праз стагодзьдзі, але якая – так кажуць індзейцы – і да гэтае пары ўсё сьпявае сваю песьню на шляху праз падземнае рэчышча, што ідзе ад возера да мора.

Ён паляваў цюленяў уздоўж берагоў таго, што цяпер завецца мыс Грэй. Мала-памалу ягоны човен прабіраўся ўглыб матэрыка, агінаючы берагі да вусьця ракі Фолс-Крык. Тут ён нечакана трапіў на вялізнага зьвера, ажно каралеўскага памеру цюленя, што пацешыў вока паляўнічага як дзічына, вартая ягонага ўмельства. Дзеля такой здыбычы ён скарыстае сваю найлепшую дзіду з аленевай косткі. Яна ніколі не падманвала ні ягонага бацьку, ні дзеда, ні прадзеда. І ён быў упэўнены, што і яго яна не падвядзе. У чоўне ляжала даўгая, паслухмяная, з далікатнага кедровага валакна вяроўка, выробленая шматлікімі спрытнымі пальцамі, што ткалі ды ссукалі яе, адбівалі ды прапітвалі тлустам, пакуль яна не зрабілася

мяккай ды гнуткай, бы зьмяя. Вось яе і прывязаў ён да кончыка дзіды ды лоўкай, трапнай рукой зашпурнуў яе ў караля-цюленя. Дзіда ўцэліла дакладна. Вялізны зьвер здрыгануўся ды, зароўшы, што дзіця, валюхнуўся ў ваду. Хутка, са спрытам рыбы, ён шугануў уперад насустрач надыходзячаму прыліву. Капілана адматаў вяроўку на ўсю даўжыню, яна напялася, торгнула човен, і той паімчэў, гнаны магутнай істотай, што рассякала ваду, утвараючы віры ды хвалі з такой моцай, нібыта ў яе ўсяліўся кіт.

Уніз па рэчышчы Фолс-Крыка чалавек са зьверам несьліся праз тыя мясьціны, дзе пазьней ускінуліся вялікія гарадзкія масты. Яны ходаліся, дужыліся міжсобку за вяршынства, аднак ніводзін зь іх не слабеў, ніводзін не саступаў – адзін цягнуў, другі трымаў. У рэшцэ решт, гэта быў паядынак паміж чалавечым ды жывёльным розумам і спрытам, а не проста сілай. Як яны наблізіліся таго месца, дзе цяпер кідае свой цень на воды мост вуліцы Мэйн, жывёліна падскочыла высока ў паветры, тады плюхнула ды пайшла з галавой пад ваду. Вяроўка вырвалася з рук чалавека. Воміг яна зьнікла з вачэй недзе ў глыбіні. Капілана стаяў, уперыўшыся вачыма ў тое месца, дзе яна вось толькі была, – зьвярына перамагла яго.

Пасля адліву індзеец абшукаў усю мясьціну. Ніякіх сьлядоў ні былой ягонай здабычы, ні бясцэннай дзіды з аленевай косткі, ні вяроўкі з кедру ён не знайшоў. Такая страта варажыла на тое, што паляўнічае шчасьце яго цяпер пакіне. Таму цягам некалькіх месяцаў ён зноў і зноў абшукваў абалону ракі. Рэдка датыкаўся іншых плыняў ягоны зграбны з высокім носам човен. Але кароль-цюлень цалкам зьнік. Часам даўгія водныя расьліны, што калыхаліся пад вадой, ён прымаў за сваю згубленую вяроўку. Іншай дзідай, іншай вяроўкай, вяслом ды хітрым сілом ён даставаў склігавую травізну, прамацваў яе, праглядаючы прагнымі вачыма, але найлепшай ягонай дзіды з прыладжанай шпуляй так нідзе й не было.

У наступнае лета ён зноў паляваў на цюленяў ля берагоў мыса Грэй і аднойчы пасьля захаду раптам спасьцярог, як нешта чырвонае адлюстроўвалася ў вадзе, здавалася, яно рухалася на ўсход. Недзе далёка за рэчышчам Фолс-Крыка пульсавалі вогненна-пунсовыя сполахі. Агеньчыкі зьяўляліся ды зьнікалі, нібыта па ўзмаху панаднай рукі, і тады ён, па-індзейску, вырашыў, што гэтае незвычайне відовішча ёсьць нейкім правідловым знакам для яго. Не сумняваючыся, што гэта нейкае знаменьне, ён павеславаў да берагу, выцягнуў на яго човен ды накіраваўся да групы азёрцаў, што тоўпіліся ў тым месцы, што ляжыць паміж цяперашнімі горадам Ванкуверам ды Ню-Вэстмінстэр. Але задоўга да таго, як ён дайшоў да Аленевага возера, ён выявіў, што “махаючая панадная рука” была сапраўды ў вагні: лес вакол маленькага азярца палыхаў у пажары. Толькі адна прагаліна была свабоднай – некалькі рэдкіх вялізных дрэваў, да якіх агонь яшчэ не дабраўся. Ён падышоў да іх і пабачыў, як нейкі вялікі жывы натоўп хутка рухаецца з боку возера праз гэты адзіны калідор, кіруючыся на поўнач. Ён пастаяў, прыслухоўваючыся, прыглядаючыся пільнымі вачыма: рой зь мірыядаў спрытных лапак прыцягнуў ягоную ўвагу – гэтым рухавым натоўпам выявілася вялізная чарада баброў. Тысячы й тысячы баброў. Побач скакалі незьлічоныя бабрыняты за сваімі маткамі, незьлічоныя старыя жывёлы, што шмат гадоў валілі дрэвы ды будавалі запруды – бясконцая армія калматых перасяленцаў, усе пад чалом старога, мудрага важака, каторы, як мае быць палкаводцу, бег недзе наперадзе сваіх батальёнаў. Яны ўцякалі ў паўночны край ад палыхаючага роднага возера. Вандроўныя паляўнічыя казалі потым, што бачылі іх на высьпе Бурард,

што на Другой Затоцы, калі яны заглыбляліся ў лес, дабраўшыся да ейных берагоў. Але дзе гэтая магутная армія высакародных маленькіх канадыйцаў урэшце асела, ня ведае ніхто. Нават празарлівасьць першага Капілана не дапамагла яму выявіць месца іхнага новага пасяленьня. Адное засталося вядомым: Аленевае возера ня бачыла іх больш ніколі.

Калі яны зьніклі, індзеец прайшоў па іхных сьлядах да самага возера. У чырвоных водблісках пажару ён пабачыў на беразе нешта, што спачатку прыняў за мёртвага вялізнага бабра. Там ляжала напалову ў вадзе, напалову на беразе вялізная туша. Наблізіўшыся, ён убачыў, што насамрэч гэта было мёртвае цела гіганцкага цюленя. Двух цюленяў такога надзвычайнага памеру быць не магло. Цяпер ён зразумеў значэньне таго знаменьня “панаднага агню”, што паклікала яго з далёкага берага мыса Грэй. Ён укленчыў над сваім былым пераможцам, і раптам – вось ён! -- убачыў у ягоным прагнілым целе аленевую дзіду сваіх дзядоў, а крыху апоруч, ля кромкі вады, валялася ягоная даўгая, гнуткая вяроўка.

Як толькі ён забраў свае спадчынныя каштоўнасьці, адразу пачуў, як у ягоныя моцныя рукі палілася “сіла”, якой валодаюць адно чарадзеі. Яна ўвайшла ў сэрца, у кроў, у мозг. Доўгі час ён сядзеў на беразе, пяючы сьпевы, што маюць сьпяваць адно вялікія шаманы, і гэтак праходзілі гадзіны, пакуль гарачыня пажару сьціхла, языкі полымя растаялі дашчэнту, і апусьцілася стомленая цемрадзь. На сьвітанку ад ляснога пажару не засталося й дыму, але ягоныя махаючыя пальчыкі сваю справу ўжо зрабілі.

Гэтак дзіда з аленевай косткі вярнулася да свайго гаспадара. Да апошняга свайго дня першы Капілана шукаў тую невядомую раку, па якой цюлень змог прабрацца з Фолс-Крыка да Аленевага возера, але рэчышча ейнае так і засталося тайнай.

І хаця людзі з племені Сквамішаў вераць у тое, што рака ўсё яшчэ сьпявае на бягу праз сваё схаванае рэчышча, якое вядзе ад Аленевага возера да мора, месцазнаходжаньне ягонае гэтак жа невядома, вусьце ракі гэтак жа безнадзейна схаванае, як і тая адважная армія маленькіх баброў, што стагодзьдзе таму пабралася ў баявыя шыхты ды адмаршыравала некуды ў паўночныя землі.






*Від на гару “Ільвы Ванкувера” цяпер*



# ДЗЬВЕ СЯСТРЫ



Ты ўбачыш іх, калі будзеш глядзець на поўнач ды на захад, дзе летуценныя горы плывуць у небе сярод адвечных шыза-перлавых вандроўнікаўаблокаў. Яны ловяць самыя раннія намінкі золку, яны ж трымаюць апошнія колеры суклоньня. Горыблізьняты, што ўздымаюцца сваімі падвоенымі вяршынямі над самым прыгожым горадам ва ўсёй Канадзе, вядомыя паўсюдна ў Брытанскай Імпэрыі як “Ільвы Ванкувера”.

Часам дым лясных пажараў затуманьвае іх, пакуль яны ня выбліснуць раптам, бы апалы, у пурпуровым сьвятле, занадта прыгожыя, каб намаляваць іх словамі. Часам касыя дажджы захутваюць шальлю з туманоў іхныя грудзі, і вяршыні чэзнуць цьмянымі абрысамі, таюць, таюць, адвечна таюць у далечыні. Але большасьць дзён на год сонца мазкамі золата вымалёўвае дзьвюх красунь. А месяц абмывае іх патокамі срэбра.

Пачасту, калі горад захінаюць дажджы, сонца жоўціць іхныя сьнягі да густога аранжавага, і гэтак скрозь сонца й цень стаяць яны нерухома, усьміхаючыся на захад водам неспакойнага Ціхага акіяна, на ўсход – веляпышнай прыгажосьці каньёна Капілана. Але для індзейскіх плямёнаў яны ня ёсьць “Ільвамі”. Нават Правадыр, чый дух нядаўна павандраваў у Краіну Шчасьлівага Паляваньня, ніколі ня чуў гэтага імя, пакуль я не ўзгадала яго адным млявым жнівеньскім днём, як мы разам крочылі па сьцяжынцы, што вяла ў Каньён.

Ён быў вельмі зьдзіўлены гэнай назвай, яшчэ больш тым, чаму яны так завуцца, калі я папрасіла яго ўзгадаць, ці ня зьвязана гэта з Лэндсірскімі Ільвамі на плошчы Трафалгар, што ў Лёндане. Так, ён памятаў тую цудоўную скульптуру, і ягонае дападлівае вока адразу заўважыла падабенства. Здаецца, яму было прыемна гэта, і ягоны прыгожы твар выявіў жывыя ўспаміны аб грукаце й гомане далёкага Старога Лёндану.

Але “покліч крыві” быў мацнешйым, і тады ён вярнуўся да індзейскай легенды аб гэных вяршынях – легенды, у якую я маю ўсе падставы верыць, цалкам невядомай тысячам бледнатварых, якія, ня маючы ніякага ўяўленьня аб тайніцы “Дзьвюх Сясцёр”, глядзяць на “Ільвоў” штодня бяз той любові, што жыве ў індзейскім сэрцы.

---

Легенда гучала чароўна-панадна, бо сыходзіла з ягоных вуснаў на дзівоснай ламанай ангельскай, што бывае такой павабнай, адно зьбягаючы з індзейскага языка. Ягоныя неапраймальныя жэсты: моцныя, грацыёзныя, вычарпальныя – былі дасканала падабранай рамкай, што аздабляе далікатны малюнак, а ягоныя жывыя, зацікаўленыя вочы – тым сьвятлом, у якім карціна грае.

-- Шмат тысячаў гадоў таму, -- пачаў ён, -- ніякіх вяршынь-двайнят, падобных на вартаўнікоў, што пільнуюць аванпост гэтага суклоннага ўзьбярэжжа, не было. Яны былі

ўсталяваныя шмат пазьней пасьля Першага Стварэньня, калі Сагалі Тайі[2] вырабляў горы ды пракладаў магутныя рэкі, дзе імчаць сальманы[4], дзеля любові да Сваіх індзейскіх дзяцей, зыходзячы з Сваёй мудрасьці аб тым, што ім неабходна. У тыя часы было багата магутных індзейскіх плямёнаў уздоўж Ціхага акіяну – у горных далінах, па берагах ды крыніцах вялікае ракі Фрэзэр. Краінай кіраваў Індзейскі Закон. Індзейскія звычаі вяршынілі, індзейская вера была паважнай.

То была легенда-стваральная эпоха, калі адбываліся вялікія падзеі, што закладалі традыцыі, якія мы паўтараем для нашых дзяцей сёньня. Бадай, найвялікшай з тых традыцый сталася гісторыя Дзвюх Сясцёр, яны вядомы нам як Дачкі Правадыра, і мы забавязаны ім за Вялікі Мір, у якім мы жывем, і жылі шмат незьлічоных поўняў.

Сярод узьбярэжных плямёнаў існуе адзін звычай: калі нашыя дачкі пераходзяць зь дзяцінства ў вялікі сьвет жаноцкасьці, мы ладзім сьвята надзвычайнай радасьці. Той, хто валодае магчымасьцю аднойчы зрабіцца маткай хлопчыка, будучага воя, абаронцы, заслугоўвае вялікае пашаны сярод бальшыні народаў, але ў нас, у Суклонных Плямёнаў, іх шануюць звыш за усіх астатніх.

Бацькі звычайна ладзяць вялікую бяседу, і гулянка доўжыцца некалькі дзён. Запрашаюцца ўсе з роднага племені ды з суседніх плямёнаў. Больш за тое, часам, калі гуляюць за дачку вялікага правадыра, зьбіраюцца плямёны з усяго далёка: з Узьбярэжжа, з далёкае поўначы, з выспаў, зь земляў карыбу[16].

Цягам усіх дзён сьвяткваньня дзяўчыну садзяць на ўзвышку, маўляў – хіба яна не на выдаданьні? А хіба замужжа не азначае мацярынства? А хіба мацярынства не азначае павелічэньня племені на адважных сыноў ды лагодных дачок, якія, у сваю чаргу, дадуць нам яшчэ сыноў ды дачок?

І гэтая традыцыя ідзе ад шмат тысяч гадоў таму, калі ў вялікага Правадыра было дзьве дачкі, што падрасьлі да жаноцкасьці ў адну і тую ж вясну – тады, як першы гон сальманаў затоўпіўся ўверх па рэках, а кусты ажын пацяжэлі ад квецені.

Дзьве сястры былі маладзенькія, прывабныя ды – о-о! – вельмі прыгожыя. Іхны бацька, вялікі Правадыр, рыхтаваў бяседу, якой яшчэ ня бачылі на ўсім Узьбярэжжы. Гулянка мелася доўжыцца днямі, меліся сысьціся госьці з розных плямёнаў, каб прынесьці свае падарункі дзяўчатам ды атрымаць каштоўныя дары ад Правадыра, і гасьціннасьць мелася доўжыцца столькі, сколькі заахвочаныя ногі змогуць танцаваць, шчасьлівыя вусны -- сьмяяцца, а глоткі – праглынаць стравы з рыбы, дзічыны ды ягад.

Адзіным ценем, што азмрочваў радасьць прыгатаваньняў, была вайна, якую вяло племя вялікага Правадыра зь плямёнамі Верхняга Ўзьбярэжжа – тымі, што жылі на поўначы, блізу таго, што завецца бледнатварымі портам Прынц Руперт. Уздож усяго берагу шасталі баявыя чоўны, вайсковыя атрады веславалі туды-сюды; па начах цішыню разрывалі ваенныя сьпевы; нянавісьць, помста, бойкі, жах вярэдзіліся ўсюды, бы раны на целе матухны-зямлі.

Але вялікі Правадыр, пасля тыдняў змаганьня, урэшце падняўся ўрост ды зарагатаў над ворагамі ды над бойняй, бо ён стаўся пераможцам па ўсіх мерках і мог дазволіць сабе пакінуць мейсца бойкі на нейкі тыдзень ды адсьвяткавацца ў гонар сваіх дачок, ня даўшы магчымасьці ніводнаму ворагу стануць паміж ім і традыцыяй свайго народу й гаспадаркі. Таму ён зьняважліва адвярнуў свае вушы ад іхных баявых поклікаў і, саманадзейна не зьвяртаючы ўвагі на пляскат іхных вёслаў, што ўбіліся ў ягоныя прыбярэжныя воды, пачаў рыхтавацца, як належыць вялікаму Правадыру, па-каралеўску пазабавіць сваіх супляменьнікаў у гонар сваіх дачок.

Але за сем сонцаў да сьвята перад ім рука ў руцэ паўсталі ягоныя дзьве дзяўчынкі.

-- О, тата, можна нам сказаць?

-- Гаварыце, мае дачушкі, мае дзеванькі з вачамі красавіка, сэрцамі чэрвеня (“раньняя вясна” ды “раньнее лета” – было б больш дакладна па-індзейску).

-- Аднаго дня, о, тата, мы можам нарадзіць хлопчыкаў, што вырастуць гэткімі ж магутнымі Правадырамі, як ты, і дзеля таго гонару, што некалі будзе нашым, мы жадаем тваёй – о, бацька наш, -- тваёй ласцы.

-- Ваш прывілей на гэтым сьвеце прасіць любой ласкі, якой толькі сэрца пажадае, -- адказаў ён спагадліва, пяшчотна патузаўшы дзявочыя шчочкі. – Маеце маю ласку, перш чым папросіце аб ёй, дачушкі.

-- Ці мог бы ты дзеля нас запрасіць варожае паўночнае племя – племя зь якім ты ваяваў – сюды, на нашае сьвята? – бясстрашна запыталіся яны.

-- На мірнае сьвята, сьвята ў гонар жанчын? – усклікнуў ён недаверліва.

-- Але мы жадаем гэтага.

-- Няхай гэтак будзе, -- тады пастанавіў ён. – Я не магу вам адмовіць у гэты дзень. Аднойчы вы народзіце сыноў, што дабраславяць той мір, аб якім просіце, і дабраславяць бацьку іхных матак, што спраўдзіў яго.

Тады ён завярнуўся да ўсіх маладзёнаў племені ды скамандаваў:

-- На суклоньні разьвядзіце вогнішчы па краі ўзьбярэжжа – вогнішчы запросінаў. Сядайце ў чоўны ды кіруйце на поўнач, павітайце ворагаў ды скажыце ім, што я, Правадыр Капіланаў, прашу – не, загадваю – каб яны далучыліся да вялікага сьвята ў гонар дзьвюх маіх дачок.

Паўночныя плямёны прынялі запрашэньне ды сабраліся ўсе разам на сьвята Вялікага Міру. Яны прывялі сваіх жанчын ды дзяцей, прынесьлі дзічыны й рыбы, залатых й каменных пацерак, кошыкаў ды разьблёных апалонікаў, яшчэ цудоўных тканых коўдраў, каб пакласьці іх да ног свайго прызнанага ўладара, вялікага Правадыра. А ён, з чаргі, даў такі абед, зь якім нішто, акрамя традыцыі, не можа параўнацца. І былі доўгія шчасьлівыя дні весялосьці, доўгія радасныя ночы танцаў ля вогнішчаў ды вялізная колькасьць харчоў.

Баявыя чоўны спаражнілі ад сьмяротнае зброі ды заладавалі туды дзённы ўлоў сальмана. Варожыя баявыя песьні змоўклі, замест іх былі чуваць адно далікатны шоргат ног у танцы, спеўныя галасы жанчын ды гульні дзяцей двух магутных плямёнаў, што да гэтага часу былі адвечнымі ворагамі, бо замацавалася між імі моцнае, працяглае братэрства – песьні вайны былі скончаныя назаўсёды.

І тады Сагалі Тайі заўсьміхаўся Сваім дзецям-індзейцам:

-- Я зраблю гэтых яснавокіх дзяўчынак несьмяротнымі.

У жмені сваіх складзеных далоняў ён ўзьняў дзьвюх дачок ды пасадзіў іх на ўзвышша: за тое, што яны нарадзілі двух нашчадкаў – Мір і Братэрства – і кожны зь іх цяпер ёсьць вялікім Правадыром, што кіруе гэтай зямлёй.

Дачкі Правадыра бачныя ўсім на грэбні гор, захутаныя ў сонца, сьнягі, зоркі, у любую пару года, бо стаяць яны на самым узвышшы тысячы гадоў і будуць стаяць яшчэ тысячы, ахоўваючы мір на Ціхаакіянскім Узьбярэжжы ды спакой каньёна Капілана.

---

Вось яна, індзейская легенда аб “Ільвах Ванкувера”, як я пачула яе ад таго, хто больш ніколі не раскажа мне аб традыцыях свайго народу.

# СЕМ БЕЛЫХ ЛЕБЕДЗЯЎ



Гэта было летась, дваццаць пятага лістапада. Пачуўшы над галавой лёгкі посьвіст, я глянула ўвысь ды ўбачыла зграбную чараду з сямёх лебедзяў, што крыляла ў вырай міма гораду.

Я дакладна памятаю тую дату, бо тады былі выбары ва ўрад правінцыі, і я дазволіла сабе зрабіць жарты з палітыкаў, пацікавіўшыся, што гэтая чарада можа нам навараражыць. Потым усе выбарчыя спрэчкі забыліся, бо тая карціна з прыгожымі белапёрымі лебедзямі, што плылі ў небе ў краіну сонца й цяпла, настолькі запанавала ў маіх думках, што адсунула ўбок менш прыемныя рэчы.

Я магла б намаляваць іх, як яны, уцякаючы ад зімы, нясьпешна лунаюць да нейкай далёкай паўночнай лагуны, дзе будуць марнавацца доўгімі трапічнымі тыднямі ў чаканьні поклічу з поўначы раньняй красавіцкай парой. Покліч з поўначы будзе азначаць час для параваньня, а яшчэ – доўгае салодкае лета на дальніх берагах верхняга Ціхаакіянскага Ўзьбярэжжа. Я сачыла за імі, іхныя даўгія, тонкія шыі выцягнуліся з той жа прагнасьцю асягнуць паўдзённага сонца, якую выяўляе скакавы конь на фінішным пралёце. Велічныя крылы ўзьнімалі іх у высокі палёт бы ветразі зь белага шоўку, надзьмутыя брызам, на імклівым чоўне. Я магла нават вызначыць рыскі іхных чырвоных лапак. Іхная абыякавасьць да гораду, над якім яны праляталі; іхны просты, нібы абдуманы, кірунак; іхная беззаганная бель здаваліся мімалётным відзежам нечага далёкага, дасканалага, да чаго мы сваімі тужліва выцягнутымі рукамі ніколі не зможам нават паспадзявацца дакрануцца. Яны адляталі ўсё далей і далей, усё слабеў і слабеў іхны крык, аж пакуль іх не захутала ў шаль празрыста-шызага воблака – і яны зьніклі.

Наступным днём да мяне зайшоў мой госьць, Правадыр, і першае, аб чым я яму расказала, былі лебедзі, што ляцелі ў вырай. Ягоны твар асьвятліўся хітравата-ўдаванай усьмешкай:

-- Ты бачыла палёт сямі лебедзяў? О! Гэта вельмі добры знак!

-- І што ён можа значыць для мяне? – адказала я, вяртаючы яму такую ж усьмешку.

-- Ён гаворыць табе... Як гэта гавораць белыя?.. Каханы? Ага... Твой каханы вельмі шчыры з табой, ён не двудушны; ён не мае адну душу для цябе, калі вы разам, і другую – калі ён далёка. О! Пэўна што, ён цалкам шчыры.

Я засьмяялася ўголас.

-- Каханы ніколі ня шчыры са сваёй каханай, але каханая – заўсёды, -- заўважыла я з цынізмам, народжаным багатым назіраньнем і некаторым асабістым досьведам.

Ягоны твар перамяніўся.

-- Ты занадта добра пазнала вялікі сьвет. А таму я не раскажу табе легенду аб лебедзях.

Я воміг прыбрала свае кпіны й адагнала недаверы:

-- О, Правадыр, я абяцаю ня ведаць больш вялікага сьвету і нічога з таго, што яго тычыцца, толькі раскажы мне аб іх! – узмалілася я.

-- Але... Ты бачыла іх. Гэта добра, іх убачыць. Бадай, раскажу... -- гэтак ён разважаў, але я цалкам упэўненая, што, калі б мне не давялося пабачыць тых прыгажуноў, што крылялі над горадам, я б так і ня выцягнула зь яго гэтай цікавай сквамiскай[17] гісторыі.

Правадыр рэдка карыстаўся табакай, але сёньня ён запаліў цыгарэту – і водар "Егіпцяніна" цяпер заўсёды вяртае мяне ў той дзень, і я заўсёды бачу не струменьчык шызага дыму, а тое тоненькае покрыва куродыму, зь якога выплываюць засмужаныя абрысы імклівых, прагных выраю, птушак, і мой стары Цілікам зноў распавядае мне...

## Легенда аб сямёх лебедзях

Хіба ты бачыла такую матку, каб не любіла зьнявечанае дзіця больш за іншых сваіх дзяцей? Гэтак было заўсёды: белыя маткі, індзейскія маткі – усе аднолькавыя.

Гэтая дзяўчынка была кульгавай. Калі яна навучылася хадзіць, адна нага крыху падцягвалася за другой; ейнае калецтва не было заўважным, постаць не была крывой, проста адна нага была слабейшая. Але маці любіла яе той ахоўнай любоўю, якой усе маткі адорваюць сваіх слабейшых дзяцей. Яна назвала яе "Бе-бе" – гэтым словам Чынукі[13] песьцяць малых дзетак, і Бе-бе расла ў дзяўчыну, потым у жанчыну, агорнутая ўсёй любоў'ю мацярынскага сэрца.

Бе-бе была прыгожанькай, яшчэ прыгажэйшай была душа, і толькі ейная крывая нага стаяла паміж ёй і ўсімі прывабамі дасканалага дзявоцтва. Тымчасам шмат малайцоў хацелі яе за жонку, бо яна была весёлай, добрай, лагоднай. Пальцы ў яе былі жвавымі й гнуткімі, каб ткаць ды плесьці кошыкі, яна любіла дзяцей, як і ейная маці.

І вось аднойчы прыйшоў адзін малады, зухаваты паляўнічы – лёгкі на нogі, востры на вока, рукі на ўсе штукі. Ягоныя стрэлы ніколі не давалі пудла, а хата была поўная мяккага, цёплага футра дзікіх жывёл, што ляжалі нямымі сьведкамі ягонага ўмельства.

-- Маёй моцы хопіць на абаіх, -- сказаў ён, калі яна паабяцала пайсьці за яго.

Але як яна апусьціла вочы ды ўзгадала пра крывую нагу, па ейным твары прабег цень.

-- Аж я ніколі не змагу выбегчы табе на дапамогу, як ты будзеш вяртацца зь лесу з аленем на плячах, ці з бабром у руках, -- уздыхнула яна. – Я не змагу танцаваць для цябе на вялікіх фэстах, як гэта робяць іншыя маладзіцы. Мне давядзецца сядзець сярод старых – адной. Са старымі ды брыдкімі – адной.

-- Ты ніколі не будзеш старай, ніколі не будзеш брыдкай, -- запэўніў ён. – Твой твар, твая душа ды вясёлае сэрца – яны заўсёды будуць маладымі. Я буду танцаваць за нас абаіх. Хадзем... Пойдзеш са мной?

І яна па-жаноцку паверыла ды пайшла зь ім, пакінуўшы свой бацькоўскі дом.

Маці часта прыходзіла да яе, усё яшэ клікала "Бе-бе", "Бе-бе", быццам яна ўсё яшэ была малой – як усе маткі са зьнявечанымі дзецьмі.

Прайшлі гады. Бе-бе нарадзіла свайму мужу шэсьць прыгожанькіх дзетак, і ніводзін зь іх ня быў крываножкай, але ніводны ня быў падобны да сваёй усьмешлівай маткі . Яна не састарэла, ейны твар быў прыўкраснай кветачкай, калі яна сядзела сярод старых ды брыдкіх падчас фэстаў, у той час, як хлопцы зь дзяўчатамі танцавалі ды гаманілі, ды танцавалі ізноў. Як часта ёй хацелася далучыцца да іх, хто ведае. Але ні боль, ні туга ніколі не гасьцілі ў ейным вечна маладым сэрцы. Аж пакуль аднойчы не зьявілася стрыечная

сястра мужа – дзяўчына высокая, пругкая, моцная, бы сама паляўнічая; яна танцавала, што той сонечны зайчык на сініх водах Ціхага. У вачах паляўнічага бліснуў дзіўны агеньчык, як ён назіраў за ёй, сачыў, як яна завіхалася, бы гнуткія галінкі ялін з Дугласа падчас навальніцы; сачыў за ейнымі спрытнымі нагамі, за жвавымі, лёгкімі крокамі, павабнымі рухамі. Гэтая сястрычка магла скакаць бяз стомы гадзіны ды гадзіны, і ўсе гэтыя гадзіны ён глядзеў на яе, і калі яна спынілася, малайцы, а зь імі разам і муж Бе-бе, абкружылі яе з падарункамі з ракавінкавых пацерак ды палымянымі прамовамі.

Бе-бе глянула на сваю крывую нагу – і сьмех загас у ейных вачах.

Удома, са сваімі шасьцю дзеткамі разам, яна чакала яго шмат дзён, шмат тыдняў, але муж-паляўнічы так і не вярнуўся, сышоў недзе з той, у каторай не было крывой нагі, якая б трымала яе сядзець сярод старых ды брыдкіх.

Шмат малайцоў прыходзілі да Бе-бе.

-- Ідзі за мяне, -- казаў кожны. – Ён ня вернецца да цябе.

Але яна адно, усьміхаючыся, хітала галавой ды заварочвалася да сваіх дзетак з распасьцёртымі рукамі.

Ейныя былыя сяброўкі ўжо пастарэлі, памаршчынелі; супляменьнікі саслабелі ды зьнядужалі з гадамі, але ў Бе-бе твар ўсё яшчэ быў такі ж малады ды прыгожы, як тады, калі яна пакахалася з тым дужым паляўнічым, што кінуў яе шмат-шмат поўняў таму.

А недзе далёка ў сваёй хаце састарэў ды саслабеў і сам паляўнічы, ягоная рука часта падманвала яго, вочы згубілі былую пільнасьць, і побач зь ім сядзела ягоная сястра – тая самая, што некалі была такая лёгкая на ногі, такая гарэзьлівая ў танцах, такая моцная ды страмкая ды гнуткая, але гады ляглі цяжарам на ейныя некалі хуткія ногі, ды зморшчылі твар, згорбілі плечы, зцьвердзілі рукі. Старая ды брыдкая, яна коўзалася па коўдры, бо загусьцела кроў у ейных венах – больш яна не танцавала.

І праз усе гэтыя гады Бе-бе сядзела на фэстах з тварам, бы кветка сярод зімовых шэрых, голых галін.

І аднойчы ён вярнуўся. Вярнуўся, каб убачыць ейную прыгажосьць, пачуць ейны сьмех ды даведацца, што сапраўднае жаночае каханьне назаўсёды робіць жанчыну маладой ды прыгожай, як кветка. Рыдаючы, ён укленчыў перад ёй, і хаця ён быў стары, згорблены, брыдкі – яна працягнула яму свае рукі.

Але тут зь нябёсаў загаварыў Сагалі Тайи[2], а Ягонае слова ёсьць законам для ўсіх людзей, усіх народаў.

-- Яна больш ня будзе тваёй, о, паляўнічы! – прамовіў голас. Нявернасьць ня можа параваць зь вернасьцю. Я адпраўлю яе зь дзецьмі туды, дзе іхная маладосьць, іхная прыгажосьць, іхны сьмех будуць вечным дакорам твайму няшчаснаму крывому сэрцу. Яны ніколі не састарэюць, ня згубяць сваю прыгажосьць, і яна са сваёй крывой нагой абернецца ў самую прыўкрасную істоту, якую Я, Сагалі Тайи, калісь стварыў. Раніцай паглядзі ў неба, о, паляўнічы з двума тварамі, двума сэрцамі, і там, у першым промні ўзыходзячага сонца, ты ўбачыш красу, зграбнасьць, смех, маладосьць, вернасьць, каханьне, шчырасьць – бо сам ты пазбаўлены гэтых сямі вялікіх якасьцяў, што некалі адпхнуў.

Раніцай на фоне золата ўзыходзячага сонца ўзьнялася чарада зь сямёх бялютка-белых лебедзяў. На кароткі момант яны прыпыніліся над старым паляўнічым – і тады

пакрылялі сваім шляхам у вырай. Ён прасачыў з пакутлівай тугой за іхным лётам, а потым абшукаў хату Бе-бе – там нікога не было. Яшчэ раз сваімі старымі вачыма пашукаў у небе, дзе ён яшчэ змог распазнаць сем прыгожых птушак з крыламі велічнымі, як шаўковыя ветразі, з лапкамі, што засмужанай чырваньню крывіліся на фоне блакінага неба. Ён схіліў галаву, бо зразумеў, што гэныя зграбна закрыўленыя лапкі былі тым адзіным Бе-беіным заганам – і гэткім чынам уславўленыя.

Спалілася дашчэнту правадырава цыгарэта. Над ягонай высакароднай галавой яшчэ курыўся шызы дымок, нібы тое воблачка, што захутала маю чараду белых красунь учарашнім вечарам.

-- А што, у лебядзінай чарадзе заўсёды сем лебедзяў? – спытался я.

-- Не заўсёды. Але часта. Вось чаму я сказаў, што ты маеш і добры знак, і вернага каханага, калі пабачыш сем.

-- Я мяркую ты хацеў сказаць, цілікам, што падобнае спараджае падобнае, і шчырасьць і вернасьць прыносяць шчырасьць і вернасьць – так?

-- Так. Хіба Сагалі Тайі не сказаў, што Вернасьць ня можа паравацца зь Нявернасьцю? – адказаў ён вельмі мякка.





# MISS E. PAULINE JOHNSON,

(TEKAHIONWAKE)

IN HER UNIQUE AND REFINED RECITALS OF HER OWN WORKS.



Canada's Foremost Comedienne and Poetess.

**PATHETIC • DRAMATIC • PATRIOTIC.**

LONDON, EDINBURGH, DUBLIN,
NEW YORK, BOSTON, TORONTO,
MONTREAL, QUEBEC, WINNIPEG,
VANCOUVER, CHICAGO

**Endorse and**
**Applaud her.**

*Афіша эстрадных выступаў Паўлін Джонсан*

# "МАЯ ЗАДАЧА, МАЁ ШЧАСЬЦЕ, МОЙ ГОНАР – СЬПЯВАЦЬ СЛАВУ МАЙМУ РОДНАМУ НАРОДУ"


E. Pauline Johnson--Tekahionwake
The Mohawk Poet Reciter

10 сакавіка 1861 года ў Рэзервацыі Шасьці Народаў, у мястэчку Чыфсвуд, што непадалёк ад Брэндфарда (Антарыё, Канада), у Правадыра індзейскага племені Магаўк і кіраўніка Рэзервацыі Джорджа Джонсана-Тэкеянўакея і ягонай ангельскай жонкі Эмілі нарадзілася чацьвёртае дзіця – дзяўчынка Эмілі Паўлін, якой наканавана было зрабіцца адной з найбольш выбітных постацяў Канады на мяжы 19-га і 20-га стагоддзяў. Складальніца цудоўных вершаў ды легендаў, яна сама, ейнае жыцьцё сталіся легендай яднанай Канады.

Ейны бацька Джордж Генры Марцін Джонсан, па-іракезку Аванансісхон, быў вядомым Правадыром народа Магаўк, чыё славутае індзейскае радавое імя Тэкеянўакей узыходзіць да заснавання Канфедэрацыі Іракезаў яшчэ за 500 гадоў да таго часу, як эўрапейцы адкрылі Амерыку. Ангельскае прозьвішча – Джонсан – перайшло ягонаму роду ў 18 ст. пры хрышчэньні ягонага дзеда ад ягонага хроснага бацькі Сэра Ўільяма Джонсана, вядомага брытанскага генерал-інтэнданта племені Магаўк. Дасканала валодаючы ўсімі іракезкімі гаворкамі, а таксама ангельскай, французкай ды нямецкай мовамі, бацька Паўлін атрымаў пасаду дзяржаўнага перакладчыка пры Іракезкай Рэзервацыі. Адылі, высокага тытулу сваім нашчадкам ён перадаць ня змог з тае прычыны, што ажаніўся з белай жанчынай. Гэткімі тады былі індзейскія законы.

Паўлін ганарылася сваімі карэннымі продкамі, заўсёды падпісваючыся "Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей".

Гэткім жа чынам яна ганарылася і сваёй маці, Эмілі С'юзан Гоўэлс, якая была сваячкай англіканскага місіянера ды стрыечнай сястрой вядомага амерыканскага пісьменніка Ўільяма Гоўэлса. Паўлін захаплялася смеласьцю сваёй маці выйсці замуж за магаўка ды выхоўваць сваіх дзяцей у "індзейскім духу ды патрыятызме", – паводле Паўлініных словаў.

Апошняе дзіця ў сям'і, даволі хваравітая, Паўлін не наведвала школу. Найбольш яна бавілася сама, засвоіўшы веславаньне на індзейскім кану́[18]; прыхапіўшы з сабой кнігу, гуляла па рацэ Гранд-Рывер, што працякала ля іхнага дома. Пазней, зрабіўшыся спрактыкаванай веславальніцай, яна правандруе ў лодцы шмат міляў па рэках Канады. Уражаньні з гэтых вандровак стануцца амаль што асноўнай канвой ейных вершаў.

Кану зробіцца верным спадарожнікам ейнага натхненьня ды самотнасьці. Кану з удзячнасьцю не раз узгадаецца ў "Легендах Ванкувера". Кану будзе прысвечаны верш "Песьня, што сьпявае маё вясло", які ўважаецца за праграмны верш ейнай творчасьці ды ўваходзіць у школьную праграму ў Канадзе:

Вецер заходні, надзей не змані,
Дыхні з гор высокіх, са стэпаў дыхні!
Злайдачыў мой ветразь, веславальніца сьпіць;
О! вецер заходні, хто нас натхніць?
Дуй, дуй!
Гэтак прагнем даўно,
А ты адмаўляеш нам у ласцы сваёй.
Загушкаўся недзе на арэлях між гор,
Адвёўшы свой позірк ад нашых азёр…[19]



by Raymond R. Skye
З ілюстрацыяў Раймонда Р. Ская

Летуценьніца, яна пачала складаць вершы яшчэ раней, чым навучылася хадзіць ды веславаць.

Адукацыю яна атрымала ўдома ад сваёй маці. А яшчэ – самастойна з хатняе бібліятэкі. Тут яна пазнаёмілася з творамі Байрана, Шэкспіра, В. Скота, Дж. Мілтана. Але асабліва яна захаплялася казаньнямі аб карэнных народах Канады, такімі як паэма "Песня пра Гаявату" Лангфелава, ці "Вакуста" Джона Рычардсана. "Да таго як мне споўнілася 12 гадоў, – казала неяк Паўлін, – я ўжо прачытала кожны радок, напісаны Скотам, Лангфелавым, шмат – Байранам, Шэкспірам ды Эмерсанам". Калі ёй было чатырнаццаць, яна нейкі час наведвала сярэднюю школу ў Брэндфардзе са сваім братам Элінам і была атэставана там у 1877 г.

Хаця бацькі Паўліны былі заклапочаны тым, што іхны зьмяшаны шлюб не будзе ўспрыняты грамадскасьцю, насамрэч яны былі прызнаныя за перадавую канадыйскую сям'ю. Джонсаны заўсёды трымаліся шляхетнага ладу жыцця, і іхны дом у Чыфсвудзе, які наведвалі знакамітыя канадыйскія навукоўцы, мастакі, літаратары і нават Генерал-губернатар Канады, быў шырока вядомым.

Эмілі ды Джордж выхоўвалі сваіх чатырох дзяцей у пашане да сваёй спадчыны, як магаўкскай, так і ангельскай, намагаліся даць як мага больш ведаў пра культуры абодвух народаў. Трэба сказаць, што тут вялікі ўнёсак зрабіў дзед Джон Смок Джонсан-Тэкеянўакей. Таксама Правадыр, герой індзейскіх войнаў, ветэран вайны 1812 г. паміж Злучанымі Штатамі ды Канадай, ён расказваў дзецям шмат ваенных гісторыяў ды легендаў на мове магаўк. Ён стаўся невычэрпнай крыніцай паданьняў ды легенд для маленькае ўнучкі, якая пазьней уславіла ягоны народ на старонках сваіх кніг. Паўлін Джонсан казала, што талент красамоўства яна атрымала ў спадчыну ад свайго дзеда.

У 1884 г., неўзабаве па сьмерці бацькі, сям'я перабралася ў Брэндфард, перадаўшы свой чыфсвудзкі дом у арэнду, каб мець нейкі прыбытак для жыцьця.

На працягу 1880-х гадоў Паўлін пісала вершы, грала ў гарадскім аматарскім тэатры, займалася веславаньнем на кану, з захапленнем даследуючы бясконцыя антарыйскія водныя навакольлі.





*Джордж Генры Марцін Джонсан, Правадыр племені Магаўк – бацька Паўлін.*



*93-х-гадовы Джон “Смок” Джонсан (справа) – дзед Паўлін, 1886 г.*

У 1880-я гады Паўлін Джонсан заявіла аб сабе як аб адметнай канадыйскай пісьменьніцы, публікуючы свае творы ў вядомых часопісах “Globe”, “The Week”, “Saturday Night”. Джонсан была адным з тых канадыйскіх пісьменьнікаў, што закладалі пачатак адметнай нацыянальнай літаратуры.

У 1982 г. Джонсан зачытала свой верш “Плач індзейскай жонкі” (A Cry from an Indian Wife) на Вечарыне канадыйскіх аўтараў у Моладзевым клубе ў Таронта. Твор быў заснаваны на падзеях бітвы на Кат-Найф-Крыку падчас Рыльскага паўстання (Riel Rebellion). Выкананне мела такі вялікі поспех, што паклала пачатак ейнай 17-гадовай сцэнічнай кар’еры. Захопленая публіка ўспрыняла яе як даволі маладую (хаця ёй быў тады ўжо 31 год), прыгожую, экзатычную індзейскую прынцэсу-паэтку.



Пасля першага выступу Паўлін вырашыла падкрэсліць свой індзейскі вобраз, апранаючыся для выступаў у жаночы індзейскі строй, зроблены сваімі рукамі.

Вось я – Аджысту. Гэта – я.
Жонка я таго, чыё імя
Праменіць праўдай ды жыцьцём.
Адвагай тою, за якую
Ўважае племя ўсё яго правадыром.
Аджысту я, яму я – зоркай белай.
А ён – зямля. І возера. І неба.
І для мяне ён – сэрца і душа.
Індзейца жонка я.[20]

Галоўнай тэмай ейных выступаў зробіцца “індзейская тэма” – у сваіх эмацыйных, узнёслых вершах яна будзе бараніць свой народ, даносіць індзейскі погляд на падзеі мінулага й сучаснага, захапленьне рамантыкай індзейскага побыту.

Поўную літаратурную спадчыну Паўлін Джонсан цяжка вызначыць, бо значная ейная частка была апублікаваная ў розных перыядычных выданнях. Даследчыкі да гэтага часу расшукваюць ейныя публікацыіі.

Першы зборнік паэзіі “Белы вампам” (The White Wampum) быў надрукаваны ў Лондане (Антарыё) у 1895 г. Наступны – “Народжаная канадыйкай” (Canadian Born) – у 1903 г. Зьмест гэтых двух зборнікаў разам з іншымі вершамі – усё ўвайшло ў кнігу “Крэмень і пяро” (Flint and Feather), што выйшла ў 1912. Пасля выданьня ў 1917 г. зборнік “Крэмень і пяро” памылкова быў пазначаны “поўным зборнікам вершаў Паўлін Джонсан”.

Кнігі “Шаганапі” (Shagganappi) 1913 г. і “Швачка макасінаў” (The Moccasin Maker) 1913 г., пасьмяротныя выданьні, зьяўляюцца зборнікамі апавяданьняў, публікаваных раней у розных часопісах. Гэта кароткія творы, напісаныя Паўлін у розных жанрах – павучальныя, сентыментальныя, біяграфічныя.

Але Паўлін Джонсан вартая пашаны ня толькі за сваю паэзію. Ейнае жыццё, кар’ера ды вандроўкі сьведчаць пра тое, што яна была жанчынай, якая насьмелілася рабіць тое, што ў тыя часы жанчыне не дазволена было рабіць, і была жанчынай, якая ганарылася сваім паходжаньнем. У той час, калі яна жыла, яна была, паводле магаўкскага пісьменьніка Бэта Бранта, рэвалюцыянеркай – жанчынай, што кінула выклік забабонам тагачаснага грамадзтва.

Ва ўзросьце 31 года, калі паводле разуменьня тагачаснае грамады яна мусіла выйсці замуж ды нараджаць дзяцей, яна пачала вандраваць па краіне. Яна чытала вершы, выконвала камедыйныя маналогі ды сцэнкі паўсюль, ад Галіфакса да Ванкувера. Яна была першай сярод індзейскіх паэтаў, апублікаваных у Канадзе. Больш за тое, яна была амаль адзінай жанчынай, якая здолела зарабляць пісьменствам ды выступамі дастаткова для самастойнага жыцця. Пры гэтым Паўлін адмыслова ганарылася свам індзейскім паходжаньнем. “Тым, хто думае, – казала Паўлін, – што робіць мне камплімент, гаворачы, што я падобная да белай жанчыны, я адкажу – я – індзеянка. І сьпяваць славу майму роднаму народу – гэта мая мэта, маё шчасце, мой гонар. Сваё пяро й жыцьцё я прысьвяціла памяці майго народа. Забудзьце, што мяне звалі Паўлін Джонсан, але заўсёды памятайце пра Тэкеянўакей – жанчыну з племені Магаўк, што сьціпла спадзявалася быць пясьняркай паданьняў свайго народа, бардам найшляхетнейшых з людзей, якіх ведаў сьвет, сумным гісторыкам сваіх гераічных супляменьнікаў”.



Pauline (by Raymond R. Skye of the Six Nations) “I am an Indian. My pen and my life I devote to the memory of my own people. Forget that I was Pauline Johnson, but remember always that I was Tekahionwake, the Mohawk that humbly aspired to be the saga singer of her people, the bard of the noblest folk the world has ever seen, the sad historian of her own heroic race.”[50]

Ёсць, аднак, сьведчаньні, што сваё зьмяшанае паходжаньне ёй давялося пераэжыць даволі адчувальна. Магчыма, менавіта праз яго не ўдалося асабістае жыцьцё Паўлін. Яна была заручаная, але шлюбу так і не адбылося. І хаця ніхто адкрыта не гаварыў пра прычыну адмовы ейнага жаніха, але лічыцца й да сёньня, што доля індзейскае крыві, ды яшчэ "нізкая" прафесія жанчыны-выступоўцы, амаль "акторкі" – вось што пацягнула за сабой разлад. Глухія водгукі на нязбытнае каханьне раскіданыя па вершах Паўлін, надаючы ім гаркотнае адценьне; а наўпрост тэма несумяшчальнасьці сапраўднага пачуцьця ды расавых забабонаў адлюстраваная ў апавяданнях "Як яно было напачатку" ды "Развагі чырванаскурае дзяўчыны".

На працягу дваццаці гадоў Паўлін Джонсан была самай знакамітай пісьменьніцай у Канадзе. У эпоху, папярэднюю радыё ды тэлебачанню, у залаты век публічных літаратурных выкананьняў яна зрабілася сапраўднай зоркай.

Гэта была эпоха эстрадных забаваў, але Паўлін ператварала сваю сцэну ў значна большае, чым забава. Заўсёды яна намагалася данесьці да публікі сваё бачаньне вялікае ядканае Канады, што ўздымецца над рэгіянальнымі ды расавымі адрозненьнямі. Сама па сабе гэтая ідэя ёсць галоўным ейным унёскам у канадыйскую культуру, і ў нейкім сэнсе яна ахвяравала ёй усю сваю літаратурную кар'еру, ставячы свае выступы паперадзе друкаваных публікацыяў.

Важна адзначыць, што Паўлін пісала на мяжы стагодзьдзяў, калі ўжо разрасталіся вострыя спрэчкі аб крыніцах канадыйскае літаратуры, ейным нацыянальным зьмесьце, і пясьнярка карэннай культуры зрабіла свой практычны ўнёсак у іхнае вырашэньне. За паўстагодзьдзя да пачатку масавага руху сучасных індзейцаў за грамадзянскія правы ды разьвіцьцё сваёй літаратуры самаахвярныя высілкі Паўлін па абароне індзейскае культуры набываюць асаблівае значэньне.

Тым ня менш, нягледзячы на нядбайнае стаўленьне да сваіх публікацыяў, Паўлін усё ж пакінула нам цудоўную літаратурную спадчыну – натхнёную паэзію, напоўненую жывымі моцнымі пачуцьцямі й прыгажосьцю.

Ня трэба, праўда, і забываць, колькі сілаў вымагала ад яе ейная вандроўная дзейнасць. Па-першае, самі паездкі ў той час былі не такімі лёгкімі, як цяпер. Па-другое, шмат энэргіі аддавалася самім выступам.

Ейныя артыстычныя чытанні былі настолькі эмацыйнымі, што змушалі людзей і плакаць, і сьмяяцца. Першую частку свайго выступу яна пачынала ў балёвай сукенцы віктарыянскага стылю ды чытала, да прыкладу:

Сэрца маё забылася Бога дзеля каханьня з табой.
    А ты забыўся мяне дзеля каханьня другога.
Праз пакаянне па колкім іржышчы
    Вяртаюсь да Бога назад.

І толькі таму, што Бог забывае былое
    І, забываючы, мяне не пытае, каб знаць,
Ягоныя рукі пакінула дзеля каго я,
    Урэшце да Бога іду я назад.[21]

У другой частцы сваёй праграмы – “індзейскай” – яна выходзіла ў нацыянальным строі, зробленым сваімі рукамі з аленевай скуры, у магаўкскіх металёвых ружанцах, заячых футравых кутасах, з пер’ем, пацеркамі з мядзведзевых кіпцяў, з паляўнічым нажом, гуронскімі скальпамі свайго прадзеда, ды яшчэ адным скальпам, што яна купіла недзе на амерыканскім захадзе, ды пачынала дэклямаваць:

Вярніце нашую зямлю, наш край.
Вярніце статкі ды дзічыну.
Вярніце футры ды лясы,
Што нашымі былі,
Пакуль з’явіліся тут вы.
Вярніце мір і дабрабыт.
Тады прыходзьце ў госці
З новай верай,
З пакаяньнем.
І калі хопіць духу,
Абвінавацьце нас тады.[22]

У трэцяй частцы свайго выступу Паўлін выконвала камічныя маналогі, забаўныя сцэнкі са свайго жыцця, магла, да прыкладу, расказаць жартамі, як яна са сваёй сяброўкай пераадольвала парогі на “Дзікай котцы” – так яна называла сваё індзейскае кану.


Pauline posed for this formal portrait in an elaborate gown that showed off her shoulders and waistline, and enhanced her five-foot-four-inch figure.
(Brant Historical Society #1653)





Паэтка-акторка Паўлін Джонсан правандравала па ўсёй Канадзе ад Антарыё да Брытанскай Калумбіі, яе з захапленьнем прымала публіка ў Злучаных Штатах.

У 1906 годзе на запросіны каралеўскае сям'і яна прыбыла ў Лондан (Англія). Тут яна пазнаёмілася з Джозэфам Капілана, Правадыром племені сквамішаў, што жывуць на Ціхаакіянскім Узьбярэжжы ў Брытанскай Калюмбіі. Правадыр Капілана з яшчэ двума старэйшынамі прыехаў у Англію – гэта было першае з'яўленне заходнеўзьбярэжных правадыроў у Старым Свеце – каб апратэставаць парушэньні зямельных дамоваў урадам ангельскіх каланістаў ды выставіць свае патрабаваньні Каралю Эдуарду VII. Паўлін ня толькі пасябравала з "Правадыром Джо", але й дапамагла яму атрымаць аўдыенцыю ў Караля.


THE DAILY GRAPHIC, FRIDAY, AUGUST 3, 1906.

Simon Pierro (Interpreter). Chief Joe Capelaus. Chief Charles Filpayment. Chief Basil.

TO PETITION THE GREAT WHITE KING: THE INDIAN CHIEFS WHO HAVE ARRIVED IN LONDON FROM CANADA TO ASK KING EDWARD TO PROTECT THEIR GAME RESERVES.

The Red Indian chiefs, Joe Capelaus, Charles Filpayment, and Basil, who have arrived in London with their interpreter Simon Pierro, hope to be allowed to present a grievance of their tribe to the King in person. They wish to urge King Edward to protect their game reserves, fearing that if game continues to be killed at the present rate their tribes will be in danger of starvation in winter.

*Джо Капілана ў Лондане, 1906 г.*

У 1909 годзе Паўлін Джонсан, адчуўшы надзвычайную стому, пакінула сцэну ды сышла на адпачынак. Маючы імпэтныя пляны заняцца прозай, публікацыямі, яна пасялілася ў Ванкуверы, у які пасьпела закахацца падчас сваіх творчых вандровак. Тут яна аднавіла сяброўства са сваім "цілікам-скукамам" – вялікім сябрам – Джозэфам Капілана. Падчас доўгіх гасьцяваньняў ды вандровак на кану ён апавядаў ёй паданьні свайго народа, якія яна літаратурна аформіла ў знакамітыя "Легенды Ванкувера".

Натхнёныя сумоўем паміж паэткай племені магаўк ды апавядаўцам-сквамішам, пададзеныя аўтаркай спачатку як вынік сяброўства, “Легенды Ванкувера” зрабіліся класікай, сапраўднай перлінай канадыйскай індзейскай і дзіцячай літаратуры.

Трэба сказаць, што публікацыя “Легендаў Ванкувера” сама ёсць найцікавейшай легендай у гісторыі канадыйскай выдавецкай справы. У сакавіку 1910 г. Правадыр Капілана памёр, і неўзабаве Паўлін пачала пісаць тое, што яна чульліва назвала “Легенды Капілана”. Гісторыі гэтыя час па часе публікаваліся ў ванкуверскім тыднёвіку “Daily Province”. Яна апублікавала дваццаць дзьве гісторыі з красавіка 1910 г. па студзень 1911 г., аж пакуль з ёй не надарылася бяда. Тое, што яна ўспрымала за надзвычайную стому, выявілася невылечнай хваробай. Яна памірала ад раку грудзей. Часу й сілаў для зьдзяйсненьня сваіх літаратурных плянаў не засталося.

Дзеля таго каб сабраць грошы на лячэньне ды жыцьцёвыя патрэбы сьмяротна хворай паэткі, ейныя сябры вырашылі надрукаваць “Легенды” асобным выданьнем. Колькасьць прададзеных кніжак з некалькіх тыражоў у той час, нават у параўнаньні з больш сучасным выданьнем “Легендаў” у 1991 г., падаецца проста нечуванай.

Тое, як, перамагаючы фізічны боль, гераічна трывала сваё апошняе выпрабаванне гэтая мужная жанчына, можна ўбачыць з ейнага самага апошняга верша “І Ён сказаў – змагайся!”, які насуперак асязальнаму канцу дыхае аптымізмам ды прагай жыцця:

Хаўруснікаў сабраўшы, Час, Падступнік Чорны,
Рыхтуе абкружэньне маім вайскам –
Раззброіць іх, зламіць няроўным боем, пагнаць ва ўцёкі.
Няхай змагаюся адна, упала, паміраю,
Здавацца? У пастцы я?
Ніколі! Дый ня я!

Змаглася крэпасьць.
Пабраўшысь страху, разбегся мой атрад,
Дагнаны тысячамі куль.
Крычаць: “Скарыся! Ты – адна!”
Ганебнага прасіцца міру?
Ніколі! Дый ня я!

Расстрэляны ў шматкі мой сьцяг
Лунае над фартэцай.
Пакуль магу стаяць, трываць,
Пакуль дышу ды сэрца б’ецца –
Бязьлітаснаму лёсу не скаруся я.
Скласьці долу зброю?
Ніколі! Дый ня я!

Па сьмерці Паўлін былі знойдзены рукапісы з абрыўкамі новых твораў: урывак паэмы “Балада пра Яаду” (паводле легенды “Шэрая Арка”), пачатак паэмы “Балада пра Лалу” (паводле легенды “Страчаная выспа”). Перамагаючы сьмяротны боль ды няздольнасьць сканцэнтравацца (на якую яна скардзілася), Паўлін і ў апошнія месяцы свайго жыцьця не змагла адкінуць пяро, змушала сябе пісаць.

Спадзяемся, што ейныя апошнія дні былі ўсьцешаныя веданьнем таго, што ейная праца, ейныя творы будуць жыць. Што яны перажывуць памяць тых пакаленьняў, каму пашчасьціла ведаць пяшчоту ды полымя ейнага чароўнага голасу.

Паўлін Джонсан памерла 7 сакавіка 1913 г. Ейныя паховіны, найвялікшыя да таго часу ў гісторыі Ванкувера, адбыліся ў дзень ейных 52-х народзінаў. Гэты дзень быў абвешчаны ў горадзе жалобным. Усе сьцягі ў Ванкуверы былі прыспушчаныя. У пахавальнай працэсіі ўзялі ўдзел усе значныя асобы горада, прадстаўнікі ўсіх клюбаў ды арганізацыяў. За дамавінай ішла вялікая група індзейцаў-сквамішаў на чале са сваім Правадыром – сынам Паўлінінага сябра Правадыра Джо Капілана. Вялізная колькасць вянкоў ды тэлеграмаў з усяе Канады (у тым ліку ад Генерал-губернатара, Прем’ер-міністра ды Каралеўскае грамады), а таксама з Англіі сьведчылі аб ужо нацыянальным прызнаньні паэткі. А ў таронтаўскай газеце “Saturday Night” былі напісаныя прароцкія словы: “Канада ад сёньня значыць для нас болей таму, што ў ёй жыла й стварала Паўлін Джонсан”.

Гэта было вельмі натуральным, каб дзіця Прыроды знайшло свой апошні прытулак у ейным улоньні, ніж на урбанічных могілках. Перад сьмерцю Паўлін прасіла, каб яе пахавалі ў ейным улюбёным парку Стэнлі, які яна ўславіла ў сваіх “Легендах”. Ейны прах пахавалі непадалёк ад Сіваш-скалы, і гэта была першая й адзіная асоба, пахаваная ў Парку. І хаця яна прасіла, каб ніякіх помнікаў на ейнай магіле не было, пазней, у 1922 г., Жаночы клюб Канады ўсталяваў вялікі камень, прывезены з могілак пры магаўкскай капліцы Брэндфарда, дзе былі пахаваныя ейныя дзяды, з выбітым ейным партрэтам у магаўкскім арнаменьце. Там яна й ляжыць сярод папараці й дзікіх кветак у закуточку, дзе сыходзяцца ўсе сьцяжыны Парку; і час па часе іх турбуюць ціхія крокі паломнікаў – аматараў канадыйскае паэзіі, што ўважаюць гэты куток за адну з самых рамантычных сьвятыняў.




*Магіла Паўлін Джонсан у Парку Стэнлі, у Ванкуверы*

Нягледзячы на тое прызнаньне, што яна мела ад сваіх сучасьнікаў, славутасьць Паўлін Джонсан нейкім чынам зачэзла ў наступныя дзесяцігодзьдзі пасля ейнае сьмерці. Але пачынаючы ад 1961 г., пасля сьвяткаваньняў ейных стогадовых угодкаў, асоба Паўлін Джонсан ізноў уважаецца за выбітную постаць у канадыйскай культуры.

Чатыры школы ў Канадзе носяць імя Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей.




У доме Джонсанаў у Чыфсвудзе, дзе прайшло дзяцінства Паўліны, заснаваны музей, які ўваходзіць у сьпіс гістарычных славутасьцяў Канады.

У 1961 г. стогадовыя ўгодкі Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей былі адзначаныя выпускам серыі памятных марак з ейным партрэтам – “увасабляючы першую жанчыну (іншую за каралеву), першую аўтарку, першую карэнную канадыйку, гэткім чынам ушанаваць ейную памяць”.



A broadly smiling Pauline, wearing a fetching hat.
This photograph was probably taken in 1894.
*(Brant Historical Society #3789)*

*Біяграфічны нарыс склала Ірына Варабей (перакладчыца)*

## ЯК ЯНО БЫЛО НАПАЧАТКУ

### Апавяданьне

Яны ўважаюць, што гэта таму, што я -- чырвонаскурая. Але я ёсьць нечым яшчэ: я -- жанчына.

Я памятаю, як убачыла яго ўпершыню. Ён прыйшоў сьцежкай разам з трапёрамі з "Гадсан Бэй", і яны пасталі ў дзвярах ціпі майго бацькі. Нават тады, чатырнаццаць гадоў таму, ён выглядаў старым; ягоныя валасы здаваліся такімі ж тонкімі й белымі, а рукі такімі ж дрыжачымі й бясплотнымі, як і месяц таму, калі я бачылася з ім, -- і аб чым я малюся ягонаму Богу -- апошні раз.

Мой бацька быў сядзеўшы ў ціпі, шліфуючы бычыны рог і палячы; мама, загорнутая ў коўдру, схіліўшыся над сваёй працай зь пер'ем на бычынай скуры побач зь ім; а я сядзела ля ўваходу, лайдачачы й назіраючы, як я заўсёды назірала, тонкі далёкі пас небасхілу й прэрыі, дзівячыся, як я заўсёды дзівілася, што ж ёсьць тамака, за імі. І тады прыйшоў ён, гэты лагодны стары з белымі валасамі й тонкім бледным тварам. Ён быў апрануты ў даўгі чорны каптан, што быў, як я цяпер ведаю, азнакай ягонай гаспадаркі, у ягоных руках была чорная ў скураной вокладцы кніга, без якой усе тыя гады, што я яго потым ведала, ніколі ня бачыла.

Трапёры патлумачылі бацьку, хто ён такі: Вялікі Настаўнік, Лекар чалавечых душаў, той самы "Чорны Каптан", пра якога мы чулі раней; той, хто прынёс мір туды, дзе была вайна, і чыя чароўная чорная кніга дае нешта вялікшае за ўсе Запаветы Шчасьлівага Паляваньня нашых продкаў.

Ён шмат пра што распавядаў нам у той дзень, бо мог гаварыць на мове Кры, а бацька слухаў і слухаў, і калі яны ўрэшце пайшлі, бацька запрасіў яго прыходзіць і сядзець у ціпі яшчэ.

Ён прыйшоў, хадзіў праз увесь час, і бацька прымаў яго. Але мама – ах, мама! – яна заўсёды сядзела моўчкі, робячы пер'е. Ён ёй ніколі не падабаўся, гэты Вялікі "Чорны Каптан".

Ягоныя расповеды зачароўвалі мяне. Я ў захапленьні слухала аповеды аб дзіўным новым месцы, якое ён называў "нябёсамі", аб залатой кароне, аб белых апранахах, аб цудоўнай музыцы; і тады ён расказваў і пра тое другое дзіўнае месца -- пекла. Мы з бацькам страшэнна не ўпадабалі яго; мы баяліся яго, яно нам сьнілася, даводзіла нас да дрыжыкаў. О, хай бы ён спыніў гаварыць аб ім! Цяпер я ведаю, што бачачы, як яно ўплывае на нас, ён карыстаў яго, як той венік, каб запрэгчы нас у гэтую ягоную новую рэлігію. Але мама, ...мама, пэўна, ведала ўжо тады, таму што кожнага разу, як ён пакідаў ціпі, яна сачыла, як ён ішоў павольна цераз прэрыю, і калі ён хаваўся за даляглядам, здзекліва сьмяялася:

-- Калі ўжо тыя белыя зрабілі гэнае "чорнакаптанавае" пекла, то няхай самі туды й шыбуюць. Яно якраз для таго, хто яго першым знайшоў. Для індзейцаў няма ніякага пекла, а толькі Край Шчасьлівага Паляваньня. Чорны Каптан мяне не напалохае.

А потым, калі прайшло колькі тыдняў, аднойчы, стоячы ўжо ў дзьвярах ціпі, ён паклаў сваю старую белую руку на маю галаву й сказаў бацьку:

-- Аддай мне гэтае дзяўчо, правадыр. Пусьці яе ў місіянерскую школу, няхай яна будзе са мной, я буду навучаць яе вялікаму Богу й Ягоным вечным нябёсам. Яна вырасьце шляхетнай жанчынай і вернецца, каб прывесьці свой народ да Хрыста.

Мама зыркнула вачыма.

-- Не! -- сказала яна.

Гэта было самае першае слова, якое яна сказала Чорнаму Каптану.

Бацька сядзеў, палячы. Не прайшло й паўгадзіны ён сказаў:

-- Я -- стары, Чорны Каптан. Я ўжо не пакіну Бога маіх дзядоў. Мне не падабаюцца вашыя дзіўныя Боскія шляхі -- усе, якія ёсьць. Мне не падабаюцца Ягоныя два новых месцы для мяне, калі я памру. Але вазьмі гэтае дзіця, Чорны Каптан, і зьберажы яе ад пекла.

Першае гора ў маім жыцьці было, калі я пераступіла парог місіі. Зь мяне зьнялі замшавую сукню, сказаўшы, што цяпер я хрысьціянская дзяўчынка й мушу апранацца, як усе белыя людзі ў місіі. О, як я ўзьненевідзела гэтую цесную новую баваўняную сукенку й гэтыя скураныя чаравікі! Але я была малая, я нічога не сказала, толькі падумала пра той час, калі я вырасту й буду рабіць тое, што й мая мама, і апранацца ў аленеваю скуру й коўдру.

Маё наступнае сапраўднае гора было, калі я пачала гаварыць па-ангельску, бо мне забаранілі ўжываць аніводнага слова на Кры. Па правілах школы кожнае дзіця, ад якога пачуюць родную мову, павінна атрымаць пакараньне. Я ніколі гэтага не разумела, не магу зразумець і цяпер, чаму ўжываньне майго дарагога Кры мусіла было выкараняцца, ці было нагодай для пакараньня.

Яна была строгай, гаспадыня школы, але справядлівай, бо ўсё ж мела сэрца й твар, як у свайго брата, Чорнага Каптана. Я засумавала з тае пары, што перастала называць яго так. Трапёры ў краме называлі яго "сьв. Пол", за ягонае, як мне казалі, самаахвярнае жыцьцё, за добрыя ўчынкі, за ягоны рэдкі прыгожы стары твар; таму й я называла яго "сьв. Пол", але часьцей "ойча Пол", хаця апошняга тытулу ён неяк не любіў, бо быў пратэстантам. Але што як я была ягонай любіміцай, ягонай найдаражэйшай на ўсю школу, ён дазваляў мне гаварыць, як я хачу, ведаючы, што гэта былі толькі словы любові майго сэрца. Ягоная сястра была ўдавой і маці сьмяшлівага русявага хлопчыка блізу майго веку, які быў маім заўсёдным сябрам у гульнях і які вучыў мяне ангельскай на свой собскі дзіцячы манэр. Я была прыхільная да гэтага хлопчыка, як была прыхільная й да ягонае маці й ягонага дзядзькі, майго "айца Пола", але калі мая дзявоцкасьць прайшла, а прыйшла жаноцкасьць, я чамусьці дзіўна стамілася ад іх усіх; я засумавала, о, Божа, як я засумавала па старым вольным жыцьці! Гэта прыйшло з маёй жаноцкасьцю, праз вушы.

Што з таго для мяне цяпер, што яны навучылі мяне ўсім сваім манэрам? -- іхным штукам у адзеньні, іхнаму чытаньню, пісаньню, іхным кнігам. Што з таго, што "айцец Пол" любіў мяне, што купцы ў краме называлі мяне харошанькай, што я была любіміцай усіх, ад фабрыканта да бяднейшага трапёра ў прыходзе? Я хацела сваіх людзей, свайго собскага старога жыцьця, мая кроў клікала мяне туды, але мне заўсёды гаварылі, што я не павінна вяртацца да ціпі майго бацькі. Я чула, як яны гаварылі міжсобку, што мяне трэба трымаць далей ад паганскага ўплыву; яны гаварылі адзін аднаму, што калі я вярнуся ў прэрыі, у ціпі, я дэгенерую, скачуся ў паганства, як гэта было зь іншымі дзяўчынкамі; выйду мо замуж за паганца -- і ўсе гады іхнай працы й навучаньня пойдуць прахам.

Я нічога не гаварыла, але чакала. І тады аднойчы ўначы пачуцьці нахлынулі на мяне. Я была ў гадсанбэеўскай краме, як прыйшоў адзін індзеец з поўначы зь вялікім мехам аленіх скураў. Як яны яго вывернулі, рапт ягонага пранізьлівага водару запоўніў усю краму. Я падышла й на хвілінку нахілілася над скурамі, пасьля ўтапіла ў іх твар, глынаючы,

п'ючы іхны водар, што закружыў мне галаву, як віно. О, дзікі цуд драўлянага куродыму, ягоная далікатнасьць, неўтаймаваны ягоны пах! Я піла яго ў свае грудзі, усё маё нутро насычалася ім, аж пакуль мне не закружыла ў галаве, а сэрца быццам скурчылася ў фізічнай агоніі. Успаміны дзяцінства абрынуліся на мяне, паглынулі мяне. Я выйшла з крамы ў нейкім дзіўным, ціхім шаленстве й, ідучы хутка да місіянерскага дома, сутыкнулася з айцом Полам і запатрабавала пусьціць мяне "дадому", прынамсі на адзін дзень. Ён прыняў просьбу з такой жа адмовай, з тым жа пяшчотным уздыхам, якім мяне так часта адорвалі, але гэтага разу ні жаданьне, ні куродым, ні туга з таго не паменшалі.

З ночы ў ноч я цішком зьбягала на край сяла сачыць, як садзіцца сонца за гару, назіраць за далёкім небасхілам і прэрыямі, тужыць і тужыць за сваім бацькоўскім домам. А Лорэнс -- вечна гэты Лорэнс -- мой русявы, сьмяшлівы дзіцячы сябра, прыходзіў і клікаў мяне:

-- Эстэр, дзе ты? Мы сумуем па табе; хадзі, Эстэр, хадзі са мной.

А калі я не вярталася ў той жа час, ён падыходзіў і клаў свае крэпкія рукі мне на плечы й сьмяяўся мне ў вочы й казаў:

-- Гуляка, гуляка, Эстэр; а хіба *мы* не можам зрабіць цябе шчасьлівай?

Мой стары дзіцячы сябра зьнік гады таму. Цяпер ён быў высокім, страмкім юнаком, прыгожым, як малады правадыр, толькі са сьмяшлівымі блакітнымі вачыма й з гэтымі вечнымі русявымі кучарамі на сківіцах. Ён быў маёй уцехай у гэтым маім паў-выгнаньні, маім сябрам, маім братам, аж пакуль аднаго вечара гэта сталася:

-- Эстэр, Эстэр, а хіба *я* не магу зрабіць цябе шчасьлівай?

Я не адказала яму. Адно глядзела на раўніны й думала пра ціпі.

Ён падышоў блізка-блізка. Агарнуў мяне крэпка рукамі, я ўткнулася тварам яму ў шыю, і мы гэтак моўчкі стаялі. Я чула, як хлынула кроў з майго сэрца аж да самых кончыкаў пальцаў. Я кахала яго. О, Божа, як я яго кахала! Адным шалёным, сьляпым раптам усё гэта найшло, толькі таму што ён трымаў мяне вось так і парывіста шаптаў:

-- Не пакідай мяне... Не пакідай мяне, Эстэр: *мая* Эстэр, мая дзіцячая каханка, мая сяброўка, мая таварка, мая маленькая Кры-нічка... Няўжо ты пойдзеш да сваіх, ці застанешся, застанешся са мной, з маімі рукамі, як яны трымаюць цябе цяпер?

Але. Больш ніякіх ціпі, ніякіх дзікіх абшараў прэрый, ніякай задурэлай далікатнасьці задымленай скуры, ні замшавай пасьцелі, ні мяккіх пульхных макасінаў; ні цёмных твараў маіх суродзічаў, ні гартаннай пяшчоты салодкай Кры-мовы – адно гэты чалавек, што трымае мяне ў сваіх руках, у сваім сэрцы. Мая душа малілася ў той момант ягонаму вялікаму беламу Богу, каб Ён даў мне адное гэта.

...Ужо на зьмярканьні мы пераступілі браму місіі. Абое былі ўсхваляваныя да дрыготкі. Айцец Пол чытаў вечаровую малітву ў вялікім пакоі за заляй; ягоны мяккі, па-сьвятоцку, голас шапацеў за дзьвярыма, як нашае дабраславеньне. Я нячутна паднялася ў свой пакой і праседзела там нерухома гадзіны.

Унізе прабіла гадзіну апоўначы, штурхануўшы мяне ад маіх шчасьлівых летуценьняў, і ў той жа момант мяне прывабіў выбліск сьвятла. Мой пакой знаходзіўся ў куце будынку, і вокны зь яго глядзелі проста ўніз у кабінэт айца Пола, у які ён як раз і ўваходзіў зь лямпай.

-- Авохці, Лорэнс! – пачула я ягоны ўскрык. – Што ты тут робіш? Я думаў, дзіця маё, што ты даўно ўжо ў ложку!

-- Не, дзядзька, ня ў ложку, але ў снах, -- адказаў Лорэнс, падымаючыся з вакна, дзе ён, пэўна, правёў такія ж начныя гадзіны, як і я.

Айцец Пол крыху пакорпаўся, знайшоў сваю вялікую чорную кнігу, зь якой ён гэтым разам такі расстаўся, і ўжо зьбіраўся пайсьці, як цікаўнасьць да абставінаў, чаму Лорэнс знаходзіцца тут у такі незвычайны час, здаецца, стукнула яму ізноў.

-- Хадзі лепш спаць, сыне мой, -- сказаў ён проста і потым дабавіў зь цікаўнасьцю. – Што-небудзь здарылася, што трымае цябе тут?

Тады Лоренс сказаў:

-- Не, дзядзька. Хіба... адно.., што я – шчасьлівы і ўсё.

Айцец Пол стаяў, няўцямны. Потым:

-- Гэта -- ...?

-- Эстэр, – сказаў Лорэнс ціха, але  з годнымі, такімі прывабнымі вачыма.

Айцец Пол паставіў лямпу на стол, але, як звычайна, не выпускаючы з рук той чорнай кнігі, вялікага казаньня свайго жыцьця. Ягоны твар быў яшчэ бялейшым, чым я калісь бачыла – магільным.

-- Распавядзі, -- патрабаваў ён.

Я выцягнулася са свайго вакна й бачыла іх абаіх. Я слухала ўсім сваім сэрцам, бо ж Лорэнс гаварыў пра мяне, пра сваё каханьне, пра новую радасьць, што адкрылася нам у тую ноч.

-- Ты нічога не сказаў ёй аб шлюбе? – спытаўся айцец Пол.

-- Ды не. Але яна, пэўна, разумее, што...

-- Ты гаварыў аб *шлюбе*? – паўтарыў ойча Пол з суворым звонам у голасе, што быў для мяне навіной.

-- Не. Але...

-- Добра. Тады добра.

Кароткае маўчаньне. Лорэнс стаяў, уперыўшыся ў старога, як быццам першы раз яго бачыў, і назіраючы, як той, падсунуўшы вялізны фатэль да стала, павольна ўсеўся ў яго; потым мэланхалічна ёрзаючы, разваліўся ў ім. Галава старога ладна нахілілася, але вочы, бліскучыя, былі надзіва прывабныя . Ён пачаў:

-- Лорэнс, дзіця маё, твая будучыня ёсьць найдаражэйшым для мяне з усіх зямных інтарэсаў. – Чаму ты *ня можаш* ажаніцца з гэтай дзяўчынай... Не, не, сядзі, сядзі, дай жа ж я скончу. – дабавіў ён падвышаным тонам, як Лорэнс запярэчліва ўскочыў. – Я ўжо даўно вырашыў, як табе добра ажаніцца. Ну, напрыклад, з дачкой фабрыканта з Гадсан Бэй.

І тут Лорэнс пырснуў рогатам:

-- Як, дзядзька? Ідачка Макінтош? Ажаніцца з гэтым жаўтавалосым пульхным мячыкам, гэтым кацянём, гэтай пекнай лялечкай?

-- Чакай! -- сказаў айцец Пол з мяккай настойлівасьцю. – Яна ж *белая*, Лорэнс.

Мой каханы схамянуся.

-- Што, дзядзька? Што ты маеш на ўвазе? – прамармытаў ён.

-- Толькі гэта, сын мой: бедная Эстэр, яна ж – сумніўнай крыві. Як гэта так, табе – пляменьніку місіянера, прыёмнаму сыну, можна сказаць, – ажаніцца з дачкой паганскага індзейца? Ейная маці безнадзейна нецывілізаваная; у ейнага бацькі хаця й ёсьць нейкія рыскі француза, але...  Паўкроўка, разумееш, дзіця, паўкроўка.

Потым, прыжмурыўшы хітра вочы, ён дабавіў так жа мякка й безапэляцыйна:

-- Нядобрай, нядобрай мяшанкі кроў, ты *ведаеш* гэта. Ты ведаеш таксама, што я люблю гэтую дзяўчыну, бедную дарагую Эстэр. Я хацеў адвесьці яе ад злога паганскага ўплыву; яна ж дачка нашае Царквы; і я хачу, каб у яе не было іншых бацькоў. Але ніколі нельга сказаць, што тоіцца *ў замкнёным у клетцы зьверы, які некалі быў вольным.* Я ўсім сэрцам зь індзейцамі, сыне мой; усё маё сэрца, усё маё жыцьцё прысьвечана таму, каб прывесьці іх да Хрыста, *але ажаніцца з адным зь іх – гэта зусім іншая рэч.*

Ягоныя маленькія старыя вочы былі ўпіўшыся ў Лорэнса, як каршун у пацука. Сэрца маё ільдзінай абрынулася долу.

Лорэнс, белы, бездыханны, моўчкі ўтаропіўся ў яго.

-- Зьедзь куды-небудзь, -- узняўся стары. – У Вініпэг, Таронта, Манрэаль. Забудзь яе. Потым вяртайся да Іды Макінтош. Яднаньне Царквы й Гадсан Бэй будзе добрай справай і зможа ўрэшце садзейнічаць мэце майго жыцьця -- цывілізацыі ўсяго племені, дзеля якога мы столькі працуем, каб прывесьці яго да Бога.

Я слухала, седзячы, што скамянелая. Няўжо гэтыя словы вымаўляліся маім найпачасьнейшым настаўнікам, тым, каго я шанавала, як аднаго з тых сьвятых зь ягонай чорнай кнігі? Ат, не, мне не падалося гэта. Мой белы бацька, мой сябра, які ўсё жыцьцё ўдаваў, што любіць мяне, што клапоціцца аб маім шчасьці, спанукаў чалавека, якога я кахала, забыць мяне, ажаніцца з дачкой фабрыканта – таму што... чаму? Таму, што ў мяне чырвоная скура, таму, што ў мяне старая добрая годная паганская маці й прыстойны франка-індзейскі бацька. Раптам у вадначасьсе выявілася, што ўся ягоная апека, ягоная паказная любоў, якой ён мяне адорваў ад самага майго дзяцінства, -- іх ніколі й не было. Я ненавідзела гэтага старога місіянерскага сьвятара, як я ненавідзела ягонае бела-людзкае пекла. Я ненавідзела ягоныя даўгія белыя валасы; я ненавідзела ягоныя танклявыя белыя рукі; я ненавідзела ягонае цела, ягуную душу, ягоны голас, ягоную чорную кнігу – ох, як я ненавідзела ўсё, што тычылася яго.

Лорэнс сядзеў нерухома, тварам у далоні, а стары працягваў:

-- Не-не, толькі не дачка тае паганскае маці, ты ня можаш давяраць ёй, сыне мой. Што ты будзеш рабіць з жонкай, якая можа ў любы дзень кінуць цябе й вярнуцца да сваіх прэрыяў ды аленіх скураў. *Ёй нельга давяраць*.

Ягоныя вочы звузіліся, заблішчэлі, і таямніча, па-змоўніцку, нахіліўшыся да Лорэнса, ён зашаптаў:

-- Успомні ейную маўклівасьць, ейны нячутны поступ; гэтая дзяўчына шульгае вакол, што той прывід; а ейныя хуткія пальцы, ейная прага да волі – я ня ведаю, чаму, але пры ўсёй маёй прыхільнасьці да яе, яна нагадвае мне нешта дзіўнае – зьмяю.

Лорэнс здрыганууўся, падняў твар і глуха прамовіў:

-- Ты маеш рацыю, дзядзька. Пэўна, што мне ня варта... Я сыду, я забуду яе й тады... тады, хай... так, ты маеш рацыю, гэта, *сапраўды*, іншая рэч – ажаніцца з адным зь іх.

Стары падняўся. Нядужыя пальцы ўсё так жа сьціскалі чорную кнігу; мяккія, белыя валасы апраўлялі ягоны лоб, што ў таго апостала; вочы палагоднелі, згубіўшы хітры пагляд; плечы выпрасталіся ў постаць прыстойнага пасланьніка жывога Бога – ён прадстаўляў сабой таго, каго гандляры называлі “сьв. Пол”.

-- Дабранач, дзядзька. І дзякуй, што ты дапамог мне апамятацца.

Гэта былі апошнія словы, якія я пачула з вуснаў і таго старога шатана, і ягонага слабога, няшчаснага родзіча. Ойча Пол завярнуўся й пайшоў з пакою. Я глядзела, як ягоныя сухія рукі – рукі, якія я так часта адчувала на сваёй галаве падчас сьвятых дабраславеньняў – клацнулі дзьвярной клямкай, павольна павярнулі яе, потым, з бледным тварам, захіліўшы галаву ў свае думы, ён выйшаў з пакою – выйшаў разам з вар’яцкім ядам маёй нянавісьці, што рушыла ўсьлед за ім, як той д’ябал, пра якога ён мяне навучаў.

І што цяпер зь ягонай дабрынёй і апекай? Што мне да ягонага Бога, зь ягонымі нябёсамі й ягоным пеклам? Ён выкраў мяне з маёй роднай веры, ад маіх бацькоў, маіх суродзічаў, і ўрэшце, ад таго жыцьця ў каханьні, якое магла б запекаваць такая годная жанчына, як я. Божа! Як я ненавідзела яго!

Я пракралася да каморы ў маім пакойчыку. Намацала клунак, у які не заглядала гадамі – так, ён тут. Замшавая сукня, у якую я была апранутая маленькай дзяўчынкай, калі мяне прывезьлі да місіі – засунула яе падпахі й нячутна сышла па лесьвіцы. Зазірну ў кабінет, скажу “бывай” Лорэнсу, і потым...

Я расчыніла дзьверы. Ён ляжаў на канапе, дзе нядаўна шчэ сядзеў белы й зьнямелы, слухаючы айца Пола. Я ціхенька падышла да яго. Божа ў нябёсах, ён ужо спаў! Як я нахілілася да яго, уся паўната ягонай дасканалай прыгажосьці адразу ахінула мяне. Страмкая фігура, круглы рот, які амаль што сьмяяўся нават у сне, сьветлыя раскіданыя валасы, гладкая шыя. Божа! Як я яго кахала!

І тут намаляваўся вобраз дачкі фабрыканта. Я ненавідзела яе. Я ненавідзела ейны дзіцячы тварык, жоўтыя валасы, бялявую скуру. “Ня выйдзе яна за яго замуж!” – сказала мая душа. – Я заб’ю яго – заб’ю ягонае прыгожае цела, ягонае ілжывае, крывадушнае сэрца”.

Здаецца, нехта гаварыў у маім сэрцы. Ён гаварыў і гаварыў ізноў: “Забі яго, забі. І ён не дастанецца ёй. Забі. Гэта разаб’е сэрца айцу Полу й атруціць ягонае жыцьцё. Ён забіў самае дарагое ў цябе, у тваёй жаноцкасьці – забі *ягонае* дарогое, роднае, ягоную надзею – сына сястры, пляменьніка Лорэнса”. Але як? як?

Як там казаў той гадкі стары: да каго я падобная? Да *дзіўнай зьмяі*. Змяя? Ідэя сама вілася вакол мяне зьмяінымі кольцамі. Што гэта тут, у маёй клумцы, расшытай бусінамі, у маёй скураной сукні? Маленькая пушачка з драўлянай кары, што дала мне мама на расстаньне са словамі: “Не чапай зашмат, але, можа, будзе час, калі ты захочаш гэта!” О! Я добра ведала, што гэта – завостранае пёрка, змочанае ядам нейкай *дзіўнай зьмяі*.

Я ўкленчыла перад ім і даткнулася вуснаміі да ягонай рукі. Я багоміла яго. О, як, як я яго кахала! І тут зноў перад вачыма *ейны* дзіцячы тварык, *ейныя* жоўтыя валасы... Я драпнула двойчы яму па запясьці кончыкам пяра. Адна маленечкая кропелька чырвонай крыві вылузлася, ён паёрзаў. Я пагасіла лямпу й высьлізнула з пакою – з дома.

Па начах мне сьняцца жахі бела-людзкага пекла. Навошта яны навучалі мяне яму, толькі каб шпурнуць мяне ў яго?

Мінулай ноччу, калі я коўзалася побач з маці па бычыных скурах, Дэн Гандэрсан, трапёр, палячы, разгаварыўся з бацькам. Ён сказаў, што стары айцец Пол зусім згорбіўся ад гора, што пасьля майго зьнікненьня я пад падазрэньнем, але доказаў няма. Хіба гэта не было проста ўкусам зьмяі?

Яны ўважаюць, што гэта таму, што я -- чырвонаскурая.

Здаецца, яны забыліся, што я – жанчына.

# ЗЬМЕСТ

